## IV.

### Аб цэнтральных арганізацыях партыі.

16. Дапоўніць статут ВКП(б) наступнымі палажэннямі аб Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі:

а) Усесаюзная канферэнцыя склікаецца з прадстаўнікоў мясцовых арганізацый для абмеркавання наспеўшых пытанняў палітыкі партыі;

б) Усесаюзная канферэнцыя склікаецца не радзей аднаго разу ў год;

в) Дэлегаты Усесаюзнай канферэнцыі выбіраюцца на пленумах абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый;

г) Парадак выбараў і нормы прадстаўніцтва на Усесаюзную канферэнцыю ўстанаўліваюцца ЦК ВКП(б);

д) Усесаюзнай канферэнцыі прадастаўляецца права замяняць частку членаў ЦК, г. зн. права выводзіць з састава ЦК паасобных членаў ЦК, якія не забяспечваюць выканання імі сваіх абавязкаў, як членаў ЦК, і замяняць іх іншымі, але ў колькасці не больш адной пятай састава ЦК, выбранага З'ездам партыі. Усесаюзная канферэнцыя папаўняе састаў членаў ЦК з ліку кандыдатаў, выбраных З'ездам партыі, і ўзамен іх выбірае адпаведную колькасць новых кандыдатаў у члены ЦК;

е) рашэнні Усесаюзнай канферэнцыі, за выключэннем рашэння аб замене членаў ЦК і выбранні новых кандыдатаў у члены ЦК, якое не мае патрэбы ў зацвярджэнні ЦК ВКП(б), падлягаюць зацвярджэнню ЦК ВКП(б). Рашэнні Усесаюзнай канферэнцыі, зацверджаныя ЦК ВКП(б), з'яўляюцца абавязковымі для ўсіх партыйных арганізацый;

ж) члены ЦК, калі яны не з'яўляюцца дэлегатамі па поўнамоцтву ад мясцовых арганізацый, удзельнічаюць у работах Усесаюзнай канферэнцыі з правам дарадчага голасу.

## V.

### Аб партыйным стажы для сакратароў абкомаў, гаркомаў, райкомаў і начальнікаў палітаддзелаў Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота.

17. У мэтах стварэння неабходных умоў для вылучэння на кіруючую партыйную работу новых кадраў партыйных работнікаў, у змяненне адпаведных параграфаў статута, устанавіць партыйны стаж для сакратароў абкомаў, крайкомаў, ЦК нацкомпартый замест 12 год не менш 5 год, для сакратароў гаркомаў замест 10 год не менш 3 год, для сакратароў райкомаў замест 7 год не менш 3 год і для сакратароў пярвічных партыйных арганізацый і цэхпарторгаў замест стажу ў першым выпадку не менш 3 год, а ў другім не менш 2 год, устанавіць партыйны стаж не менш 1 года.

Для начальнікаў палітупраўленняў акруг, флотаў і армій лічыць абавязковым замест 10-гадовага—5-гадовы партыйны стаж і для начальнікаў палітаддзелаў дывізій і брыгад замест 6-гадовага—3-гадовы партыйны стаж.

VI.

## Аб краявых-абласных-рэспубліканскіх арганізацыях партыі.

18. Устанавіць, што ў абкомах, крайкомах і ЦК нацкомпартый павінна быць 4—5 сакратароў, у тым ліку першы сакратар, другі сакратар, сакратар па кадрах і сакратар па прапагандзе.

VII.

## Аб акруговых арганізацыях партыі.

19. Прадаставіць акруговым партыйным арганізацыям статутныя правы, дапоўніўшы статут ВКП(б) адпаведным палажэннем.

VIII.

## Аб партарганізацыях у Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскім Флоце.

20. У сувязі са стварэннем Наркамата Ваенна-Марскога Флота распаўсюдзіць статутнае палажэнне аб партыйных арганізацыях у Чырвонай Арміі таксама на партарганізацыі Ваенна-Марскога Флота, устанавіўшы, што палітычнае Упраўленне Ваенна-Марскога Флота працуе на правах Ваенна-Марскога Аддзела ЦК ВКП(б).

IX.

## Аб пярвічных партыйных арганізацыях.

21. Для павышэння ролі пярвічных партыйных арганізацый вытворчых прадпрыемстваў, у тым ліку соўгасаў і калгасаў, і іх адказнасці за стан работы прадпрыемстваў, прадаставіць гэтым арганізацыям права кантроля работы эдміністрацыі прадпрыемства.

Наркамацкія партыйныя арганізацыі, якія, у сілу асобых умоў работы совецкіх устаноў, функцыямі кантроля карыстацца не могуць, абавязаны сігналізаваць аб недачотах у рабоце ўстановы, адзначаць недахопы ў рабоце наркамата і яго паасобных работнікаў і накіроўваць свае матэрыялы і меркаванні ў ЦК ВКП(б) і кіраўнікам наркамата.

Сакратары наркамацкіх партыйных арганізацый зацвярджаюцца ЦК ВКП(б).

Усе комуністы—работнікі цэнтральнага апарата наркамата ўваходзяць у адну агульнанаркамацкую партыйную арганізацыю.

22. У змяненне існуючага палажэння іменаваць надалей выбарныя органы пярвічных партыйных арганізацый не камітэтамі, а бюро (бюро такой-то партыйнай арганізацыі).

23. Бюро пярвічных партарганізацый ствараюцца ў партарганізацыях, якія налічваюць не менш 15 членаў партыі.

24. У мэтах быстрага вырошчвання і выхавання членаў партыі ў духу калектыўнага кіраўніцтва прадаставіць права цэхавым партыйным арганізацыям, якія налічваюць не менш 15, але не больш 100 членаў партыі, выбіраць бюро цэхавай партыйнай арганізацыі ў саставе ад 3 да 5 чалавек, а налічваючым звыш 100 членаў партыі— ад 5 да 7 чалавек.

---

# Пастановы ЦК ВКП(б)

## I.

**Аб правядзенні сходаў пярвічных партарганізацый, раённых, гарадскіх, краявых партканферэнцый і з'ездаў нацкомпартый, у сувязі са скліканнем XVIII з'езда ВКП(б).**

1. У перыяд з 1-га лютага па 1-е сакавіка 1939 г. правесці:

а) Закрытыя сходы пярвічных партыйных арганізацый для выбараў дэлегатаў на раённыя і гарадскія партканферэнцыі;

б) раённыя і гарадскія партканферэнцыі для выбараў дэлегатаў на абласныя, краявыя партканферэнцыі і з'езды нацкомпартый саюзных рэспублік, не маючых абласнога дзялення;

в) абласныя, краявыя партканферэнцыі і з'езды нацкомпартый саюзных рэспублік, не маючых абласнога дзялення, для выбараў дэлегатаў на XVIII з'езд ВКП(б).

2. Выбары дэпутатаў на партыйныя канферэнцыі, дэлегатаў на XVIII з'езд ВКП(б) правесці шляхам закрытага (тайнага) галасавання.

3. У гарадскіх партарганізацыях, маючых раённае дзяленне, выбары дэлегатаў на абласныя, краявыя партканферэнцыі і з'езды нацкомпартый правесці на раённых партыйных канферэнцыях.

4. На сходах пярвічных партарганізацый, раённых, гарадскіх, абласных, краявых партканферэнцыях і з'ездах нацкомпартый абмеркаваць тэзісы па дакладу тав. Молатава аб трэцім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР і тэзісы па дакладу т. Жданава аб змяненнях у статуце ВКП(б).

## II.

**Аб абмеркаванні тэзісаў к XVIII партыйнаму з'езду.**

1. Тэзісы па дакладу тав. Молатава—«Трэці пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі СССР» (2-гі пункт парадку дня з'езда) і па дакладу тав. Жданава—«Змяненні ў Статуце ВКП(б)» (3-ці пункт парадку дня з'езда)—паставіць на абмеркаванне партыйных сходаў і ў друку.

2. Пры «Правде» выдаць «Дыскусійны лісток», у якім друкаваць крытычныя артыкулы, папраўкі і канкрэтныя прапановы к тэзісам.

---

# Восемнаццаты з'езд большэвіцкай партыі

10 сакавіка адкрыецца чарговы, XVIII з'езд нашай вялікай Усесаюзнай Комуністычнай Партыі (большэвікоў). Лепшыя сыны нашай радзімы, адданыя вучні вялікага Сталіна падвядуць на з'ездзе вынікі гіганцкай работы, праробленай працоўнымі нашай краіны пад кіраўніцтвам партыі і яе ленінска-сталінскага Цэнтральнага Камітэта, і намецяць задачы далейшага пераможнага шэствія ўперад, да комунізма.

XVIII з'езд большэвіцкай партыі заслухае справаздачны даклад ЦК ВКП(б), з якім выступіць правадыр партыі і народа—таварыш Сталін, справаздачныя даклады Цэнтральнай рэвізійнай камісіі і дэлегацыі ВКП(б) у ВККІ. У парадку дня XVIII з'езда стаіць даклад тав. Молатава аб трэцім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР, даклад тав. Жданава аб змяненнях у статуце ВКП(б) і будуць праведзены выбары камісіі па змяненню праграмы ВКП(б), а таксама выбары цэнтральных органаў партыі.

З'езды большэвіцкай партыі маюць велізарнае значэнне ў жыцці нашай партыі, у жыцці ўсяго совецкага народа, у гісторыі міжнароднага рэволюцыйнага руху. Бо гэта—з'езды партыі, якая стаіць на чале магутнай соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян, партыі, якую стварылі і выкавалі найвялікшыя геніі чалавецтва—Ленін і Сталін, партыі, якая сваім мудрым большэвіцкім кіраўніцтвам забяспечыла сусветна-гістарычныя перамогі соцыялізма на адной шостай частцы зямнога шара, партыі, якая пераможна вядзе народы нашай соцыялістычнай радзімы да поўнага трыумфу комунізма.

Кожны з'езд партыі Леніна—Сталіна ярка дэманструе ўсеперамагаючую сілу комунізма, умацоўвае ўпэўненасць у яго сусветным трыумфе, натхняе масы міжнароднага пролетарыята і прыгнечаных усяго свету на барацьбу з прыгнятальнікамі.

XVII з'езд партыі, які адбыўся пяць год назад, увайшоў у гісторыю ВКП(б) як **з'езд пераможцаў**. Да гэтага з'езда за годы першай сталінскай пяцігодкі быў ужо створан у нашай краіне непахісны фундамент соцыялістычнай эканомікі, створана першакласная соцыялістычная індустрыя і буйнае машынізаванае земляробства, ліквідавана беспрацоўе ў горадзе і жабрацтва на вёсцы, знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам, забяспечаны ўмовы для безупыннага павышэння матэрыяльнага і культурнага ўзроўню працоўных. Соцыялістычны ўклад стаў непадзельна пануючай і адзінай камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы СССР.

Семнаццаты з'езд ВКП(б) намеціў разгорнутую праграму барацьбы за канчатковую ліквідацыю капіталістычных элементаў, праграму завяршэння рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, павелічэння пра-

дукцыі соцыялістычнай індустрыі і сельскай гаспадаркі, умацавання абароннай магутнасці нашай соцыялістычнай радзімы.

Перыяд паміж XVII і XVIII з'ездамі партыі з'яўляецца новай выдатнай паласой у развіцці нашай соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян. За пяць год, якія прайшлі з часу XVII з'езда, совецкі народ, кіруемы партыяй Леніна—Сталіна, пабудаваў у нашай краіне велічны будынак соцыялізма. Соцыялізм, аб якім марылі пакаленні, увайшоў у быт совецкага народа, ён стаў рэчаіснасцю, ён пранізаў усе бакі нашага жыцця.

Агульны вынік нашых перамог ярка выражан геніем чалавецтва таварышом Сталіным у яго дакладзе на VIII Надзвычайным з'ездзе Советаў аб праекце Канстытуцыі СССР:

«Наша совецкае грамадства дабілася таго, што яно ўжо ажыццявіла ў асноўным соцыялізм, стварыла соцыялістычны лад, г. зн. ажыццявіла тое, што ў марксістаў называецца інакш першай або ніжэйшай фазай комунізма. Значыць, у нас ужо ажыццёўлена ў асноўным першая фаза комунізма, соцыялізм».

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пад вадзіцельствам вернага прадаўжальніка справы Маркса—Энгельса—Леніна—таварыша Сталіна—СССР бліскуча ажыццявіў прыняты XVII з'ездам ВКП(б) другі пяцігадовы план развіцця народнай гаспадаркі.

У тэзісах даклада тав. Молатава XVIII з'езду ВКП(б) аб трэцім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР (1938—1942 гг.), адобраных у асноўным Палітбюро ЦК ВКП(б), падведзен вынік слаўнаму шляху, пройдзенаму нашай соцыялістычнай радзімай за годы другой сталінскай пяцігодкі, адлюстраваны слаўныя справы совецкага народа і акрэслен шлях далейшага соцыялістычнага будаўніцтва СССР на перыяд трэцяй сталінскай пяцігодкі.

Велізарнейшыя сусветна-гістарычныя перамогі, атрыманыя нашай краінай у другой пяцігодцы, і грандыёзныя перспектывы далейшага развіцця народна-гаспадарчага і культурнага будаўніцтва СССР у трэцяй пяцігодцы ўсяляюць у сэрцы мільёнаў працоўных нашай соцыялістычнай радзімы пачуцце законнага гонару, узбройваюць нашу партыю, рабочы клас, сялянства, інтэлігенцыю ўпэўненасцю ў барацьбе за новыя перамогі комунізма, упэўненасцю ў тым, што наша радзіма будзе паспяхова працягваць свой росквіт, узмацняць сваю магутнасць на страх ворагам і на радасць працоўным усяго свету.

Галоўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой сталінскай пяцігодкі з'явілася завяршэнне тэхнічнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі нашай краіны. Гэта задача ў асноўным вырашана. Другая пяцігодка ў галіне прамысловасці і транспарта выканана датэрмінова. Прырост прамысловай прадукцыі ў другой пяцігодцы склаў 120 процантаў пры заданні 114 процантаў, у сярэднім за кожны год яна вырастала на 17,1 проданта супроць намечаных па плану 16,5 проданта.

Пераможнае выкананне другой пяцігодкі—магутнае сведчанне непераможнасці совецкага ладу, гіганцкіх пераваг соцыялістычнай сістэмы перад капіталістычнай. У спаборніцтве з соцыялізмам капіталізм траціць усё новыя і новыя пазіцыі, наша краіна заваёўвае ўсё новыя і новыя перамогі. У той час, як прамысловая вытворчасць у краінах капіталізма за 1938 год у параўнанні з 1937 годам упала на 13,5 проданта, прамысловая вытворчасць у СССР вырасла на 12 процантаў. Па ўзроўню валавой прадукцыі прамысловасці наша краіна вышла на першае месца ў Еўропе і другое ў свеце.

Поўнасцю вырашана асноўная палітычная задача другой пяцігодкі—канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і знішчэнне прычын, якія параджаюць класы і эксплаатацыю чалавека чалавекам. Удзельная вага соцыялістычных форм гаспадаркі ва ўсім народным набытку складае цяпер 99,1 проц., у валавой прадукцыі ўсёй прамысловасці—99,8 проц., у валавой прадукцыі ўсёй сельскай гаспадаркі—98,6 проц. і ў рознічным тавараабароце—100 проц.

За мінулае пяцігоддзе прадукцыйнасць працы нашага рабочага павялічылася больш, чым у два разы, а ў капіталістычных краінах размер гадавой выпрацоўкі на аднаго рабочага за апошнія 7—8 год застаецца нязменным. Адзін толькі гэты факт ясна сведчыць аб перавагах соцыялістычнай працы і пацвярджае ленінскае геніяльнае ўказанне: «Капіталізм... будзе канчаткова пераможан тым, што соцыялізм створыць новую, значна больш высокую прадукцыйнасць працы».

Толькі на падставе перамог соцыялізма, атрыманых у нашай краіне, мог узнікнуць магутны стаханаўскі рух, які падрыхтоўвае ўмовы для пераходу ад соцыялізма да комунізма. Гэты рух з'яўляецца бліскучым пацвярджаннем таго, што вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя дала народу не толькі палітычную свабоду, але і матэрыяльныя ўмовы для заможнага і культурнага жыцця. У мінулым пяцігоддзі наш совецкі народ з асаблівай сілай адчуў плады вялікіх перамог ленінска-сталінскага плана будаўніцтва соцыялізма. Нязмерна ўзняўся матэрыяльны і культурны ўзровень жыцця працоўных нашай краіны. У два разы і больш узрасло народнае спажыванне. Сярэднегадавая зарплата рабочых і служачых вырасла ў 1937 годзе ў параўнанні з 1932 годам на 113,5 процанта. Фонд заработнай платы павялічыўся на 150 проц. супроць 55 проц., прадугледжаных планам другой пяцігодкі. Валавы даход калгасаў узрос за чатыры годы больш чым у 2,7 раза, а грашовыя выдаткі, размяркоўваемыя па працаднях,—у 4,5 раза.

У гэтыя годы праведзена сапраўдная культурная рэволюцыя. Наша краіна пакрылася густою сеткаю школ і вышэйшых навучальных устаноў, дварцоў культуры, клубаў і т. д. Толькі з 1934 па 1937 год колькасць вучняў пачатковых і сярэдніх школ узрасла з 22 мільёнаў да 28 мільёнаў 800 тысяч. У 1938 годзе колькасць студэнтаў ВНУ дасягнула 600 тысяч чалавек замест 417 тысяч у 1934 годзе. Гераічныя людзі совецкай краіны, перадавыя вучоныя сваімі вынаходствамі, сваёй творчай працай упісалі новыя бліскучыя старонкі ў развіццё сусветнай навукі і тэхнікі.

У нашай краіне з кожным днём растуць і квітнеюць таленты народа. Акадэмія Навук СССР папоўнілася новымі сапраўднымі членамі, сярод іх лепшыя таленавітыя прадстаўнікі рабочага класа і калгаснага сялянства: Лысенка, Цыцын, Собалеў, Образцоў і рад другіх буйнейшых вучоных з сусветным іменем. Узнагароджан ордэнамі перадавы атрад пісьменнікаў нашай радзімы. Высокую ўзнагароду народа атрымалі паэты і пісьменнікі БССР, народныя паэты рэспублікі Янка Купала і Якуб Колас; Змітрок Бядуля, Міхась Лынькоў, Эдуард Самуйлёнак, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка. Іх творчасць высока ацэнена партыяй і совецкім урадам.

Бліскучых поспехаў дасягнула і соцыялістычнае земляробства. Узнялася ўраджайнасць калгасных і соўгасных палёў. Наша самая перадавая ў свеце сельская гаспадарка шчыльна падышла да вырашэння задачы—штогодна знімаць з соцыялістычных палёў 7—8 мільярдаў пудоў зерня.

У новай калгаснай вёсцы праца ў сваёй аснове стала рознавіднасцю індустрыяльнай працы. Калі к XVII з'езду ВКП(б) у МТС і соўгасах было 204 000 трактароў, то цяпер іх стала звыш 500 000. Камбайнаў у МТС тады налічвалася 11,5 тыс., а зараз іх 150 тысяч. Акрамя гэтага, наша соцыялістычная сельская гаспадарка мае звыш 170 тысяч аўтамабіляў, сотні тысяч складаных і поўскладаных сельскагаспадарчых машын. Усёй гэтай складанай і рознастайнай тэхнікай кіруюць нашы народныя кадры, выхаваныя комуністычнай партыяй і совецкай уладай. Апіраючыся на калгасны лад, наша краіна зрабіла буйны крок уперад па шляху ліквідацыі процілеглласці паміж горадам і вёскай.

Бліскучая перамога калгаснага ладу дае яркі прыклад велізарнейшай жыццёвай сілы марксізма-ленінізма. Наша большэвіцкая партыя пераможна ажыццявіла сталінскі план калектывізацыі—**гэты глыбокі** рэволюцыйны пераварот, роўназначны «па сваіх выніках рэволюцыйнаму перавароту ў кастрычніку 1917 года»,—таму што кіравалася перадавой рэволюцыйнай тэорыяй. Яна смела ўзялася за гэта беспрыкладнае рэволюцыйнае пераўтварэнне, бо была ўпэўнена ў перамозе і перамагла. З завяршэннем калектывізацыі сельскай гаспадаркі і канчатковым умацаваннем калгаснага ладу соцыялістычная сістэма вытворчасці стала непадзельна пануючай ва ўсёй народнай гаспадарцы СССР. Як непарушная аснова совецкага грамадства, зацвердзілася соцыялістычная ўласнасць на сродкі вытворчасці ва ўсёй народнай гаспадарцы.

З перамогай соцыялістычнай сістэмы змянілася ў корані класавая структура совецкага грамадства. Ужо к канцу другой пяцігодкі 94,4 процанта ўсяго насельніцтва было занята ў соцыялістычнай сістэме гаспадаркі. Насельніцтва нашай краіны складаецца цяпер з двух дружаственных класаў—рабочых і сялян, а таксама інтэлігенцыі, грані паміж якімі, чым далей, тым ўсё больш сціраюцца. Працоўныя нашай соцыялістычнай радзімы ў падаўляючай большасці з'яўляюцца актыўнымі будаўнікамі бяскласавага грамадства, будаўнікамі комунізма.

На гэтай аснове стварылася моцнае маральна-палітычнае адзінства совецкага народа. Народ і комунізм у нашай краіне зліліся ў адзінае непарыўнае цэлае, ператварыліся ў такую сілу гістарычнага развіцця, якой не страшны ніякія ворагі, ніякія сілы капіталістычнага свету.

Яркім пацверджаннем маральна-палітычнага адзінства совецкага народа з'яўляецца бліскучая перамога блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР і Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік. Галасуючы за кандыдатаў непераможнага блока комуністаў і беспартыйных, совецкі народ галасаваў за палітыку большэвіцкай партыі, за правадыра народаў таварыша Сталіна, за комунізм. Гэтыя выбары прайшлі на аснове вялікай Сталінскай Канстытуцыі, якая знамянуе сабой цэлую эпоху ў гісторыі чалавецтва, служыць узорам правядзення паслядоўнага, да канца соцыялістычнага дэмакратызма, канчаткова замацаваўшы перамогу соцыялізма ў нашай краіне.

Совецкая Беларусь, пры брацкай дапамозе і падтрыманні вялікага рускага народа і ўсёй сям'і народаў Совецкага Саюза, пры неаслабнай увазе і клопатах Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна, комуністычнай партыі і саюзнага ўрада, на аснове няўхільнага ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі,—ператварылася ў перадавую індустрыяльна-калгасную краіну і стала непрыступным фарпостам совецкіх рубяжоў на Захадзе.

За годы двух сталінскіх пяцігодак вырасла наша соцыялістычная прамысловасць. Па аб'ёму валавой прадукцыі прамысловасць БССР у канцы другой пяцігодкі перавысіла даваенны ўзровень у 20 раз. У 1937 годзе выпушчана прадукцыі амаль на 2 мільярды рублёў.

Удзельная вага прамысловасці ва ўсёй гаспадарцы БССР узрасла ў 1938 годзе да 79,6 процанта, сельскай гаспадаркі—да 20,4 процанта. Толькі ў буйную прамысловасць БССР укладзена 860 мільёнаў рублёў. Створаны новыя галіны прамысловасці: машынабудаўнічая, хімічная, цэментная, тлушчавая.

На калгасных палях Беларусі працуе 8.141 трактар, звыш 1000 камбайнаў, каля 4000 аўтамашын і многа іншых сельскагаспадарчых машын.

Сусветна-гістарычныя перамогі, атрыманыя совецкім народам пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, пад мудрым кіраўніцтвам вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна, выклікаюць законны гонар і радасць усіх удзельнікаў соцыялістычнага будаўніцтва, усіх прыяцеляў СССР, усяго прагрэсіўнага чалавецтва. Яны наглядна паказваюць працоўным усяго свету, што толькі соцыялістычны лад, заваяваны ў барацьбе з эксплаататарамі, гарантуе працоўным радаснае, культурнае і заможнае жыццё, тое жыццё, якое пры капіталізме з'яўляецца для працоўных недасяжнаю марай.

Нашы перамогі не прышлі самі сабой. Яны былі заваяваны ва ўпартай барацьбе з ворагамі ўсіх масцей, з агентурай фашысцкіх разведак—трацкістамі, бухарынцамі, буржуазнымі нацыяналістамі. Гэта фашысцкая мразь сваёй тайнай падрыўной работай хацела перашкодзіць партыі і народу будаваць заможнае, шчаслівае і культурнае соцыялістычнае жыццё. Яна ставіла сваёй злачыннаю мэтай падрыў абароннай магутнасці СССР, расшчапленне нашай радзімы, аднаўленне ў нашай краіне агіднага капіталістычнага рабства.

Але ворагі пралічыліся.

> «Гэтыя белагвардзейскія казяўкі забылі, што гаспадаром Совецкай краіны з'яўляецца Совецкі народ, а паны рыкавы, бухарыны, зіноўевы, каменевы з'яўляюцца ўсяго толькі—часова знаходзячыміся на службе ў дзяржавы, якая ў любую мінуту можа выкінуць іх з сваіх канцылярый, як непатрэбны хлам.
>
> Гэтыя нікчэмныя лакеі фашыстаў забылі, што варта Совецкаму народу варухнуць пальцам, каб ад іх не асталося і следу»*).

Пад кіраўніцтвам партыі і таварыша Сталіна совецкі народ разграміў змяіныя гнёзды фашысцкіх наёмнікаў. Знішчэнне трацкісцка-бухарынскай банды—велізарная перамога партыі і совецкага народа, роўная выйгрышу вялікай бойкі ў вайне. Пад кіраўніцтвам партыі, узброены ўказаннямі таварыша Сталіна аб павышэнні рэволюцыйнай пільнасці совецкі народ да канца вылавіць усіх фашысцкіх наймітаў і знішчыць усіх варожых паследышаў.

* * *

Вялікі гістарычны этап пройдзен нашай краінай за перыяд ад XVII да XVIII з'езда партыі. Совецкая краіна, ідучы насустрач XVIII з'езду ВКП(б), уступіла «ў новую паласу развіцця, у паласу завяршэння будаўніцтва соцыялістычнага грамадства і паступовага

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 328.

пераходу да комуністычнага грамадства, дзе кіруючым пачаткам грамадскага жыцця павінен быць комуністычны прынцып: «Ад кожнага—па яго здольнасцях, кожнаму—па яго патрэбнасцях» *).

Тэзісы даклада тав. Молатава на XVIII з'ездзе ВКП(б) аб трэцім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР адкрываюць перад намі новыя шырокія магчымасці далейшага руху уперад ва ўсіх галінах будаўніцтва комунізма. Трэцяя сталінская пяцігодка азначае новы гіганцкі крок уперад па шляху да поўнага трыумфу комунізма.

Тэзісы даклада тав. Молатава прадугледжваюць рост прамысловай прадукцыі за трэцюю сталінскую пяцігодку на 88 проц., гэта значыць, што аб'ём прамысловай прадукцыі ў 1942 годзе ўзрастае да 180 мільярдаў рублёў супроць 95,5 мільярда рублёў у 1937 годзе. Такім чынам сярэднегадавы тэмп росту прамысловай прадукцыі павінен скласці 13,5 проц. Прычым сярэднегадавы прырост па вытворчасці сродкаў вытворчасці ўстанаўляецца ў 15,2 проц., а па вытворчасці прадметаў спажывання—у 11 проц.

У трэцяй сталінскай пяцігодцы машынабудаўніцтва, якое з'яўляецца базай тэхнічнага ўзбраення народнай гаспадаркі, павялічыць сваю прадукцыю ў 2,25 раза. Гэта значна вышэй агульнага росту прамысловасці. Максімальная ўвага, адведзеная ў трэцяй пяцігодцы машынабудаўніцтву, тлумачыцца неабходнасцю развіцця і ўкаранення перадавой тэхнікі ва ўсе галіны народнай гаспадаркі, у тым ліку ва ўсе галіны, звязаныя з абаронай СССР.

Трэцяя сталінская пяцігодка—гэта пяцігодка далейшага магутнага росту вугальнай і нафтавай прамысловасці, стварэння новых баз здабычы мясцовых вугаляў ва ўсіх раёнах, дзе ёсць хоць невялікія месцанараджэнні, шырокага прымянення газіфікацыі ўсіх відаў паліва і стварэння новай нафтавай базы, «Другога Баку», паміж Волгай і Уралам.

Велізарны рост намечан і ў электрапрамысловасці. Магутнасць электрастанцый узрастае за пяцігодку ў 2,1 раза. Гэта дасць магчымасць не толькі задаволіць попыт прамысловасці на электраэнергію, але і забяспечыць стварэнне значных рэзерваў электрычнай магутнасці.

Трэцяя пяцігодка з'яўляецца пяцігодкай хіміі. Прадукцыя хімічнай прамысловасці павінна павялічыцца ў 2,3 раза. Гэта забяспечыць ператварэнне хімічнай прамысловасці ў адну з вядучых галін, здольных поўнасцю задаволіць патрэбы народнай гаспадаркі і абароны краіны. Трэцяя пяцігодка з'яўляецца пяцігодкай спецыяльных сталей і якаснага пракату, пяцігодкай чорнай і каляровай металургіі, магутнага ўздыму лясной, лёгкай і харчовай прамысловасці. Усямернае развіццё набывае таксама мясцовая прамысловасць і промкааперацыя. У адпаведнасці з растучымі запатрабаваннямі насельніцтва на прадметы шырокага спажывання, у трэцяй пяцігодцы намячаецца павялічыць прадукцыю лёгкай прамысловасці ў 1,7 раза, а мясцовай прамысловасці і промкааперацыі—не менш чым у 2 разы.

Трэцяя сталінская пяцігодка ставіць адказныя ганаровыя задачы перад соцыялістычнай сельскай гаспадаркай. Тэзісы даклада таварыша Молатава намячаюць рост прадукцыі ва ўсёй сельскай гаспадарцы на 53 проц., сярэднегадавы збор зярна ў размеры 7 мільярдаў пудоў, буйны рост тэхнічных культур, цукровых буракоў, бавоўны, ільну, пры-

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 326—327

рост пагалоўя жывёлы і рост таварнай прадукцыі жывёлагадоўлі ў размерах, якія цалкам забяспечваюць вырашэнне праблемы жывёлагадоўлі ў СССР.

Праграма трэцяй сталінскай пяцігодкі намячае вялікі рост соцыялістычнага транспарта: чыгуначнага, воднага, аўтамабільнага. Чыгуначная сетка павялічваецца на 11 тыс. кілометраў за кошт будаўніцтва новых чыгуначных ліній і на 8 тыс. кілометраў за кошт укладкі другіх пуцей.

Аб'ём капітальных работ у трэцяй пяцігодцы прадугледжвае разгмяшчэнне будаўніцтва на 180 мільярдаў рублёў супроць 115 мільярдаў у другой пяцігодцы.

Будаўнічая праграма трэцяй пяцігодкі патрабуе шырокага пераходу да пабудовы сярэдніх і невялікіх прадпрыемстваў ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, рашучай барацьбы з гігантаманіяй у будаўніцтве. Гэта забяспечыць паскарэнне тэрмінаў будаўніцтва, уводу ў дзейнасць вытворчых магутнасцей і расканцэнтраванне новых прадпрыемстваў па асноўных эканамічных раёнах краіны.

Каб забяспечыць паспяховае выкананне вытворчай і будаўнічай праграмы трэцяй сталінскай пяцігодкі, неабходна ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі мець далейшы ўздым прадукцыйнасці працы, якая павінна ўзрасці ў прамысловасці на 65 працантаў, на чыгуначным транспарце—на 32 працанты, на водным транспарце—на 75 працантаў.

У СССР з года ў год ідзе няўхільны хуткі ўздым прамысловасці. Высокія тэмпы росту нашай прамысловай прадукцыі не могуць ісці ні ў якае параўнанне з тэмпамі развіцця гаспадаркі ў капіталістычных краінах. Аднак, паколькі наша краіна ў мінулым была надзвычай адсталай, узровень развіцця прамысловасці СССР яшчэ не дасягнуў узроўню найбольш развітых краін капіталізма. «Вядома, што на душу насельніцтва ў нашай краіне падае значна менш прамысловай прадукцыі, чым у такіх краінах, як Злучаныя Штаты Амерыкі, Англія, Германія, Францыя» *).

Асноўная эканамічная задача СССР—на працягу бліжэйшага часу дагнаць і перагнаць у эканамічных адносінах найбольш развітыя капіталістычныя краіны Еўропы і Злучаныя Штаты Амерыкі.

Гэту гістарычную задачу мы маем усе магчымасці выканаць. А для гэтага неабходна ўзняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню кіраўніцтва палітычнага, поўнасцю і хутчэй ліквідаваць рэшткі контррэвалюцыйнага шкодніцтва трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, усямерна павышаючы бальшэвіцкую пільнасць. Неабходна развіваць далей справу тэхнічнага ўзбраення ўсіх галін народнай гаспадаркі, вырошчвання вытворчых кадраў і высокага засваення тэхнікі, усямерна разгортваць соцыялістычнае спаборніцтва і стаханаўскі рух, няўхільна ўзмацняць працоўную дысцыпліну. Усё гэта дасць магчымасць стварыць тую вышэйшую прадукцыйнасць працы, якая на працягу бліжэйшага перыяда часу павінна зрабіць нашу краіну першай у свеце па размерах вытворчасці на душу насельніцтва, вывесці яе на першае месца ў эканамічных адносінах і тым «забяспечыць канчатковы поспех комунізма ў яго гістарычным спаборніцтве з капіталізмам».

Гіганцкі ўзнімаецца роля совецкай інтэлігенцыі ў барацьбе за рост культурнасці і комуністычнай свядомасці працоўных, роля бальшэ-

*) З тэзісаў даклада тав. Молатава.

віцкіх арганізатараў-кіраўнікоў, якія ўмеюць добра арганізаваць працу, падабраць людзей, праверыць выкананне.

Рашаючае значэнне для поспеху справы комунізма набывае зараз комуністычная свядомасць у адносінах да работы на агульную карысць, выхаванне працоўных у духу комунізма, пе'раадаленне перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей.

> «Цяпер, пасля канчатковага ўмацавання палітычных і эканамічных пазіцый соцыялістычнага грамадства ў СССР, рашаюць справу кадры, асвоіўшыя тэхніку вытворчасці, рашаюць справу совецкія культурныя сілы, якія стаяць на чале працоўных у іх вялікай барацьбе за поўную перамогу комунізма» *).

Залогам перамог у трэцяй сталінскай пяцігодцы з'яўляецца большэвіцкае кіраўніцтва партыі Леніна—Сталіна, якая няўхільна вядзе народы СССР ад перамогі да перамогі. Узброеная рэволюцыйнай тэорыяй марксізма-ленінізма, веданнем законаў грамадскага развіцця, яна ўмее правільна арыентавацца ў абстаноўцы і прадбачыць ход гістарычных падзей. Наша большэвіцкая партыя, якая цесна звязана з народам, не мае іншых інтарэсаў, акрамя інтарэсаў народа, забяспечыць пераможнае завяршэнне будаўніцтва соцыялізма і ажыццяўленне пераходу да комунізма.

* * *

Велізарнае значэнне мае трэці пункт парадку дня XVIII з'езда партыі: «Змяненні ў статуце ВКП (б)».

Апублікаваныя па гэтаму пытанню тэзісы даклада тав. Жданава, адобраныя ў асноўным Палітбюро ЦК ВКП(б), з'яўляюцца выдатным дакументам, які ярка адлюстроўвае вялікія перамогі соцыялізма, атрыманыя совецкім народам пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна.

Гэты дакумент сведчыць аб росце сілы і магутнасці нашай партыі, аб жалезным адзінстве і згуртаванасці яе радоў, аб яе непахіснай вернасці ленінізму, аб поўнай баявой гатоўнасці яе да вырашэння грандыёзных задач трэцяй сталінскай пяцігодкі, да барацьбы за поўны і канчатковы трыумф комунізма.

Прасякнуты сталінскімі клопатамі аб арганізацыйнай магутнасці большэвіцкай партыі—партыі новага тыпу, гэты дакумент адлюстроўвае яе гіганцкі вопыт, паказвае карэнныя змены, якія ўтварыліся ў эканоміцы і класавай структуры совецкага грамадства. Ён намячае ўнясенне ў статут ВКП(б) раду змен і дадаткаў, што выцякаюць з новай гістарычнай абстаноўкі, у якой дзейнічае партыя, і з вопыту, накопленага ёю ў партыйным будаўніцтве.

Перамога соцыялізма ў нашай краіне, карэнныя змены ў класавым складзе насельніцтва СССР ставяць па-новаму рад пытанняў арганізацыйна-партыйнага будаўніцтва. Змены, якія ўтварыліся ў класавай структуры совецкага грамадства, выклікаюць таксама неабходнасць змяніць і ўмовы прыёму ў партыю.

> «У гэтай новай абстаноўцы,—гаворыцца ў тэзісах даклада тав. Жданава,—наспела неабходнасць змянення прадугледжаных статутам умоў прыёму ў партыю новых членаў. Цяпер дзеючы, згодна статуту партыі, парадак прыёму ў

*) З тэзісаў даклада тав. Молатава.

партыю па чатырох розных катэгорыях, у залежнасці ад сацыяльнага становішча прымаемага ў партыю, яўна не адпавядае змяніўшайся ў выніку перамогі соцыялізма ў СССР класавай структуры совецкага грамадства. Патрэба ва ўстанаўленні розных катэгорый пры прыёме ў партыю і рознага кандыдацкага стажу адпадае. У сувязі з гэтым да ўсіх прымаемых у партыю павінны быць устаноўлены адзіныя ўмовы прыёму і аднолькавы кандыдацкі стаж, незалежна ад іх прыналежнасці да рабочага класа, сялянства або інтэлігенцыі».

Тэзісы прадугледжваюць прадстаўленне ўсімі ўступаючымі ў члены і кандыдаты ВКП(б) толькі трох рэкамендацый членаў партыі з трохгадовым партыйным стажам, якія ведаюць іх па сумеснай рабоце не менш аднаго года. Для выхадцаў з іншых партый захоўваецца стары парадак прыёму. Новыя ўмовы прыёму яшчэ больш зблізяць нашу партыю з масамі рабочых, сялян і совецкай інтэлігенцыі.

У тэзісах гаворыцца таксама аб неабходнасці адмяніць статутнае патрабаванне да кандыдатаў, уступаючых у члены партыі, па якому ад кандыдатаў патрабуецца не толькі **прызнанне** праграмы і статута ВКП(б), але і засваенне праграмы.

Таварыш Сталін у дакладзе на лютаўска-сакавіцкім пленуме ЦК ВКП(б) (1937 г.) звярнуў увагу на такое няправільнае патрабаванне:

«У нас ёсць праверaная і вытрымаўшая ўсе іспыты ленінская формула аб членстве ў партыі. Па гэтай формуле членам партыі лічыцца той, хто **прызнае** праграму партыі, плаціць членскія ўзносы і працуе ў адной з яе арганізацый. Звярніце ўвагу: у ленінскай формуле гаворыцца не аб **усваенні** праграмы, а аб **прызнанні** праграмы. Гэта дзве зусім розныя рэчы».

Ад уступаючых у партыю неабходна патрабаваць прызнання праграмы і статута ВКП(б), далейшай работы, ужо ў радах партыі, над павышэннем тэарэтычнага ўзроўню і засваення праграмы, каб яны маглі стаць тэарэтычна падрыхтаванымі большэвікамі.

У новай паласе развіцця СССР задачы кожнага большэвіка яшчэ больш узраслі. Актыўнасць членаў партыі нязмерна павысілася і павінна павышацца ўсё больш і больш. Усё гэта дыктуе неабходнасць «дапоўніць статутнае палажэнне аб членах партыі і іх абавязках палажэннем аб правах членаў партыі, якія лічацца само сабой разумеючыміся, але не адзначаны ў статуце»*).

У статут ВКП(б), як гэта прадугледжана ў тэзісах тав. Жданава, павінен быць унесен дадатак, які гаворыць аб праве членаў партыі крытыкаваць на партыйных сходах любога работніка партыі, аб праве выбіраць і быць выбраным у партыйныя органы, аб праве членаў партыі патрабаваць асабістага ўдзелу ва ўсіх выпадках, калі выносяцца рашэнні аб іх дзейнасці або паводзінах, аб праве членаў партыі звярачацца з любым пытаннем і заявай у любую партыйную інстанцыю, аж да ЦК ВКП(б).

Тэзісы тав. Жданава па-новаму ставяць пытанне аб ачышчэнні партыяй сваіх радоў ад асоб, якія парушаюць праграму, статут, дысцыпліну партыі. Вопыт паказаў, што ў новых умовах неабходна адмовіцца ад метада масавых чыстак партыі. У цяперашняй абста-

*) З тэзісаў даклада тав. Жданава.

ноўцы, калі капіталістычныя элементы ліквідаваны і соцыялізм моцна ўвайшоў у быт, такі метад чысткі страціў глебу. Жыццё паказала, што ў сучасны перыяд не масавыя чысткі з'яўляюцца асноўнай умовай ачышчэння партыйных радоў. Пры масавых чыстках мелі месца шматлікія неабгрунтаваныя выключэнні з партыі, а варожыя элементы, якія абманным шляхам прабраліся ў партыю, праходзілі некалькі масавых чыстак і ў далейшым былі выкрыты як ворагі народа. Таму перыядычныя масавыя чысткі павінны быць адменены. «Партыя можа ў звычайным парадку ачышчаць свае рады ад асоб, якія парушаюць праграму, статут, дысцыпліну партыі». Патрэбен толькі самы ўважлівы падыход, большэвіцкае ўменне адрозніваць прыяцеля ад ворага.

Тэзісы тав. Жданава прадугледжваюць дапаўненне статута ВКП(б) радам палажэнняў, якія павінны:

«а) забяспечыць уважлівы падыход і старанны разбор абгрунтаванасці абвінавачанняў, прад'яўленых члену партыі;

б) аградзіць права членаў партыі ад усякага сваявольства;

в) із'яць з практыкі прымяненне выключэння з партыі, якое з'яўляецца вышэйшай мерай партыйнага пакарання ў адносінах да членаў партыі, зрабіўшых малаважныя праступкі».

Новы статут адлюструе тыя мерапрыемствы партыі, якія былі праведзены ў сувязі з паваротам у палітычным жыцці краіны. Развіццё соцыялістычнага дэмакратызма, вялікі рост палітычнай актыўнасці мас у сувязі з прыняццем Сталінскай Канстытуцыі патрабуе ад партыі безумоўнага і поўнага правядзення ў жыццё ўнутрыпартыйнай дэмакратыі. Партыя правяла вялікую работу ў гэтай галіне. Была адменена практыка кааптацыі, забаронена пры выбарах партыйных органаў галасаванне спісам і ўстаноўлена, што галасаванне павінна праводзіцца па асобных кандыдатурах. За ўсімі членамі партыі было забяспечана неабмежаванае права адводу кандыдатаў і крытыкі іх. Пры выбары партыйных органаў устаноўлена закрытае (тайнае) галасаванне кандыдатаў, устаноўлена абавязковасць перыядычнага склікання гарадскіх партыйных актываў.

Як сведчыць жыццё, гэтыя мерапрыемствы забяспечылі далейшае разгортванне большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, уздым адказнасці партыйных органаў перад партыйнай масай, рост актыўнасці членаў партыі і кандыдатаў. Усё гэта садзейнічала ўздыму партыйна-палітычнай і партыйна-арганізацыйнай работы, і гэты ўздым трэба замацаваць і развіць далей.

У адпаведнасці з новымі задачамі павінен быць перабудован і партыйны апарат. Прапануемыя ў тэзісах тав. Жданава змены ў арганізацыйнай пабудове партыйнага апарата накіраваны на тое, каб лепш ажыццяўляць ленінска-сталінскія прынцыпы арганізацыйнай работы. Прадугледжана ліквідацыя вытворча-галінных аддзелаў партыйных камітэтаў і канцэнтрацыя справы падбору, вывучэння і расстаноўкі кадраў ва Упраўленні кадраў ЦК ВКП(б), а ў ЦК нацкомпартый, абкомах, крайкомах, гаркомах, і райкомах — у аддзелах кадраў. Гэта перабудова партыйнага апарата забяспечыць **правільны падбор людзей і праверку выканання.**

Замест распыленай праверкі выканання партыйных дырэктыў паміж рознымі вытворча-галіннымі аддзеламі ЦК ВКП(б) гэта праверка будзе сканцэнтравана ў адным месцы—у Камісіі Партыйнага

Кантроля. Задачай КПК павінна быць узмацненне кантролю за выкананнем рашэнняў ЦК ВКП(б) і арганізацыя сістэматычнай праверкі работы мясцовых органаў. КПК павінна працаваць пры ЦК ВКП(б). Таму адпадае неабходнасць выбрання КПК непасрэдна на з'ездзе партыі. КПК павінна выбірацца Пленумам ЦК ВКП(б) і працаваць пад кіраўніцтвам і па дырэктывах ЦК ВКП(б).

Партыя паставіла задачу—перамагчы тэарэтычную і палітычную адсталасць нашых кадраў, узброіць іх марксісцка-ленінскай тэорыяй. Каб паставіць на належную вышыню разгортванне партыйнай прапаганды і агітацыі, кіраўніцтва гэтай важнейшай галіной работы будзе сканцэнтравана ва Упраўленні прапаганды і агітацыі пры ЦК ВКП(б) і ў аддзелах прапаганды і агітацыі мясцовых рэспубліканскіх, краявых, абласных, гарадскіх і раённых арганізацый. У гэтых аддзелах будзе сканцэнтравана ўся работа па кіраўніцтву друкаванай і вуснай прапагандай і агітацыяй.

У тэзісах даклада тав. Жданава ўдзелена вялікая ўвага пярвічным партыйным арганізацыям, іх уменню правільна спалучаць партыйна-палітычную работу з барацьбой за развіццё гаспадаркі і паляпшэнне дзяржаўнага апарата. Партыйным арганізацыям вытворчых прадпрыемстваў павінна быць прадастаўлена права кантролю за становішчам спраў на прадпрыемстве, у соўгасе, калгасе. Гэта ўзмоцніць ролю пярвічных партыйных арганізацый ва ўсіх галінах гаспадарчага жыцця.

Важнае значэнне мае прапануемае тэзісамі тав. Жданава дапаўненне схемы цэнтральных арганізацый партыі—з'езда партыі, ЦК ВКП(б)—новым органам: Усесаюзнай партыйнай канферэнцыяй, якая склікаецца не радзей аднаго раза ў год для абмеркавання наспеўшых пытанняў палітыкі партыі.

У тэзісах падрабязна ўказваюцца правы Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі і парадак яе склікання. Скліканне кожны год Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі дазволіць яшчэ хутчэй рэагаваць на пытанні, якія высоўваюцца жыццём, і своечасова вырашаць іх з поўным улікам вялікага калектыўнага вопыту нашай большэвіцкай партыі.

Такавы асноўныя пытанні партыйнага будаўніцтва, адлюстраваныя ў тэзісах даклада тав. Жданава: «Змяненні ў статуце ВКП(б)».

* * *

Тэзісы даклада тав. Жданава, як і тэзісы даклада тав. Молатава, з'яўляюцца дакументамі сусветна-гістарычнага значэння. Гэтыя дакументы з усёй паўнатою адлюстроўваюць тую кіпучую і рознастайную дзейнасць, якую вядзе наша партыя. Яны паказваюць шлях, па якому наша партыя і яе ЦК на чале з таварышом Сталіным вядуць совецкі народ да новых бліскучых перамог соцыялізма. Прадз'ездаўскія дакументы ЦК ВКП(б)—сведчанне магутнай сілы партыі Леніна—Сталіна, партыі новага тыпу, якая ў дасканаласці ўладае марксісцка-ленінскай тэорыяй. Гэтыя дакументы натхняюць усіх працоўных у іх барацьбе за поўны трыумф комунізма, яшчэ цясней згуртоўваюць усіх комуністаў, увесь совецкі народ вакол ЦК ВКП(б), вакол правадыра народаў таварыша Сталіна, які вядзе нас цвёрда і ўпэўнена ад перамогі да перамогі.

Уся наша партыя, увесь совецкі народ з вялікім натхненнем і уздымам сустрэлі рашэнне пленума ЦК ВКП(б) аб скліканні

XVIII з'езда партыі і апублікаванне тэзісаў тт. Молатава і Жданава. Праграма завяршэння будаўніцтва бяскласавага сацыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад сацыялізма да комунізма, пададзеная ў тэзісах, выклікала вялікі ўздым палітычнай і вытворчай актыўнасці працоўных нашай сацыялістычнай радзімы. Працоўныя фабрык і заводаў, калгасаў і соўгасаў, савецкіх устаноў, усямерна разгортваючы сацыялістычнае спаборніцтва і стаханаўскі рух, сустракаюць XVIII з'езд новымі вытворчымі перамогамі, новымі поспехамі на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва.

Партыйныя сходы, якія адбыліся на прадпрыемствах, у калгасах, соўгасах і ўстановах, раённыя, гарадскія і абласныя канферэнцыі ў нашай рэспубліцы, як і па ўсяму СССР, паказваюць велізарны ідэйна-палітычны рост партыйных радоў, іх беззаветную адданасць ленінска-сталінскаму Цэнтральнаму Камітэту партыі і таварышу Сталіну—арганізатару і натхніцелю перамог сацыялізма.

Партыйныя сходы і канферэнцыі, якія ўсюды прайшлі на небывала высокім ідэйна-палітычным узроўні, цалкам і поўнасцю адобрылі тэзісы дакладаў тт. Молатава і Жданава. Выключная актыўнасць і арганізаванасць—адметныя рысы падаўляючай большасці прайшоўшых партсходаў. Прапановы, якія выносіліся комуністамі пры абмеркаванні тэзісаў дакладаў тт. Молатава і Жданава, прасякнуты адной мысллю—яшчэ больш умацаваць магутнасць нашай сацыялістычнай радзімы, зрабіць жыццё савецкага народа яшчэ лепш, заможней, культурней.

Партыя Леніна—Сталіна ідзе да свайго XVIII з'езда адзінай, цесна згуртаванай вакол Цэнтральнага Камітэта, вакол правадыра партыі і народа—таварыша Сталіна. Яна дэманструе перад усім светам сваю магутную волю, сваю поўную гатоўнасць да баёў за канчатковы трыумф комунізма.

---

# Імя Серго будзе жыць у вяках

## (Да 2-годдзя з дня смерці Серго Орджанікідзе)

Два годы назад наша партыя і ўсе народы СССР панеслі цяжкую ўтрату. 18 лютага 1937 года памёр на баявым рэвалюцыйным пасту буйнейшы дзеяч большэвіцкай партыі, бліжэйшы прыяцель і саратнік вялікага Сталіна, камандарм цяжкай прамысловасці, бясстрашны, палкі барацьбіт за комунізм—Серго Орджанікідзе. Імя яго ў сэрцах мільёнаў працоўных перажыве вякі.

У паведамленні аб канчыне Серго Орджанікідзе Цэнтральны Камітэт ВКП(б) абвяшчаў: «Смерць таварыша Орджанікідзе, дарагога для ўсёй партыі, рабочага класа СССР, працоўных усяго свету, беззаганна чыстага і стойкага партыйца, большэвіка, які аддаў сваё слаўнае гераічнае жыццё справе рабочага класа, справе комунізма, з'яўляецца самай цяжкай утратай для ўсёй партыі і Савецкага Саюза».

Больш трыццаці год таварыш Орджанікідзе плячом к плячу з вялікім Сталіным, пад яго кіраўніцтвам нёс вялікі сцяг большэвізма. Партыя даручала яму самыя цяжкія баявыя заданні ў цяжкія годы падполля, у годы грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі, самыя складаныя палітычныя і гаспадарчыя ўчасткі работы ў годы пераможнага будаўніцтва соцыялізма.

У час глухой рэакцыі, у 1907 годзе, тав. Орджанікідзе пад кіраўніцтвам свайго настаўніка Сталіна вядзе вялікую прапагандысцка-агітацыйную і арганізацыйную работу ў Закаўказзі, згуртоўваючы там сілы большэвізма.

З маладых год пазнаў тав. Орджанікідзе жах царскіх засценкаў, перагоны з турмы ў турму, камедыі царскіх судоў. Ужо ў красавіку 1908 года Судовая палата прыгаварыла Серго да вечнай ссылкі ў Сібір і пазбаўлення ўсіх правоў. Вясной 1909 года Серго высылаюць у Енісейскую губернію, адкуль яму ўдалося бегчы праз два месяцы. Ён зноў вярнуўся ў Баку і працягваў весці рэволюцыйную работу.

Восенню 1910 года тав. Орджанікідзе прыехаў у Парыж, дзе сустрэўся з Леніным. Ільіч горача палюбіў маладога рэволюцыянера, высока ацаніў яго здольнасці.

Пасля кароткага перыяду вучобы ў арганізаванай Леніным большэвіцкай партыйнай школе ў Лонжумо тав. Орджанікідзе адпраўляецца зноў у Расію, дзе па даручэнню Леніна праводзіць велізарную работу па скліканню агульнарасійскай партыйнай канферэнцыі.

У студзені 1912 года тав. Орджанікідзе ўдзельнічае ў работах Пражскай партыйнай канферэнцыі, якая падвяла вынік усёй папярэдняй барацьбе большэвікоў з апартунізмам і пастанавіла выгнаць

з партыі меншавікоў, аформіўшы самастойнае існаванне большэвіцкай партыі. На гэтай канферэнцыі тав. Орджанікідзе разам з Леніным, Сталіным, Свердловым быў выбран у склад Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі. На гэтай-жа канферэнцыі ён быў уведзен у склад Практычнага цэнтра па кіраўніцтву рэволюцыйнай работай у Расіі (Рускае бюро ЦК), на чале якога быў пастаўлен таварыш Сталін. Пасля Пражскай канферэнцыі тав. Орджанікідзе з даручэннем Леніна паехаў у Сольвычэгодск да таварыша Сталіна, які там знаходзіўся ў ссылцы. Разам з таварышом Сталіным, якому ўдалося бегчы з ссылкі, Серго Орджанікідзе аб'ехаў рад гарадоў Расіі, робячы даклады аб Пражскай канферэнцыі.

Вясной 1912 года тав. Орджанікідзе быў схоплен паліцыяй і пасаджан у турму, а ў 1915 годзе ён быў сасланы ва Усходнюю Сібір, дзе і знаходзіўся да рэволюцыі 1917 года.

Вестка аб лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі 1917 года застала Серго ў далёкай якуцкай ссылцы. Тут ён праводзіць першыя мерапрыемствы большэвіцкай партыі, накіраваныя на замацаванне і пашырэнне заваёў рэволюцыі, з'яўляючыся членам Выканаўчага Камітэта Якуцкага совета і камітэта грамадскай безапаснасці.

Ніколі не забудуць працоўныя нашай соцыялістычнай радзімы благароднай ролі тав. Орджанікідзе ў ліпеньскія дні 1917 года, калі ён разам са Сталіным рашуча выступаў супроць здраднікаў рэволюцыі Троцкага, Каменева, Рыкава, патрабаваўшых дабраахвотнай яўкі Леніна на суд контррэволюцыі. Сталін і Серго катэгарычна адверглі гэтую агідную прапанову. Яны настаялі, каб Ленін скрыўся ў падполлі і тым самым выратавалі тады жыццё геніяльнага правадыра соцыялістычнай рэволюцыі.

Разам з вялікім Сталіным тав. Орджанікідзе рыхтаваў VI з'езд большэвіцкай партыі, які нацэліў партыю на ўзброенае паўстанне, на соцыялістычную рэволюцыю. Па даручэнню тав. Сталіна Серго ездзіў да Леніна ў падполле напярэдадні Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Ён быў у перадавых радах барацьбітоў, якія штурмавалі капіталізм у кастрычніцкія дні 1917 года.

Пролетарскі рэволюцыянер Серго з невычарпальнай энергіяй і велізарным энтузіязмам абараняў радзіму ў годы грамадзянскай вайны. Імя Серго—бясстрашнага палкаводца Чырвонай арміі—пакрыта неўвядаемай славай.

У першыя-ж дні совецкай улады Серго разграміў пад Пулкавам казачы корпус генерала Краснова, а затым на радзе рашаючых фронтаў, куды яго накіроўвалі Ленін і Сталін, пераможна камандаваў чырвонаармейскімі часцямі, метка разіў ворагаў, знішчаў белагвардзейскія полчышчы і войскі інтэрвентаў.

Серго—надзвычайны камісар Поўдня, арганізатар і камандзір рэволюцыйных узброеных сіл Паўночнага Каўказа і Кубані, удзельнік падаўлення контррэволюцыйнага мецяжа ў Царыцыне, барацьбіт за ажыццяўленне сталінскага плана разгрому Дзенікіна, вызваліцель ад белагвардзейскіх банд Азербайджана, Грузіі, Арменіі, Беларусі,—такі баявы шлях Серго ў годы грамадзянскай вайны. Летам 1919 года Ленін паслаў тав. Орджанікідзе на Заходні фронт, дзе ў той час працаваў таварыш Сталін. Серго быў прызначан членам Рэўваенсовета 16 арміі. Пад яго кіраўніцтвам армія значна павысіла сваю боездольнасць і спыніла наступленне белапалякаў, замацаваўшы фронт на лініі ракі Бярэзіны.

Ніколі не памрэ цудоўнае імя Серго сярод народаў Грузіі, Закаўказзя, Азербайджана, Беларусі. Гэта ён са зброяй у руках мужна заваёўваў права на шчаслівае соцыялістычнае жыццё раней прыгнечаным і зняволеным масам працоўных. Па адрасу Серго вялікі Сталін на прыёме працоўных Азербайджана ў студзені 1936 года васклікнуў: «Прывітанне вызваліцелю Азербайджана! Ён першы ўвайшоў у Азербайджан!»

З выключнай мужнасцю і адданасцю змагаўся тав. Орджанікідзе на фронтах грамадзянскай вайны, абараняючы заваёвы вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. У момант выключнай небяспекі на Паўночна-Каўказскім фронце, калі белагвардзейцы захапілі Кубань і Дагестан, ён тэлеграфіруе Леніну: **«Будзьце ўпэўнены, што мы ўсе загінем у няроўным баі, але гонар сваёй партыі не зганьбім бегствам».** Тав. Орджанікідзе ўвайшоў у гісторыю грамадзянскай айчыннай вайны, як неўстрашымы рыцар пролетарскай рэволюцыі, як гераічны палкаводзец, які ўвасобіў жалезную ленінска-сталінскую волю да перамогі над контррэволюцыяй. Адною з выдатных старонак у цудоўнай кнізе тав. Орджанікідзе з'яўляецца перыяд яго работы ў якасці старшыні ЦКК і наркома РКІ, дзе ён нястомна змагаўся за чыстату партыйных радоў, ачышчаў партыю ад трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма, граміў двурушнікаў, здраднікаў, шкоднікаў і сабатажнікаў.

Застаючыся да канца свайго жыцця крыштальна-чыстым сцяганосцам большэвізма, ён асабістым прыкладам і ўсёй сваёй дзейнасцю, у страсных прамовах і артыкулах нястомна заклікаў любіць і берагчы партыю і на любым участку работы перш за ўсё свята захоўваць партыйнасць. Апошнія сем год свайго цудоўнага жыцця тав. Орджанікідзе стаяў на чале цяжкай прамысловасці СССР, з'яўляўся камандармам соцыялістычнай індустрыі.

З іменем Серго звязаны велізарнейшыя перамогі гаспадарчага будаўніцтва ў нашай краіне, ператварэнне СССР у магутную індустрыяльную дзяржаву. З яго іменем звязана бліскучае завяршэнне першых двух сталінскіх пяцігодак, пад яго непасрэдным кіраўніцтвам не толькі першая, але і другая пяцігодка цяжкай індустрыі перапможна выканана ў чатыры годы.

Таленавіты арганізатар, смелы наватар і кіраўнік буйнейшага ў свеце прамысловага будаўніцтва, ён быў кіраўніком, цяснейшымі узамі звязаным з народам. Ён узняў стаханаўскі рух на велізарную вышыню і выхаваў з асяроддзя стаханаўцаў сотні і тысячы таленавітых арганізатараў і кіраўнікоў ва ўсіх галінах прамысловасці. Тав. Орджанікідзе радаваўся кожнай перамозе стаханаўцаў, дапамагаў ім перамагаць коснасць і адкрыты сабатаж кансерватыўнай часткі гаспадарнікаў. Ён умеў падыходзіць да людзей з бацькаўскімі клопатамі і ўвагай і патрабаваў таго-ж ад сваіх памочнікаў і ўсіх гаспадарнікаў. У той-жа час Серго ні ў якім разе не быў мяккацелым чалавекам. Гэта быў баявы камандзір, у якім здзіўляючая мяккасць спалучалася з жалезнай цвёрдасцю. Серго ведаў у твар сотні радавых рабочых, ведаў іх радасці і трывогі. За справамі вялікай дзяржаўнай важнасці ён знаходзіў час паклапаціцца аб хворым дзіцяці работніцы, даведацца аб здароўі радавога інжынера. Яго любоў да народа, яго чуласць і сардэчнасць былі сапраўды бязмежны.

Нязмерны заслугі тав. Орджанікідзе і ва ўмацаванні абароннай магутнасці СССР. На аснове бліскучых перамог цяжкай індустрыі наша Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія забяспечана навейшай

ваеннай тэхнікай. Абаронная прамысловасць нашай краіны расце і мацнее з кожным годам. Яе магутнасць ужо адчуў на сабе наглы вораг, які спрабаваў пераступіць свяшчэнныя межы нашай краіны на Далёкім Усходзе. Будучы крыштальна чэсным буйнейшым дзяржаўным дзеячом ленінска-сталінскага тыпу, тав. Орджанікідзе горача любіў свой народ, сваю партыю і страсна ненавідзеў ворагаў краіны, праклятых здраднікаў.

У чарнавіку пісьма дырэктарам коксавых заводаў у 1937 годзе тав. Орджанікідзе пісаў: «Займіцеся выкараненнем усіх недахопаў, праверкай людзей і мабілізацыяй усіх работнікаў, каб выкананнем і перавыкананнем планаў адказаць на шкодніцтва ворагаў Савецкага Саюза Троцкага, Пятакова, Ратайчака і іх подлых агентаў».

Серго памёр на рэвалюцыйным пасту, калі яму споўнілася толькі 50 год. Прэзрэнная трацкісцка-бухарынская банда, якая паскорыла смерць дарагога байца ленінска-сталінскай партыі, нясе за гэта адказнасць перад гісторыяй.

Два годы назад, 21 лютага 1937 года, на жалобным мітынгу памяці тав. Орджанікідзе глава савецкага ўрада В. М. Молатаў гаварыў:

> «Ворагі нашага народа і ўсіх працоўных трацкісцкія выраднкі фашызма і іншыя подлыя двурушнікі, здрадніцкая работа якіх на службе асуджанай на хуткую пагібель буржуазіі выклікала такія вострыя і ўсім нам зразумелыя перажыванні тав. Орджанікідзе, нясуць адказ за тое, што ва многім паскорылі смерць нашага Серго... Мы ведаем, як на гэта адказаць».

Магутны савецкі народ, кіруемы партыяй Леніна—Сталіна, адказаў на гэта знішчэннем бандыцкіх гнёзд прэзрэнных слуг фашысцкіх разведак, якія выклікалі дачасную смерць любімца партыі, любімца ўсяго савецкага народа, незабываемага Серго. Серго з намі няма, але справа, за якую ён аддаў сваё кіпучае жыццё, жыве і развіваецца. Яго імя ўвекавечана ў індустрыяльных гігантах, вядомых далёка за межамі нашай радзімы, у поспехах соцыялістычнага будаўніцтва СССР.

За два годы, якія прайшлі з дня смерці незабываемага тав. Орджанікідзе, наша соцыялістычная радзіма, кіруемая геніем вялікага Сталіна, прасунулася далёка ўперад. СССР «уступіў у трэцім пяцігоддзі ў новую паласу развіцця, у паласу **завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма»** *).

Усё гэта з'яўляецца лепшым помнікам бясстрашнаму рыцару рэвалюцыі—Серго Орджанікідзе. Сціраючы ворагаў з твару савецкай зямлі, наш народ паставіць вечны помнік горача любімаму Серго тым вялікім будаўніцтвам, якое праднача́ртана ў тэзісах даклада яго бліжэйшага прыяцеля і саратніка—тав. Молатава—на XVIII з'ездзе большэвіцкай партыі.

У барацьбе за новыя, яшчэ больш велічныя перамогі комунізма, за выкананне трэцяй сталінскай пяцігодкі, за вырашэнне асноўнай эканамічнай задачы СССР—дагнаць і перагнаць перадавыя краіны капіталізма ў эканамічных адносінах—мы будзем заўсёды мець перад сабой незабываемы вобраз Серго Орджанікідзе—вялікага баявога саратніка Леніна і Сталіна.

---

*) З тэзісаў даклада тав. Молатава.

**К. Якаўлеў**

# 21 год Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота

У абстаноўцы велізарнейшых сусветна-гістарычных перамог сацыялізма ўвесь совецкі народ урачыста адзначыў 23-га лютага гадавіну Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота. За гэтыя 21 год разам з бурным ростам індустрыялізацыі краіны расла і ўсямерна ўмацоўвалася тэхнічная аснашчонасць РСЧА, расло і мацнела маральна-палітычнае адзінства яе байцоў.

Пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, пад мудрым кіраўніцтвам геніяльнага правадыра народаў вялікага Сталіна совецкі народ ажыццявіў першую фазу комунізма—пабудаваў соцыялізм у адной краіне. У барацьбе з подлымі здраднікамі, трацкісцка-бухарынскімі і буржуазна-нацыяналістычнымі агентамі фашысцкіх разведак—шпіёнамі, дыверсантамі, шкоднікамі і ўсёй варожай нечысцю, совецкі народ, дасягнуўшы поўных поспехаў у выкананні другой пяцігодкі, уступіў у новую паласу развіцця СССР, «у паласу завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма».

Завяршыўшы другую сталінскую пяцігодку поўнай перамогай соцыялізма па ўсяму фронту, совецкі народ з велізарнейшым пачуццем гонару і радасці абмяркоўвае тэзісы даклада тав. Молатава на XVIII з'ездзе ВКП(б) аб трэцім пяцігадовым плане развіцця народнай гаспадаркі СССР, адобраныя ў асноўным Палітбюро ЦК ВКП(б).

Велізарнейшую магутнасць СССР паказваюць лічбы трэцяй сталінскай пяцігодкі. Рост прамысловай прадукцыі намечана ўстанавіць у размеры 88 проц., сярэднегадовы тэмп росту—у размеры 13,5 проц.

Трэцяя сталінская пяцігодка—гэта пяцігодка магутнага росту соцыялістычнай індустрыі, велізарнага ўздыму соцыялістычнага земляробства, далейшага павышэння абараназдольнасці Совецкага Саюза, умацавання магутнасці нашай непераможнай Чырвонай арміі.

На базе велізарных перамог соцыялізма РСЧА стала непераможнаю сілай. 21 год стаіць яна на абароне першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы рабочых і сялян. Яе шлях авеян славай перамог над усімі ворагамі, якія прабавалі пасягнуць на нашу соцыялістычную радзіму.

23 лютага—дзень 21 гадавіны РСЧА—знамянальны яшчэ і тым, што ў гэты дзень уся Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія прыняла ваенную прысягу. Кожны баец, камандзір, камісар, начальнік, прымаючы прысягу, выразіў свае мыслі і пачуцці і, усведамляючы поўную адказнасць за лёс усёй дзяржавы, замацаваў сваім подпісам вялікую клятву служыць чэсна, верай і праўдай свайму народу,

сваёй радзіме і совецкаму ўраду, ад усёй душы абараняць родную зямлю, як падабае совецкаму патрыёту,—гераічна і ўмела, самааддана, мужна і пераможна.

Чырвоная армія з'яўляецца арміяй шматмільённага народа нашай краіны, таму і свята 21 гадавіны Чырвонай арміі з'яўляецца святам усяго совецкага народа.

Падводзячы вынікі будаўніцтву ўзброеных сіл пролетарскай дзяржавы за 21 год, нельга не ўспомніць геніяльных прадначартанняў вялікіх геніяў чалавецтва, асновапаложнікаў навуковага комунізма—Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса—аб стварэнні ўзброеных сіл народа для абароны будучага комуністычнага грамадства.

У 1845 годзе Энгельс пісаў:

«Член такога грамадства ў выпадку вайны... павінен абараняць сапраўдную бацькаўшчыну, сапраўдны ачаг, што ён, выходзіць, будзе змагацца з натхненнем, са стойкасцю, з храбрасцю, перад якімі павінна разляцецца, як салома, механічная вывучка сучаснай арміі» *).

Партыя Леніна—Сталіна была заўсёды верна заветам Маркса і Энгельса—вялікіх настаўнікаў рабочага класа. Ленін і Сталін развілі вучэнне Маркса і Энгельса аб узброеных сілах народа, выхоўваючы рабочы клас і сялянства ў барацьбе з ворагамі, ствараючы ўзброеныя сілы пролетарскай дыктатуры.

У «Дэкларацыі праў працоўнага і эксплаатуемага народа», распрацаванай В. І. Леніным пры ўдзеле таварыша Сталіна, запісана:

«У інтарэсах забеспячэння ўсёй паўнаты ўлады за працоўнымі масамі і ўстранення ўсякай магчымасці аднаўлення ўлады эксплуататараў дэкрэтуецца ўзбраенне працоўных, утварэнне соцыялістычнай Чырвонай арміі рабочых і сялян і поўнае разузбраенне маёмных класаў».

У дні вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі перад партыяй, рабочым класам і сялянствам паўсталі велізарныя задачы барацьбы з унутранай контррэволюцыяй.

Слаўнымі папярэднікамі Чырвонай арміі з'явіліся атрады Чырвонай гвардыі, створаныя ваеннай арганізацыяй нашай партыі. Чырвонагвардзейскія атрады 1917 і пачатку 1918 гг., куды ўвайшлі перадавыя элементы рабочага класа, узброеныя яснай палітычнай свядомасцю, высокай палітычнай арганізаванасцю, адданасцю інтарэсам свайго класа, вынеслі на сваіх плячах увесь цяжар узброенай барацьбы за ўстанаўленне ўлады Советаў. Яны прынялі першыя атакі контррэволюцыі і нанеслі ёй сакрушальны ўдар, забяспечыўшы трыумфальнае шэствіе совецкай улады.

«Падобна таму, як палітычная форма рабочай дзяржавы мае сваім правобразам советы рабочых дэпутатаў 1905 г., наша рабоча-сялянская Чырвоная армія сваімі карэннямі ўходзіць у баявыя рабочыя дружыны і атрады (тройкі і пяцёркі) першай расійскай рэволюцыі.

Чырвоная гвардыя і партызанскія атрады 1917 і пачатку 1918 гг. прадстаўлялі сабой адроджаныя баявыя дружыны 1905 г., выражаючыся вобразна, былі багатымі процантамі на капітал, укладзены нашай партыяй і рабочым класам у справу першай рускай рэволюцыі» **).

---

*) Цыціравана з перадавіцы „Красной звезды" № ад 5 студзеня 1936 г.
**) К. Е. Варашылаў. „Артыкулы і прамовы". стар. 237. БВА, Менск, 1934.

Чырвонагвардзейскія атрады, створаныя партыяй і рабочым класам у перыяд барацьбы за ўстанаўленне дыктатуры пролетарыята, на працягу першых месяцаў пасля ўстанаўлення савецкай улады забяспечылі перамогу над аб'яднанымі сіламі капіталістаў і памешчыкаў у цэнтральных раёнах. Але з прычыны сваёй малалікасці і недастатковай ваеннай вывучкі яны не ў сілах былі справіцца з вялікімі задачамі абароны совецкай дзяржавы.

Маладой совецкай рэспубліцы пагражала небяспека з боку царскіх генералаў, якія сцягнулі свае белагвардзейскія полчышчы на ўскраіны, пагражала небяспека з боку імперыялістычных краін, якім дапамагаў Іудушка Троцкі. Здраднік Троцкі, наперакор указанням Леніна і Сталіна, адмовіўся падпісаць мір з Германіяй і тым самым справакаваў наступленне нямецкіх войск. Мір быў адноўлен толькі дзякуючы таму, што Ленін і Сталін вялі жорсткую барацьбу супроць агідных здраднікаў—трацкістаў і бухарынцаў, выкрываючы подлы твар гэтых бандытаў—агентаў міжнароднага імперыялізма.

Каб адбіць напад аб'яднаных сіл міжнароднай і ўнутранай контррэволюцыі, трэба было стварыць магутную рэгулярную армію.

(15) 28 студзеня 1918 г. В. І. Ленін падпісаў гістарычны дэкрэт аб стварэнні першай у гісторыі чалавецтва арміі пролетарскай дыктатуры.

Чырвоная армія ўпачатку камплектавалася па прынцыпу добраахвотнасці, бо цяжка было ва ўмовах таго часу перайсці адразу да ўсеагульнай мабілізацыі рабочых, сялян і ўсіх працоўных. Велізарную работу па фарміраванню Чырвонай арміі праводзіла Усерасійская калегія, дзе камісарам арганізацыйна-агітацыйнага аддзела быў Л. М. Кагановіч.

Большэвіцкая партыя, перамагаючы супраціўленне трацкістаў і бухарынцаў, якія ярасна змагаліся супроць будаўніцтва класавай рэгулярнай, дысцыплінаванай арміі, здолела ў красавіку 1918 г. прызваць сотні тысяч добраахвотнікаў для барацьбы з белагвардзейцамі і інтэрвентамі.

21 лютага 1918 г. партыяй і ўрадам быў кінут кліч: «Соцыялістычная бацькаўшчына ў небяспецы!» Гэты кліч меў мэтай папярэдзіць усе партыйныя і совецкія арганізацыі аб пагражаючай небяспецы ў сувязі з наступленнем нямецка-аўстрыйскіх імперыялістаў і заклікаць народ да арганізацыі адпору.

В. І. Ленін звярнуўся з пісьмом да рабочых Петраграда, заклікаючы іх арганізаваць свае сілы, каб даць адпор нямецкім войскам, якія імкнуліся падыйсці да Петраграда.

У адказ на зварот Леніна і дэкрэт Совета Народных Камісараў рабочыя Петраграда і іншых прамысловых цэнтраў пачалі ствараць узброеныя атрады для барацьбы з нямецкім імперыялізмам. Гэтыя «атрады новай арміі—арміі рэволюцыйнага народа—тераічна адбівалі націск узброенага да зубоў германскага драпежніка» *). 23 лютага пад Нарвай і Псковам яны далі рашучы адпор наступаючым нямецкім войскам. Гэты дзень увайшоў у гісторыю, як дата нараджэння маладой Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Гэту гістарычную дату кожны год адзначаюць працоўныя нашай радзімы.

Прынцыпам добраахвотнага камплектавання ўзброеных сіл Совецкая рэспубліка зрабіла велізарны крок ад чырвонагвардзейскіх

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 205.

атрадаў да стварэння Чырвонай арміі. Але далейшыя абставіны патрабавалі пашырыць будаўніцтва арміі на аснове ўсеагульнага ваеннага абавязку працоўных. З гэтай мэтай 8 красавіка 1918 г. былі ўстаноўлены валасныя, павятовыя, губернскія і акруговыя камісары па ваенных справах. 22 красавіка 1918 г. быў выдан дэкрэт ВЦВК аб абавязковым навучанні ваеннай справе ўсіх рабочых і працоўных сялян, а 29 мая 1918 г. ВЦВК прыняў пастанову аб абавязковай мабілізацыі рабочых раду раёнаў найбольш паграджаемых абласцей.

Германскія полчышчы, выкарыстоўваючы здрадніцтва Троцкага, які парушыў дырэктыву Леніна і Сталіна аб неадкладным падпісанні міру, занялі Украіну. Войскі Антанты занялі Мурманск з мэтай ісці на Петраград. Японія захапіла Уладзівасток. Англія арганізавала інтэрвенцыю ў Закаўказзі і Сярэдняй Азіі. Капіталісты і памешчыкі пры падтрыманні імперыялістаў іншых краін арганізуюць контррэвалюцыйныя змовы па ўсёй нашай краіне.

На прошукі знешняй і ўнутранай контррэволюцыі партыя адказала ўзмоцненай мабілізацыяй, заклікам пагалоўна ўсіх дарослых рабочых і сялян да ўзброенага супраціўлення.

Пяты з'езд Советаў, які адбыўся 4—10 ліпеня 1918 г., прыняў пастанову аб абавязковай ваеннай павіннасці для ўсіх працоўных, аб стварэнні інстытута ваенных камісараў, аб падрыхтоўцы кадраў каманднага складу. Было рашуча пастаўлена пытанне аб укараненні ў арміі цэнтралізацыі і рэволюцыйнай жалезнай дысцыпліны.

На абарону маладой совецкай краіны былі кінуты ўсе сродкі. У кастрычніку 1918 г. В. І. Ленін ставіць задачу—стварыць 3-мільённую армію.

> «Мы рашылі мець армію ў 1.000.000 чалавек да вясны, нам патрэбна цяпер армія ў тры мільёны чалавек. Мы можам яе мець. І мы будзем яе мець» *).

Ленінскія ўказанні былі поўнасцю ажыццёўлены. К канцу грамадзянскай вайны ў Чырвонай арміі налічвалася 5,5 мільёна чалавек.

Партыя большэвікоў, Ленін і Сталін, ведучы велізарную работу па будаўніцтву ўзброеных сіл, выключную ўвагу ўдзялялі пытанням выхавання Чырвонай арміі ў духу адданасці свайму класу. Па ініцыятыве Леніна і Сталіна ствараецца партыйна-палітычны апарат на чале з ваеннымі камісарамі. Ваенныя камісары выключную ролю адыгралі ў стварэнні Чырвонай арміі і арганізацыі яе перамог. З'яўляючыся прадстаўнікамі партыі большэвікоў у Чырвонай арміі, ваенныя камісары вялі велізарную палітычную работу, паказваючы прыклады мужнасці, баявой адвагі і адданасці справе рэволюцыі.

VIII з'езд партыі, падводзячы вынікі і намячаючы шляхі будаўніцтва Чырвонай арміі, адзначыў, што «партыя можа з поўным задавальненнем агляну́цца на гераічную работу сваіх камісараў, якія, рука аб руку з лепшымі элементамі каманднага складу, у кароткі тэрмін стварылі боездольную армію **).

> «Без ваенкома мы не мелі-б Чырвонай арміі,—гаварыў Ленін» ***).

Вобраз камісара часоў грамадзянскай вайны павінен заўсёды стаяць перад нашымі палітычнымі работнікамі. Партыя і яе Цэн-

*) В. І. Ленін, т. XXIII, стар. 217.
**) „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. І, стар. 308.
***) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 232.

тральны Камітэт хочуць бачыць іменна такімі сваіх пасланцоў—камісараў Чырвонай арміі.

У гісторыі стварэння РСЧА выключнае значэнне мелі рашэнні VIII з'езда РКП(б), які адбыўся (18) 23 сакавіка 1919 г. На гэтым з'ездзе партыя бальшэвікоў разграміла спробы здрадніка Троцкага і яго староннікаў выступіць супроць класавага прынцыпа камплектавання арміі, супроць стварэння партыйна-палітычнага апарата і жалезнай дысцыпліны ў арміі. Гэтыя прэзрэнныя бандыты, агенты японa-нямецкага імперыялізма яшчэ ў 1919 г. вялі падрыўную работу, накіраваную на захват арміі ў свае рукі, каб павярнуць яе супроць савецкай улады.

Ленін і Сталін далі рашучы адпор усім гэтым варожым тэндэнцыям. Рашэнні VIII з'езда РКП(б) увайшлі ў гісторыю, як разгорнутая праграма работ па стварэнню шматмільённай арміі з жалезнай дысцыплінай, арміі, здольнай разграміць усіх ворагаў пралетарскай дзяржавы.

Чырвоная армія, створаная партыяй Леніна—Сталіна ва ўмовах вайны супроць белагвардзейскіх банд і інтэрвенцыі міжнароднага імперыялізма, паказала сваю стойкасць і сілу, здольнасць разграміць любога ворага, адкуль бы ён ні паявіўся.

Многа слаўных старонак упісана Чырвонай арміяй у гісторыю герaічных баёў за сацыялістычную радзіму. Створаная ў агні і полымі грамадзянскай вайны, яна ў баях накапляла вопыт барацьбы, у баях узбройвалася, у баях кавала свае кадры.

У пачатковы перыяд грамадзянскай вайны Чырвоная армія разграміла белапольскі корпус Даўбор-Мусніцкага і буржуазна-памешчыцкую контррэвалюцыю на Дану (Каледзіна) і на Урале (Дубаўшчыну). Яна выгнала са свяшчэннай савецкай зямлі нямецкіх захватчыкаў, разграміўшы іх узброеныя сілы.

У барацьбе з нямецкімі акупантамі велізарная роля належыць тав. Варашылаву. Камандуючы 5 украінскай арміяй, тав. Варашылаў прарабіў легендарны гістарычны пераход ад Луганска да Царыцына, адбіваючы ўдары германскіх войск і белагвардзейшчыны. На царыцынскім фронце тав. Варашылаў з'яўляўся першым і бліжэйшым памочнікам таварыша Сталіна. Дзякуючы геніяльнаму кіраўніцтву таварыша Сталіна і яго саратніка тав. Варашылава, усе контррэвалюцыйныя сілы былі разгромлены і адкінуты далёка к Дону. Царыцынская абарона, праведзеная таварышом Сталіным, з'яўляецца адной з самых бліскучых перамог у гісторыі Чырвонай арміі.

Чырвоная армія разграміла тры паходы Антанты, арганізаваныя міжнародным імперыялізмам.

К канцу 1922 г. апошнія рэшткі інтэрвентаў былі вымецены за межы нашай краіны. Ад Менска да Владзівастока, ад Мурманска да Тбілісі—на ўсёй нашай роднай зямлі, абмытай крывёй яе лепшых сыноў, назаўсёды ўмацаваўся сцяг сацыялізма, непераможны сцяг Леніна—Сталіна.

У разгроме белагвардзейскіх полчышч і замежнай інтэрвенцыі заслугі сусветна-гістарычнага значэння належаць В. І. Леніну. Ён асабіста сачыў за ходам баявых дзеянняў на франтах. Пад старшынствам Леніна быў створан Совет абароны, праз які Ленін праводзіў усе мерапрыемствы, звязаныя з перабудовай народнай гаспадаркі на патрэбы вайны, з арганізацыяй снабжэння фронта, з умацаваннем боездольнасці Чырвонай арміі. Вярнейшым памочнікам Леніна па арганізацыі перамог у грамадзянскай вайне быў таварыш Сталін.

Па прапанове Леніна, ЦК большэвіцкай партыі пасылаў таварыша Сталіна на самыя адказныя ўчасткі фронта.

Таварыш Варашылаў у сваёй брашуры «Сталін і Чырвоная армія» піша:

> «У перыяд 1918—1920 гг. т. Сталін з'яўляўся, бадай, адзіным чалавекам, якога Цэнтральны камітэт кідаў з аднаго баявога фронта на другі, выбіраючы найбольш небяспечныя, найбольш страшныя для рэвалюцыі месцы. Там, дзе было адносна спакойна і благапалучна, дзе мы мелі поспехі, там не было відаць Сталіна. Але там, дзе ў сілу цэлага раду прычын трашчалі чырвоныя арміі, дзе контррэвалюцыйныя сілы, развіваючы свае поспехі, пагражалі самому існаванню савецкай улады, дзе перапалох і паніка маглі ў любую мінуту ператварыцца ў бездапаможнасць, катастрофу,—там паяўляўся т. Сталін. Ён не спаў начэй, ён арганізоўваў, ён браў у свае цвёрдыя рукі кіраўніцтва, ён ламаў, быў бязлітасны і—ствараў пералом, аздараўляў абстаноўку».

Разам з Леніным і Сталіным і пад іх кіраўніцтвам велізарную ролю адыгралі ў арганізацыі Чырвонай арміі і яе перамогах тт. Дзержынскі, Свердлоў, Фрунзе, Варашылаў, Кіраў, Кагановіч, Орджанікідзе, Куйбышэў. Іх імёны залатымі літарамі запісаны ў пераможную гісторыю Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі.

Савецкі народ бязмежна любіць сваю радзіму. У суровыя дні грамадзянскай вайны пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ў жорсткіх баях з белагвардзейцамі і інтэрвентамі ён адстаяў свабоду і незалежнасць бацькаўшчыны сусветнага пралетарыята.

Гісторыя Чырвонай арміі непарыўна звязана з гісторыяй барацьбы і перамог савецкага народа. Рабоча-Сялянская Чырвоная Армія расла і мацнела разам з усёй краінай, разам з бурным ростам народнай гаспадаркі СССР. Створаны невычарпальныя магчымасці ўмацавання абароннай магутнасці Савецкага Саюза, умацавання магутнасці дзецішча партыі і савецкага народа—Чырвонай арміі. Наша Чырвоная армія моцна сваёй непарушнай сувяззю з народам, бо ў Савецкім Саюзе народ і армія—адзіная сям'я патрыётаў сацыялістычнай радзімы.

На ўрачыстым пленуме Маскоўскага Савета, прысвечаным дзесятай гадавіне Чырвонай арміі, наш вялікі правадыр і настаўнік таварыш Сталін адзначыў асаблівасці, якія карэнным чынам адрозніваюць нашу армію ад усякай іншай арміі, калі-небудзь існаваўшай у свеце.

> «Першая і асноўная асаблівасць нашай Чырвонай Арміі,—гаварыў таварыш Сталін,—заключаецца ў тым, што яна ёсць армія вызваленых рабочых і сялян, яна ёсць армія Кастрычніцкай рэвалюцыі, армія дыктатуры пралетарыята...
>
> Другая асаблівасць нашай Чырвонай Арміі заключаецца ў тым, што яна, наша армія, з'яўляецца арміяй братства паміж народамі нашай краіны, арміяй вызвалення прыгнечаных народаў нашай краіны, арміяй абароны свабоды і незалежнасці народаў нашай краіны...
>
> Нарэшце, трэцяя асаблівасць Чырвонай Арміі. Заключаецца яна ў духу інтэрнацыяналізма, у пачуццях інтэрнацыяналізма, пранікаючых усю нашу Чырвоную Армію.

> Гэтым тром асаблівасцям абавязана наша армія тым, што яна ведае, куды ідзе,—тым, што яна складаецца не з алавяных салдат, а з людзей свядомых, разумеючых, куды ісці і за што біцца.
>
> Але армія, якая ведае, за што яна змагаецца, непераможна, таварышы.
>
> Вось чаму наша Чырвоная Армія мае ўсе падставы быць лепшай у свеце арміяй».

Бальшэвіцкая партыя і асабіста таварыш Сталін праяўляюць нястомныя клопаты аб умацаванні сілы і магутнасці Чырвонай арміі і марскога флота. У выніку гэтых клопатаў Чырвоная армія з'яўляецца самай моцнай арміяй у свеце, аснашчонай першакласнай тэхнікай.

У баях ля возера Хасан Чырвоная армія яшчэ раз паказала ўсяму свету сваю сілу і магутнасць, гераізм сваіх байцоў і камандзіраў. Байцы і камандзіры—выхаванцы бальшэвіцкай партыі—з мыслю аб шчасці свайго народа, з імем Сталіна на вуснах магутнай лавінай рушылі на ворага і разграмілі яго.

> «Няхай памятаюць тыя, каму забываць не след, што мы зусім не абавязаны заўсёды абмяжоўваць дзеянні нашых войск раёнам, на які па-зладзейску і нагла нападае вораг. Наадварот, нам спадручней і лягчэй граміць ворага на яго ўласнай тэрыторыі. Так яно і будзе—на ўсякі напад і ўдар мы будзем адказваць патройнымі ўдарамі ўсёй магутнасці нашай доблеснай Чырвонай Арміі» *).

У дзень 21 гадавіны РСЧА усе ваеннаслужачыя ва ўрачыстай абстаноўцы прысягнулі і замацавалі сваім подпісам словы прысягі на вернасць свайму народу, на вернасць соцыялістычнай радзіме. Кожны баец, камандзір, палітработнік і начальнік з гонарам вымаўлялі словы непарушнай клятвы на вернасць вялікай справе партыі Леніна—Сталіна, абавязваючыся да апошняй каплі крыві абараняць сваю радзіму—Савецкі Саюз, бацькаўшчыну прыгнечаных усяго свету.

Клятва воіна соцыялістычнай дзяржавы выражае яго бязмежную любоў да радзімы, яго гатоўнасць у любую мінуту сакрушыць ворага, які асмеліцца пасягнуць на нашы межы. Гэта клятва, як вышэйшы закон, будзе вечна жыць у сэрцы кожнага савецкага воіна, адлюстроўваць яго гераічнае аблічча.

Ваенная прысяга ўзнімае на небывалую вышыню дастойнасць савецкага грамадзяніна, які прыняў на сябе ганаровае званне воіна Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі і Ваенна-Марскога Флота.

Быць верным прысязе—гэта значыць усюды—у баі, у вучобе, у быту,—ва ўсім жыцці высока трымаць слаўнае званне воіна РСЧА, нястомна ўмацоўваць жалезную воінскую дысцыпліну, упарта авалодваць баявой тэхнікай.

Быць верным прысязе—гэта значыць як мага лепш падрыхтаваць сябе да надыходзячых баёў, змагацца беззаветна і гераічна, не шкадуючы ні сіл, ні свайго жыцця, каб бязлітасна разграміць ворага на яго ўласнай тэрыторыі.

---

*) З прамовы т. Варашылава ў дзень 21-ай гадавіны тычнай рэволюцыі.

Ваенная прысяга яшчэ больш згуртавала нашы рады, умножыла нашы сілы і нашу энергію. Байцы, камандзіры і начальнікі бачаць у прысязе ўвасабленне ленінска-сталінскіх ідэй, выражэнне сваіх мысляй, сваіх пачуццяў.

Урачыстая клятва людзей Чырвонай арміі прагучэла, як прадвеснік будучых сусветна-гістарычных перамог узброеных сіл краіны сацыялізма, перамог, якія ўзнімуць сцяг комунізма над усім светам.

---

**В. Кудраеў**

# Партсход—школа большэвізма

У тэзісах даклада тав. Жданава XVIII з'езду ВКП(б), у гэтым выдатным гістарычным дакуменце, які ярка адлюстроўвае вялікія перамогі соцыялізма,—з усёй сілай сцвярджаецца непахіснасць арганізацыйных прынцыпаў большэвізма. Прасякнутыя сталінскімі клопатамі аб арганізацыйнай магутнасці нашай партыі, тэзісы даклада тав. Жданава адлюстроўваюць яе гіганцкі вопыт у арганізацыйным будаўніцтве, паказваюць карэнныя змены, што адбыліся ва ўсім абліччы нашай неабсяжнай краіны.

У тэзісах даклада тав. Жданава вялікая ўвага ўдзяляецца пытанню аб ролі і задачах пярвічных партарганізацый. За апошнія годы ў жыцці пярвічных партарганізацый адбыліся вялікія змены. Палепшылася іх сувязь з масамі, павысілася авангардная роля камуністаў, узняўся ўзровень партыйнага жыцця. «Партыйныя арганізацыі бліжэй падышлі да практычных пытанняў гаспадарчага і культурнага будаўніцтва». Поспеху дабіваліся тыя партыйныя арганізацыі, якія здолелі спалучыць партыйна-палітычную работу з кіраўніцтвам гаспадаркай.

Змяненні, якія мяркуецца ўнесці ў статут ВКП(б), прадугледжваюць дакладнае вызначэнне задач рознага тыпу пярвічных партарганізацый, яшчэ большае ўзмацненне іх ролі і адказнасці ва ўсіх галінах гаспадарчага жыцця. Гэта ярка выражана ў прадастаўленні пярвічным партарганізацыям права кантролю за ходам работы на прадпрыемстве, у калгасе, соўгасе: «Для павышэння ролі пярвічных партыйных арганізацый вытворчых прадпрыемстваў, у тым ліку соўгасаў, калгасаў, і іх адказнасці за стан работы прадпрыемстваў, прадаставіць гэтым арганізацыям права кантролю работы адміністрацыі прадпрыемства».

Вышэйшым кіруючым органам пярвічнай партыйнай арганізацыі з'яўляецца партыйны сход. Партыйны сход—гэта орган калектыўнага кіраўніцтва, дзе ва ўмовах унутрыпартыйнай дэмакратыі, свабоднага і дзелавога абмеркавання ўсіх пытанняў партыйнай палітыкі, разгортвання крытыкі і самакрытыкі член партыі расце, выхоўваецца, павышае свой палітычны ўзровень.

Тав. Кагановіч на XVII з'ездзе ВКП(б) у сваім дакладзе па арганізацыйных пытаннях гаварыў:

«Паглядзіце зараз любую партыйную арганізацыю, любы партыйны сход. Вы ўбачыце, як члены партыі ўзняліся да ўзроўню дзяржаўнага разумення задач, якія карэнныя пытанні жыцця нашай краіны і міжнароднай палітыкі закранаюцца ў

прамовах і выступленнях радавых членаў партыі. Абмяркоўваючы свае вытворчыя або агульнапартыйныя пытанні, людзі выступаюць і гавораць аб мільярдах, промфінплане, гавораць аб тэхніцы. Вядома, з гэтага пункту погляду кожны комуніст гіганцкі вырас, узняўся».

Гістарычныя рашэнні лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б), у якіх востра пастаўлена пытанне аб канкрэтнай перабудове партыйнай работы, дапамаглі партыйным арганізацыям палепшыць правядзенне партыйных сходаў і павысіць адказнасць комуністаў за работу сваёй партарганізацыі. Удумчывыя, сур'ёзныя адносіны да падрыхтоўкі чарговага партыйнага схода, шырокае прыцягненне комуністаў да вырашэння пытанняў парадку дня, своечасовае апавяшчэнне кожнага комуніста аб дні партсхода і т. д. забяспечваюць высокі ідэйны ўзровень партсходаў, выключную актыўнасць членаў партыі і дзейснасць прымаемых рашэнняў.

Аднак бываюць выпадкі, калі партыйныя сходы праходзяць шаблонна. Падчас уся «падрыхтоўка» зводзіцца да абвяшчэння аб часе партыйнага схода. Пытанні ўключаюцца ў абвестку дня нахаду, а рашэнне прымаецца наспех, без уліку прапаноў комуністаў. Пытанні падрыхтоўкі не абмяркоўваюцца на парткоме, і партсход склікаецца ў парадку «узгаднення» з паасобнымі членамі парткома. Часам члены партыі не ведаюць, якія пытанні будуць абмяркоўвацца на сходзе. Недастатковая ўвага да пытанняў арганізацыі партсходаў нярэдка прыводзіць да прыніжэння іх ролі.

Ёсць выпадкі, калі партсходы ў пярвічнай партарганізацыі не склікаюцца на працягу 2—3 месяцаў. У калгасе «Пяскі», Цярахаўскага раёна, за 6 месяцаў (май—кастрычнік 1938 г.) праведзена ўсяго 4 партсходы, прычым з 20 ліпеня па 15 кастрычніка пярвічная партарганізацыя ні разу не збіралася. І не дзіва, што работа ў яе запушчана, а ў калгасе—адным з буйнейшых у раёне—рад сур'ёзнейшых недахопаў. У Рудабельскай МТС, Глускага раёна, партсходы не склікаліся па 2 і больш месяцаў: з жніўня па лістапад 1938 г. не праведзена ні аднаго партсхода. У выніку важнейшыя рашэнні ЦК ВКП(б) і СНК СССР, накіраваныя на далейшае арганізацыйна-гаспадарчае і палітычнае ўмацаванне калгасаў, не былі абмеркаваны і вывучаны.

На партсходзе войлачнай фабрыкі, які адбыўся ў снежні 1938 г., адразу абмяркоўваліся чатыры вялікія пытанні: аб падрыхтоўцы да святкавання 20-годдзя БССР, рашэнне гаркома КП(б)Б у сувязі з абследаваннем работы парткома, перадавы артыкул газеты «Правда» ад 13 снежня 1938 г. аб авангарднай ролі комуністаў на вытворчасці і пытанне аб парадку прыёму ў партыю. Фармальныя адносіны да падрыхтоўкі гэтага схода сказаліся і на яго выніках. Па рашэнню гаркома партыі ў сувязі з абследаваннем работы парткома выказаўся ўсяго адзін чалавек, а па такому важнейшаму пытанню, як авангардная роля комуністаў на вытворчасці, наогул ніхто не выступаў. «У такіх выпадках,—гаворыць тав. Кагановіч,—пераважаюць або мітынгоўшчына або дзяляцтва, і, натуральна, такія сходы не выхоўваюць членаў партыі».

Пры абмеркаванні рэзалюцый, прымаемых на партсходах, часам зусім не ўлічваюцца прапановы выступаўшых у спрэчках комуністаў. Некаторыя кіраўнікі партарганізацый забываюць аб тым, што кожны партыйны сход павінен павышаць ідэйна-палітычны ўзровень кому-

ніста. Дрэнная падрыхтоўка партсхода, ігнараванне прапаноў і заўваг комуністаў, шаблонны падыход да прымаемых рашэнняў ёсць парушэнне асноў унутрыпартыйнай дэмакратыі, «праяўленне найвялікшай непавагі да законных гаспадарскіх праў членаў партыі» **(Жданаў).**

Адным з буйнейшых недахопаў з'яўляецца адсутнасць праверкі выканання прынятых партсходамі рашэнняў. «Праверка выканання павінна быць сістэматычнай і штодзеннай, а не эпізадычнай, ад выпадку да выпадку»—гаварыў тав. Кагановіч на XVII партз'ездзе. Але варта заглянуць у пратаколы партсходаў, каб пераканацца ў тым, што некаторыя кіраўнікі забываюць аб важнасці праверкі выканання, аб тым, што яна дысцыплінуе кожнага комуніста і партарганізацыю ў цэлым, павышае ў членаў і кандыдатаў партыі пачуцце адказнасці за даручаную ім справу. Дзе няма праверкі выканання,—там немінучы буйныя прарывы ў рабоце.

Таварыш Сталін на XVII з'ездзе ВКП(б) гаварыў:

> «Можна з упэўненасцю сказаць, што дзевяць дзесятых нашых прарэх і прарываў тлумачыцца адсутнасцю правільна пастаўленай праверкі выканання. Не можа быць сумнення, што пры наяўнасці такой праверкі выканання прарэхі і прарывы былі-б напэўна прадухілены».

Пастанова ЦК ВКП(б) «Аб некаторых мерапрыемствах у сувязі з вынікамі выбараў кіруючых партыйных органаў» з'яўляецца адным з прыкладаў большэвіцкай праверкі выканання. У гэтай пастанове ЦК ВКП(б) абавязаў партыйныя арганізацыі разгледзець усе пытанні і прапановы, узнятыя комуністамі на справаздачна-выбарчых партыйных сходах і канферэнцыях, а таксама аказаць практычную дапамогу тым партарганізацыям, дзе работа партыйнага камітэта або парторга была прызнана нездавальняючай.

Гэта пастанова мае велізарнае значэнне для далейшага ўздыму партыйна-палітычнай работы. Яна дапамагае партарганізацыям знішчыць рад сур'ёзных недахопаў і палепшыць стан партыйна-палітычнай работы. Большэвіцкі стыль кіраўніцтва не церпіць самацёку ў рабоце, не церпіць адставання ні на адным участку. Партыя і асабіста таварыш Сталін вучаць, што справаздача партыйных органаў перад выбраўшымі іх масамі—адна з асноў унутрыпартыйнай дэмакратыі. Праведзеныя за апошнія месяцы справаздачныя даклады райкомаў, парткомаў і парторгаў паказалі, што пры правільнай арганізацыі партыйнага схода ўзрастае актыўнасць комуністаў, пытанні абмяркоўваюцца з палітычнай завостранасцю і на высокім ідэйным узроўні.

Калі члены партыі шырока прыцягваюцца да ўдзелу ў падрыхтоўцы партыйнага схода, калі работа партсхода арганізавана правільна, то дзелавое і канкрэтнае рашэнне пытанняў забяспечана. Актыўны ўдзел комуністаў у падрыхтоўцы пытанняў да партыйнага схода, даручэнне зрабіць даклад маюць велізарнае значэнне ў справе палітычнага выхавання членаў і кандыдатаў партыі. У гэтых адносінах станоўчы вопыт маюць партарганізацыі заводаў імя Варашылава, імя Мяснікова і іншых прадпрыемстваў, дзе комуністам даручаюць рабіць даклады, дзе члены парткома і партыйны актыў шырока прыцягваюцца да падрыхтоўкі пытанняў партсхода.

Калі-ж кіраўнік партарганізацыі недаацэньвае важнасць шыро-

кага ўдзелу комуністаў у падрыхтоўцы партсхода, то актыўнасць іх зніжаецца. Так «у пярвічнай партарганізацыі калгаса «Чырвоны араты», Чачэрскага раёна, былі выпадкі, калі па пяці—шасці пытаннях павесткі дня адзіным дакладчыкам з'яўляўся парторг тав. Лебедзеў. Актыўнасць комуністаў, як і ўся партыйна-масавая работа, стаіць тут не на высокім палітычным узроўні.

На партыйных сходах трэба ставіць такія пытанні, якія-б садзейнічалі росту ідэйна-палітычнага ўзроўню і павышэнню большэвіцкай пільнасці комуністаў, бо «член партыі навучаецца і павінен навучацца на партыйных сходах большэвізму не менш, калі не больш, чым у партыйнай школе» (**Кагановіч**).

У раённых партарганізацыях існуе выключны рознабой у тэрмінах склікання партсходаў. Так, напрыклад, калі ў Багушэўскім раёне за 5 месяцаў (ліпень—кастрычнік 1938 г.) было праведзена 7 партыйных сходаў і 2 нарады партактыва, то ў Сенненскім раёне за гэты час адбыўся толькі адзін сход. У некаторых сельскіх раёнах па 2—3 месяцы не склікаюцца ні партыйныя сходы, ні сходы партактыва. У Журавічах з 30 чэрвеня па 10 кастрычніка 1938 г. комуністы раёна ні разу не скікаліся. Калі-ж улічыць, што ў некаторых пярвічных партарганізацыях гэтых раёнаў партсходы склікаюцца таксама не рэгулярна, то становіцца ясным, што паасобныя комуністы пазбаўлены магчымасці прыняць актыўны ўдзел у вырашэнні гаспадарча-палітычных пытанняў свайго раёна. Не заўсёды і не ўсюды задавольваецца выключны інтарэс членаў і кандыдатаў партыі да пытанняў міжнароднага становішча. На гэту тэму ў раёнах даклады праводзяцца вельмі рэдка.

Правільная арганізацыя работы партсхода, прыцягненне комуністаў да падрыхтоўкі пытанняў, забеспячэнне дзейснасці прымаемых рашэнняў—усё гэта важнейшыя задачы, якія выцякаюць з рашэнняў лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) і ўказанняў таварыша Сталіна аб перабудове партыйнай работы.

Партыйны сход абмяркоўвае і рашае ўсе важнейшыя пытанні ўнутрыпартыйнага і гаспадарчага жыцця прадпрыемства, калгаса, соўгаса. Роля партсхода выключна вялікая. Вывучэнне і распаўсюджанне станоўчага вопыту ў падрыхтоўцы і правядзенні партсходаў мае велізарнае значэнне для ідэйнага росту і палітычнага выхавання комуністаў.

Абавязковай умовай правільнай арганізацыі партсхода з'яўляецца прадуманы падбор і ўмелае спалучэнне пытанняў палітычнага і гаспадарчага кіраўніцтва, якія ставяцца на абмеркаванне партсхода, шырокі ўдзел членаў і кандыдатаў партыі ў падрыхтоўцы пытанняў, даручэнне комуністам дакладаў, самыя ўважлівыя адносіны да прапаноў, што ўносяцца комуністамі, і прымаемых сходам рашэнняў, разгортванне большэвіцкай крытыкі і самакрытыкі, кантроль і праверка выканання.

Значнай колькасцю партыйных арганізацый кіруюць маладыя партработнікі. Гэта—энергічныя, бязмежна адданыя справе партыі Леніна—Сталіна людзі, але вялікага практычнага вопыту партыйнай работы яны яшчэ не маюць. Райкомы партыі павінны ім дапамагчы сваім вопытам і своечасова ўказваць на недахопы. Зусім справядлівым з'яўляецца папрок некаторых сакратароў парткомаў і парторгаў па адрасу работнікаў райкомаў (Менск, Журавічы, Ельск і інш.), якія слаба дапамагаюць у авалодванні вопытам і практыкай партый-

най работы. Нельга не адзначыць, што работнікі райкомаў не заўсёды заглядваюць у пратаколы партыйных сходаў, не правяраюць зместу і якасці афармленых рашэнняў. Да афармлення пратаколаў—гэтага важнага партыйнага дакумента—у некаторых выпадках адносяцца надзвычай нядбайна, безадказна.

Абмеркаванне на партыйных сходах і канферэнцыях тэзісаў дакладаў тт. Молатава і Жданава ярка прадэманстравала высокую палітычную актыўнасць членаў і кандыдатаў партыі, рост іх ідэйнага ўзроўню і выклікала далейшы ўздым партыйна-палітычнай работы. Аб гэтым красамоўна сведчыць велізарная колькасць сур'ёзных і каштоўных прапаноў, прынятых на партсходах і канферэнцыях. Вынікам глыбокага абмеркавання тэзісаў з'явілася яшчэ большае згуртаванне партыйных мас вакол ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б).

Усямерна павышаючы актыўнасць партыйных мас і рашуча знішчаючы недахопы ў рабоце партыйных сходаў, неабходна цвёрда памятаць указанне таварыша Сталіна аб тым, што трэба «перш за ўсё павярнуць увагу нашых партыйных таварышоў, якія завязлі ў «бягучых пытаннях» па лініі таго ці іншага ведамства,—у бок вялікіх палітычных пытанняў міжнароднага і ўнутранага характару».

---

А. Рабчынскі

# Дапамагчы інтэлігенцыі авалодаць большэвізмам

Большэвіцкая партыя, геніі чалавецтва Ленін і Сталін з першых дзён існавання совецкай улады, у самыя цяжкія для нашай краіны часы—у годы грамадзянскай вайны, у годы аднаўленчага перыяда—удзялялі выключную ўвагу выкарыстанню старых кадраў інтэлігенцыі і стварэнню новых кадраў сваёй, совецкай інтэлігенцыі.

Владзімір Ільіч Ленін у сакавіку 1919 года ў сваім артыкуле «Поспехі і цяжкасці совецкай улады» пісаў:

> «Трэба ўзяць усю культуру, якую капіталізм пакінуў, і з яе пабудаваць социялізм. Трэба ўзяць усю навуку, тэхніку, усе веды, мастацтва. Без гэтага мы жыццё комуністычнага грамадства пабудаваць не можам. А гэта навука, тэхніка, мастацтва—у руках спецыялістаў і ў іх галовах».

Наша партыя ніколі не забывала, што ні адзін клас не абыходзіўся і не можа абыйсціся без сваёй уласнай інтэлігенцыі. Тым больш не можа абыйсціся без яе наша соцыялістычная дзяржава, у руках якой знаходзяцца ўсе ніці, усе вузлы народнай гаспадаркі і культуры. Совецкая краіна не магла-б развівацца і рухацца ўперад без сваёй інтэлігенцыі, вышаўшай з народа, цесна звязанай з народам, здольнай аддана працаваць на карысць народа. І як толькі ўлада перайшла ў рукі пролетарыята, былі прыняты ўсе меры для стварэння сваёй рабоча-сялянскай інтэлігенцыі.

Таварыш Сталін яшчэ ў 1928 годзе гаварыў:

> «У нас ёсць людзі, якія гатовы васпяваць нашу некультурнасць. Калі ты непісьменны або пішаш няправільна і выхваляешся сваёй адсталасцю, ты рабочы ад «станка», табе гонар і павага. Калі ты вылез з некультурнасці, навучыўся грамаце, авалодаў навукай, ты чужы, «адарваўся» ад мас, перастаў быць рабочым. Я думаю, што мы не рушым уперад ні на крок, пакуль не вытравім гэтага варварства і дзікасці. Рабочы клас не можа стаць сапраўдным гаспадаром краіны, калі ён не здолее выбрацца з некультурнасці, калі ён не здолее стварыць сваёй уласнай інтэлігенцыі, калі ён не авалодае навукай і не здолее кіраваць гаспадаркай на аснове навукі» *).

Рыхтуючыся да вялікага соцыялістычнага наступу, партыя, не пакладаючы рук, кавала новыя кадры большэвікоў-спецыялістаў па ўсіх галінах ведаў.

На VIII з'ездзе комсамола таварыш Сталін заклікаў моладзь:

«вучыцца, сцяўшы зубы, не баючыся, што ворагі будуць смяяцца над намі, над нашым невуцтвам, над нашай адсталасцю.

*) В. І. Ленін, І. В. Сталін „Аб моладзі", стар. 202. Партвыдат. 1936.

Перад намі стаіць крэпасць. Называецца яна, гэта крэпасць, навукай з яе шматлікімі галінамі ведаў. Гэту крэпасць мы павінны ўзяць ва што-б там ні стала».

І крэпасць гэта была ўзята. У гарадах і калгасах з'явіліся шматлікія кадры совецкай інтэлігенцыі. Ажыццёўлена было гістарычнае заданне таварыша Сталіна—дабіцца, каб у рабочага класа СССР была свая ўласная інтэлігенцыя. Кадры ўласнай інтэлігенцыі выраслі і ў нацыянальных рэспубліках. Гэта—вялікая перамога совецкай улады, перамога ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Для плённай працы і творчага росту совецкай інтэлігенцыі створаны такія ўмовы, якіх ніколі не ведала інтэлігенцыя старой царскай Расіі, якіх не мае і не можа мець інтэлігенцыя капіталістычных краін, асабліва краін фашысцкіх. Эксплаататарскія класы царскай Расіі ўсё рабілі для таго, каб заглушыць парасткі сапраўднай культуры. Яны рыхтавалі інтэлігенцыю па свайму вобразу і падабенству, гадавалі кадры сваіх паслухмяных прыказчыкаў. Сынам працоўнага народа, рабочай і сялянскай моладзі былі закрыты шляхі да прастораў культурнай творчасці.

У царскай Расіі народ не дапускалі да асветы, яго знарок трымалі ў невуцтве і цемры. Большасць насельніцтва была непісьменнай. Перад рэвалюцыяй 1917 года ва ўсёй царскай Расіі навучалася 8 мільёнаў чалавек, а ў 90 вышэйшых навучальных установах было 100 тысяч студэнтаў.

Совецкі Саюз стаў краінай перадавой навукі і тэхнікі. За годы сталінскіх пяцігодак у асноўным ліквідавана непісьменнасць. Пабудаваны тысячы школ. Колькасць вучняў у пачатковых і сярэдніх школах узрасла да 29,4 млн. чалавек. У СССР зараз налічваецца 700 вышэйшых навучальных устаноў, у якіх навучаецца 550 тысяч студэнтаў—дзяцей рабочых, сялян і працоўнай інтэлігенцыі.

Рабочы клас і сялянства вылучае ў рады совецкай інтэлігенцыі сваіх выдатных сыноў і дачок. Гэта—Стаханаў і Папанін, якія сталі «наватарамі ў навуцы, людзьмі нашай перадавой навукі» **(Сталін).** Гэта—Сметанін і Вінаградавы, гэта—шахцёры Ізотаў і Дзюканаў, гэта—металісты Гудай і Мазай, гэта—машыністы Крыванос, Огнеў, Багданаў, гэта—калгасніцы Дземчанка і Ангеліна. І разам з імі—тысячы іншых стаханаўцаў, папанінцаў, крываносаўцаў, герояў Чырвонай Арміі, якія ўзняты да вяршынь дзяржаўнай работы, авалодваюць вышынямі навукі ў вышэйшых школах.

Змянілася аблічча нацыянальных рэспублік і абласцей—былых калоній царскай Расіі. Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэвалюцыя знішчыла нацыянальна-каланіяльны гнёт. Нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу культура расцвіла на аснове самага цеснага, непарушнага саюза паміж усімі народамі СССР.

Яркім таму прыкладам з'яўляецца БССР. Аб яе мінулым і сучасным красамоўна гавораць такія прыклады.

У дарэвалюцыйны час самым пісьменным чалавекам у вёсцы Дабрынёва, Менскага раёна, быў Філіп Іосіфавіч Карачун. Ён сам навучыўся грамаце і лічыўся сярод сялян чалавекам светлага розуму і незвычайных здольнасцей. Не гледзячы на гэта Карачун «у людзі не вышаў». Дарога ў навуку была закрыта бедняку. Цяпер вёска Дабрынёва мае прасторны клуб, гукавое кіно, бібліятэку. За апошнія годы яна дала краіне 6 інжынераў, 4 тэхнікаў, 3 урачоў, 2 пракурораў, 15 настаўнікаў, 2 аграномаў, 3 лётчыкаў, 10 лейтэнантаў Чыр-

вонай Арміі. Больш 50 чалавек моладзі Дабрынёва вучацца ў інстытутах і тэхнікумах.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі ў вёсцы Халамер'е, Мехаўскага раёна, мясцовай інтэлігенцыі было 4 чалавекі. Зараз у Халамер'і ёсць свая, совецкая інтэлігенцыя, якая вышла з народа: 20 настаўнікаў, 10 медычных работнікаў, 7 работнікаў сувязі і інш.

Совецкая Беларусь стала рэспублікай суцэльнай пісьменнасці. Зараз яна мае 22 вышэйшыя навучальныя ўстановы, 80 педвучылішчаў і тэхнікумаў з 32 тысячамі студэнтаў. Колькасць настаўнікаў у параўнанні з 1914 годам вырасла амаль у 5 раз. У сталінскіх школах навучаецца звыш 1 мільёна совецкіх дзяцей. Дзесяткі тысяч дарослых рабочых, служачых, калгаснікаў наведваюць вячэрнія школы.

Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя расчысціла шлях для магутнага росквіту творчых сіл і здольнасцей беларускага народа. Пышным цветам расцвіла ў нас культура, навука, мастацтва. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі створан магутны атрад совецкай інтэлігенцыі. Выраслі і загартаваліся ў баях з ворагамі народа нашы кадры. Толькі за годы 2 пяцігодкі падрыхтавана звыш 5 тысяч чалавек вышэйшай і 14 тысяч сярэдняй кваліфікацыі. Сярод іх—звыш 1.700 педагогаў, 650 інжынераў, 850 медработнікаў, 2 тысячы спецыялістаў сельскай гаспадаркі і т. д.

Беларуская ССР ганарыцца такой выдатнай кузняй кадраў высокакваліфікаваных спецыялістаў як Менскі універсітэцкі гарадок, у інстытутах якога займаецца звыш 6 тысяч студэнтаў і працуе больш 500 навуковых работнікаў: урачы і педагогі, юрысты і планавікі, інжынеры і эканамісты, фізікі і матэматыкі. Многія выдатныя навуковыя работнікі, шырока вядомыя беларускаму народу, атрымалі асвету ў інстытутах БССР. Сярод іх доктар медычных навук, загадчык кафедры нармальнай анатоміі Мед'інстытута Давід Маісеевіч Голуб; доктар медыцыны, загадчык кафедры гісторыі і эмбрыялогіі Пётр Якаўлевіч Герке; дацэнты Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта Ламбін, Дудкоў, Ваўчок; малады навуковы работнік Мед'інстытута комсамолец тав. Крукаў, які напісаў ужо 4 навуковыя работы, і інш. Многім з іх беларускі народ выказаў сваё высокае давер'е, абраўшы ў наш соцыялістычны парламент. Дэпутатамі Вярхоўнага Совета БССР абраны прэзідэнт Акадэміі Навук БССР тав. Горэў, прафесар Мелкіх, настаўніца Пруднікава, кампазітары Туранкоў і Багатыроў.

Беларускі народ пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі вырасціў цэлую плеяду мастакоў, скульптараў, кампазітараў, артыстаў.

З нетраў беларускага народа вышлі ордэнаносцы Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Міхась Лынькоў, Эдуард Самуйлёнак, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка і іншыя майстры мастацкага слова. У Совецкай Беларусі выраслі таленавітыя кадры актораў і спевакоў, якія маюць усе магчымасці стварыць высокаякаснае, поўнакроўнае мастацтва, вартае вялікай ленінска-сталінскай эпохі.

Паралельна з бурным ростам соцыялістычнай індустрыі расце вытворча-тэхнічная інтэлігенцыя нашай рэспублікі. Інжынер аршанскага ільнокамбіната тав. Сцепанава з групай маладых спецыялістаў нястомна працуе над асваеннем магутнасці ільнокамбіната, заклікана адыграць велізарную ролю ў нашай тэкстыльнай прамысло-

васці. Працоўныя Смалянскай выбарчай акругі высока ацанілі заслугі тав. Сцепанавай, абраўшы яе дэпутатам у Вярхоўны Совет БССР.

Рабочыя Менскага завода імя Кірава добра ведаюць і любяць маладога інжынера-комуніста Алексея Ільіча Золава—здольнага арганізатара вытворчасці, таленавітага прапагандыста.

Прыкладным прадстаўніком нашай новай інтэлігенцыі з народных нізоў з'яўляецца дырэктар віцебскай трыкатажнай фабрыкі «КІМ» дэпутат Вярхоўнага Совета БССР тав. Ханіна, якая некалькі год назад была работніцай гэтай фабрыкі. Сотні былых рабочых і работніц фабрыкі з'яўляюцца зараз кіраўнікамі розных участкаў вытворчасці. Прадзільшчыца тав. Апорцава, скончыўшы інстытут, кіруе цяпер буйнейшым цэхам фабрыкі.

Зараз, калі наша краіна ўступае ў трэцюю сталінскую пяцігодку, пяцігодку «завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма, калі рашаючае значэнне набывае справа комуністычнага выхавання працоўных, перамаганне перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей—будаўнікоў комунізма» *),—з усёй сілай паўстае пытанне аб ліквідацыі тэарэтычнай адсталасці нашых кадраў і, галоўным чынам, нашай інтэлігенцыі. Партыя, вялікі Сталін не толькі паставілі гэту задачу зараз, але і ўказалі шляхі і сродкі яе паспяховага вырашэння.

Выдатнай зброяй марксісцка-ленінскага выхавання нашых кадраў з'яўляецца «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)», дзе з усёй яснасцю і глыбінёй выкладзены асновы марксізма-ленінізма. З выхадам у свет гэтага глыбока навуковага твору, складзенага пры непасрэдным удзеле геніяльнага правадыра народаў таварыша Сталіна, партыя атрымала магутны сродак для ўзбраення будаўнікоў соцыялізма вучэннем Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна. «Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» з'яўляецца ўвасабленнем велізарнага вопыту большэвіцкай партыі, яе гераічнай барацьбы за пабудову соцыялістычнага грамадства, каштоўнейшым укладам у скарбніцу марксізма-ленінізма. Глыбокае вывучэнне гэтага твору дапаможа совецкай інтэлігенцыі аўладаць большэвізмам, узніме яе рэволюцыйную пільнасць, узброіць непрымірымасцю да ўсіх ворагаў народа, уменнем распазнаваць іх пад любою маскай.

Паваротным пунктам у ідэйным жыцці совецкай інтэлігенцыі і ўсяго совецкага народа з'яўляецца рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды ў сувязі з выпускам «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)». У гэтым рашэнні ЦК ВКП(б) рэзка асудзіў ганебныя адносіны да совецкай інтэлігенцыі, якія выразіліся ў запушчанасці і ігнараванні ідэйна-выхаваўчай работы з ёю, і ўказаў, што «такія антыбольшэвіцкія адносіны да совецкай інтэлігенцыі з'яўляюцца дзікімі, хуліганскімі і небяспечнымі для совецкай дзяржавы».

З часу апублікавання пастановы ЦК ВКП(б) аб прапагандзе прайшло тры месяцы. Партыйныя арганізацыі, перабудоўваючы ўсю сістэму прапагандысцкай работы, значна павысілі ўвагу і клопаты аб совецкай інтэлігенцыі ў справе ўзбраення яе большэвізмам.

Як прыклад разумення велізарнейшай важнасці гістарычнай пастановы ЦК ВКП(б) аб партыйнай прапагандзе, можна прывесці партыйную арганізацыю Наркомфіна БССР. Яна палітычна абслугоўвае калектыў інжынераў, эканамістаў, планавікаў, бухгалтараў

*) З тэзісаў даклада тав. Молатава.

і іншых работнікаў. Пастанова ЦК ВКП(б) даведзена да кожнага комуніста. Партком гутарыў з 30 членамі і кандыдатамі партыі і беспартыйнымі работнікамі. У таварыскіх гутарках выяснілася, што комуністы і беспартыйныя работнікі праяўляюць вялікі інтарэс і цягу да вывучэння гісторыі партыі. Член партыі тав. Шэкалаў глыбока вывучыў першы раздзел гісторыі партыі, рэгулярна чытае артыкулы па тэарэтычных пытаннях, якія змяшчаюцца ў газетах і журналах. Тав. Расказаў вёў канспект пры вывучэнні першых двух раздзелаў «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» і зараз працуе над першакрыніцамі, а таксама рэгулярна чытае філасофскія артыкулы ў журнале «Пад сцягам марксізма». Член партыі тав. Чыкорская да пастановы ЦК ВКП(б) аб прапагандзе займалася ў гуртку, што яе не задавальняла. Зараз яна з вялікім інтарэсам узялася за самастойнае вывучэнне гісторыі ВКП(б) і працуе над кнігай Леніна «Што рабіць?»

Партыйная арганізацыя ставіць на сходах тэарэтычныя пытанні, рыхтуе тэарэтычныя канферэнцыі з удзелам комуністаў і беспартыйных, што яшчэ больш узняло інтарэс да вывучэння гісторыі партыі.

Аднак не ўсе кіраўнікі партыйных арганізацый па сапраўднаму ўзяліся за рэалізацыю ўказанняў ЦК ВКП(б).

У Чырвонаслабодскім раёне ў снежні мінулага года былі прачытаны 2 лекцыі кваліфікаваным прапагандыстам на тэму «Што такое «прыяцелі» народа і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» Але ні на адну з гэтых лекцый не была запрошана інтэлігенцыя. Кагановіцкі горрайком партыі (Менск) склікаў раённы сход інтэлігенцыі. З чакаемых 1.600 чалавек на сходзе прысутнічала толькі 400. Многія пярвічныя партарганізацыі (СНК, Наркоммясцпрома, Пракуратуры, Галоўгандля і інш.) не паклапаціліся апавясціць сваю інтэлігенцыю аб гэтым важным сходзе.

Многія інжынерна-тэхнічныя работнікі завода імя Мяснікова (Менск) узяліся за глыбокае вывучэнне гісторыі ВКП(б), аднак партком не арганізаваў ім дапамогі.

Прыкладам фармальна-бюракратычных адносін да вывучэння гісторыі партыі можа служыць такі факт: партыйны сход фінбанкаўскіх работнікаў гор. Бабруйска (парторг тав. Астэрман) пасля абмеркавання пастановы ЦК ВКП(б) аб партыйнай прапагандзе прыняў наступнае, з дазволу кажучы, рашэнне: «Разгарнуць вучэнне «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» пасля таго, як скончым гадавы баланс».

Гэта гаворыць аб тым, што не ўсе кіраўнікі партыйных арганізацый зразумелі важнасць работы сярод інтэлігенцыі, узбраення яе марксісцка-ленінскай тэорыяй.

Каб дапамагчы совецкай інтэлігенцыі ў вывучэнні гісторыі ВКП(б), неабходна ўвесці ў сістэму агульныя сходы інтэлігенцыі. Праводзіць іх трэба дыферэнцыявана, па групах, не ганяючыся за вялікай колькасцю прысутных. Такія сходы будуць садзейнічаць збліжэнню партыйных арганізацый з рознымі групамі інтэлігенцыі, лепшаму азнаямленню з іх запросамі, што ў сваю чаргу дапаможа лепш арганізаваць партыйную прапаганду. Работа сярод совецкай інтэлігенцыі не павінна насіць кампанейскі характар. Над узбраеннем совецкай інтэлігенцыі вучэннем Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна неабходна працаваць крапатліва, сістэматычна, штодзенна.

У трэцяй пяцігодцы перад краінай паўстае важнейшая задача—узняць культурна-тэхнічны ўзровень рабочага класа да ўзроўню работнікаў інжынерна-тэхнічнай працы. Выключную ролю ў гэтай справе павінна адыграць наша інтэлігенцыя—перадавы атрад работнікаў культурнага фронта.

У тэзісах тав. Жданава зусім правільна і своечасова пастаўлена пытанне аб адмене катэгорый пры прыёме ў партыю. Ліквідацыя катэгорый дасць лепшай частцы совецкай інтэлігенцыі магчымасць уліцца ў рады большэвіцкай партыі і разам з ёю вырашаць адказнейшыя задачы трэцяй пяцігодкі—«завяршэнне будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма к комунізму».

У тэзісах к дакладу тав. Жданава на XVIII з'ездзе ВКП(б) гаворыцца, што ў нашай краіне карэнным чынам змяніўся рабочы клас, сялянства, інтэлігенцыя:

> «Совецкая інтэлігенцыя—гэта ўчарашнія рабочыя і сяляне і сыны рабочых і сялян, якія вылучаны на камандныя пасты. Совецкая інтэлігенцыя служыць не капіталізму, як старая інтэлігенцыя, а соцыялізму, і з'яўляецца роўнапраўным членам соцыялістычнага грамадства».

Гэтыя змены, якія мяркуецца ўнесці ў статут ВКП(б), знайшлі шырокі водгук у масах працоўных і совецкай інтэлігенцыі.

Працоўныя нашай краіны сустракаюць XVIII з'езд партыі з велізарным натхненнем і ўздымам. На фабрыках, заводах, у совецкіх установах шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва, каб сустрэць XVIII з'езд партыі новымі вытворчымі перамогамі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Трэба не забываць таго, што ўсе нашы кадры грамадскіх і дзяржаўных дзеячоў, камандны склад у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, кіраўнікі кааперацыйных і калгасных арганізацый, людзі навукі і мастацтва—уся армія совецкай інтэлігенцыі непасрэдна звязана з дзяржаўным кіраўніцтвам у нашай краіне. На гэтыя кадры апіраецца наша соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян, ад інтэлігенцыі ва многім залежыць лёс нашай справы, яе поспехі і дасягненні.

Таму першачарговая, важнейшая задача ўсіх партыйных арганізацый—дапамагчы совецкай інтэлігенцыі ў справе авалодання марксісцка-ленінскай тэорыяй, авалодання большэвізмам.

Цяпер, калі галоўная задача заключаецца ў комуністычным выхаванні працоўных, калі свядомыя адносіны да сваіх абавязкаў, чэсны труд на карысць дзяржавы рашаюць поспех выканання далейшых задач соцыялістычнага будаўніцтва, «гіганцкі ўзнімаецца роля совецкай інтэлігенцыі, якая ўмее па-большэвіцку працаваць, па-большэвіцку змагацца за ўздым культурнасці і комуністычнай свядомасці працоўных». Таму ганаровай і адказнай задачай партыйных арганізацый і кожнага комуніста з'яўляецца яшчэ большае згуртаванне мас, згуртаванне совецкай інтэлігенцыі на барацьбу за поўны трыумф комунізма.

Трэба цвёрда засвоіць, што зараз рашаюць справу кадры, якія асвоілі тэхніку вытворчасці, рашаюць справу совецкія культурныя сілы. Яны змогуць выканаць свае гістарычныя задачы толькі ў тым

выпадку, калі нястомна будуць авалодваць большэвізмам, вялікай тэорыяй Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Пакончыць з пагардлівымі адносінамі да нашай інтэлігенцыі, да палітычнага выхавання кадраў, ідэйна згуртаваць яе пад сцягам ленінізма, выхаваць яе ў духу беззаветнай адданасці ідэям комунізма, узброіць марксісцка-ленінскай тэорыяй—значыць рушыць наперад справу комунізма.

Партыйныя арганізацыі павінны ўсямерна дапамагаць нашай совецкай інтэлігенцыі ў яе самастойнай сістэматычнай і ўпартай рабоце над сабой, у авалоданні гісторыяй большэвіцкай партыі, у вывучэнні асноўных твораў Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна.

Трэба арганізаваць пры партыйных кабінетах індывідуальныя і групавыя кансультацыі сіламі высокакваліфікаваных прапагандыстаў, дапамагчы нашым кадрам, якія самастойна вывучаюць гісторыю ВКП(б).

Неабходна палепшыць палітычную работу сярод інтэлігенцыі, шырока ўцягваць яе ў грамадска-палітычнае жыццё, падрыхтоўваць лепшых настаўнікаў, урачоў, інжынераў, тэхнікаў, аграномаў, зоаветработнікаў, совецкі профсаюзны і калгасны актыў да ўступлення ў большэвіцкую партыю.

Узмацненне работы партыйных і комсамольскіх арганізацый сярод совецкай інтэлігенцыі яшчэ вышэй узніме яе актыўнасць у правядзенні гаспадарча-палітычных кампаній, узмоцніць рост партыйных і комсамольскіх арганізацый за лік лепшай часткі інтэлігенцыі, забяспечыць палепшанне работы совецкіх, гаспадарчых і гандлёва-кааперацыйных арганізацый.

---

А. Свам

# Аб двух родах войн

«Кароткі курс гісторыі ВКП(б)» і рашэнне ЦК ВКП(б) «Аб пастаноўцы партыйнай прапаганды» нанеслі сакрушальны ўдар скажэнням марксісцка-ленінскіх поглядаў па пытанню аб характары войн у сучасную эпоху, неразуменню розніцы паміж войнамі справядлівымі і несправядлівымі, няправільным поглядам на большэвікоў як на свайго роду «пацыфістаў».

Гэтыя важнейшыя гістарычныя дакументы паклалі канец усім гэтым скажэнням і чотка сфармулявалі марксісцка-ленінскія погляды па пытанню аб характары войн справядлівых і несправядлівых.

> «Большэвікі,—гаворыцца ў VI раздзеле «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)»—не былі супроць **усякай** вайны. Яны былі толькі супроць захватніцкай, супроць імперыялістычнай вайны. Большэвікі лічылі, што вайна бывае двух радоў:
>
> а) вайна **справядлівая,** незахватніцкая, вызваленчая, якая мае на мэце або абарону народа ад знешняга нападу і спроб яго заняволення, або вызваленне народа ад рабства капіталізма, або, нарэшце, вызваленне калоній і залежных краін ад гнёту імперыялістаў, і
>
> б) вайна **несправядлівая,** захватніцкая, якая мае на мэце захват і заняволенне чужых краін, чужых народаў.
>
> Вайну першага роду большэвікі падтрымлівалі. Што датычыць вайны другога роду, большэвікі лічылі, што супроць яе трэба весці рашучую барацьбу аж да рэволюцыі і звяржэння свайго імперыялістычнага ўрада».

Гэта глыбока навуковае вызначэнне двух родаў войн з'яўляецца вывадам з усяго велізарнага тэарэтычнага і практычнага вопыту марксізма-ленінізма. Яно ярка паказвае, што большэвікі не з'яўляюцца праціўнікамі **ўсякай** вайны, а прызнаюць законнасць і безумоўную неабходнасць справядлівых войн, падтрымліваюць іх і ў той-жа час вядуць рашучую і паслядоўную барацьбу супроць захватніцкіх, несправядлівых войн.

Пытаннем аб характары і родах войн займаліся неаднакроць асновапаложнікі навуковага комунізма—Маркс і Энгельс, гэтым пытаннем займаўся Ленін, займаўся ім і займаецца таварыш Сталін.

Маркс і Энгельс прысвяцілі пытанню аб справядлівай і несправядлівай вайне многа ўвагі, вывучаючы канкрэтныя войны, перажытыя чалавецтвам на розных этапах развіцця грамадства. Яны паказалі, што войны абодвух родаў мелі месца ў розныя эпохі развіцця

грамадства. Так, справядлівымі, незахватніцкімі войнамі яны лічылі вайну вялікага рускага народа супроць нямецкіх «псоў-рыцараў», разбітых Александрам Неўскім у Лядовым пабоішчы ў 1242 годзе. Справядлівай, вызваленчай вайной была вайна Дзімітрыя Данскога супроць мангольскіх заваявальнікаў; вызваленчая барацьба рускага народа супроць польскіх паноў у XVII веку; айчынная вайна рускага народа супроць нашэствія Напалеона ў 1812 годзе. Ва ўсіх гэтых справядлівых войнах вялікі рускі народ, адстойваючы сваю радзіму ад варожага нападу, праявіў цуды гераізма і самаафярнасці. Справядлівыя войны вялі рэвалюцыйныя арміі рэспубліканскай Францыі супроць кааліцыі абсалютысцкіх поўфеадальных дзяржаў. Вызваленчай, народнай, справядлівай вайной была вайна іспанцаў і іншых еўрапейскіх народаў супроць уладарніцтва Напалеона І.

Вывучаючы вайну 1870—1871 гг., Маркс і Энгельс указвалі, што ў сваёй першай стадыі гэта вайна была справядлівай для Прусіі, якая змагалася супроць іншаземных захватчыкаў, затым, пасля перамогі прусакоў над Францыяй, стала захватніцкай вайной Прусіі супроць Францыі і, нарэшце, вырадзілася ў вайну міжнароднага капітала, у саюз Бісмарка і Т'ера супроць паўстаўшых рабочых і насельніцтва Парыжа. Вайну парыжскіх комунараў супроць версальцаў Маркс называе самай справядлівай вайной, якую калі-небудзь перажывала чалавецтва.

Асновапаложнікі марксізма-ленінізма Маркс, Энгельс, Ленін і Сталін неаднакроць адзначалі, што вырашэнне пытання аб справядлівасці або несправядлівасці той ці іншай вайны магчыма толькі на падставе навуковага аналіза прычын узнікнення кожнай данай канкрэтнай вайны. Спыняючыся на войнах капіталістычнай эпохі, яны звязвалі вырашэнне гэтага пытання з пытаннем аб канкрэтных задачах барацьбы рабочага класа за соцыялізм. Пытанне аб прагрэсіўнасці, справядлівасці той ці іншай канкрэтнай вайны вырашалася імі з улікам таго, перамога якога з ваюючых бакоў адкрывае больш шырокія перспектывы для паспяховай барацьбы за соцыялізм. В. І. Ленін, адзначаючы, што пасля французскай буржуазнай рэвалюцыі і аж да Парыжскай комуны, «з 1789 да 1871 г., адным з тыпаў войн былі войны буржуазна-прагрэсіўнага, нацыянальна-вызваленчага характару», указваў, што «галоўным зместам і гістарычным значэннем гэтых войн было звяржэнне абсалютызма і феадалізма, падрыў іх, звяржэнне чужанацыянальнага гнёту» *).

> «Галоўным класам, які тады, у часе гэтых войн і прымаючы ўдзел у гэтых войнах, ішоў па ўзыходзячай уверх лініі і які адзін толькі мог выступаць з падаўляючай сілай супроць феадальна-абсалютысцкіх установ, была буржуазія... Народны рух у галоўных, закранаемых вайной, краінах быў тады агульнадэмакратычным, г. зн. буржуазна-дэмакратычным па свайму эканамічнаму і класаваму зместу. Зусім натуральна, што **іншага** пытання тады нельга было і ставіць, акрамя пытання аб тым, поспех **якой** буржуазіі, пры якой камбінацыі, пры няўдачы якой з рэакцыйных (феадальна-абсалютысцкіх, затрымліваючых уздым буржуазіі) сіл абяцае больш «прастору» для сучаснай дэмакратыі» **).

*) **В. І. Ленін** т. XVIII, стар. 193—194.
**) Там-жа, стар. 109—110.

Было-б няправільна думаць, што ўсе войны гэтага перыяда былі прагрэсіўнымі, справядлівымі, вызваленчымі войнамі. Побач з такімі войнамі, як айчынная вайна 1812 г. або іспанская вайна супроць Напалеона, мелі месца рэакцыйныя, захватніцкія, несправядлівыя войны. Несправядлівыя, захватніцкія войны супярэчаць інтарэсам працоўных мас, бо яны вядуцца ва ўмовах заняволення іншых народаў і ў інтарэсах умацавання рэакцыі. Такімі былі, напрыклад, войны капіталістычных дзяржаў за захват і заняволенне калоній, войны Англіі і Францыі супроць Кітая і т. п.

Асаблівае значэнне пытанне аб справядлівых і несправядлівых войнах набывае ў эпоху імперыялізма.

З 1871 па 1917 год разражаецца велізарная колькасць узброеных канфліктаў—войн і інтэрвенцый. Ленін*) налічыў 17 толькі вялікіх войн, якія мелі месца за гэты перыяд: 1877 г.—руска-турэцкая вайна; 1879 г.—вайна Англіі з зулусамі; 1881 г.—вайна Англіі з бурамі; 1885 г.—вайна Францыі з Кітаем з-за Танкіна; 1894-95 г.г.—японакітайская вайна; 1895 г.—вайна Францыі з Мадагаскарам; 1896 г.—італа-абісінская вайна, якая закончылася разгромам італьянскіх захватчыкаў; 1897 г.—грэка-турэцкая вайна; 1898 г.—іспана-амерыканская вайна; 1899—1902 г.г.—другая англа-бурская вайна; 1900—1901 г.г.—падаўленне баксёрскага паўстання ў Кітаі; 1904—1907 г.г.—вайна Германіі з племенем герэро; 1904—1905 г.г.—руска-японская вайна; 1911—1912 г.г.—італа-турэцкая вайна; 1912 г.—дзве балканскія войны і, нарэшце, 1914 г.—першая сусветная імперыялістычная вайна за агульны перадзел свету. Зместам пералічаных войн была барацьба імперыялістычных дзяржаў за раздзел і перадзел калоній і барацьба імперыялістычных дзяржаў супроць «каланіяльных народаў», за іх заняволенне.

Пры кожнай новай вайне народныя масы ставілі пытанне: ці справядліва гэтая, канкрэтная вайна. Гэта пытанне стала адным са сродкаў барацьбы новага, паслядоўна рэволюцыйнага класа—пралетарыята—супроць імперыялістычнай знешняй палітыкі рэакцыйнай буржуазіі, супроць грабежніцкіх, захватніцкіх войн.

Пытанне аб адносінах пралетарыята да войн імперыялістычнай эпохі было ўсебакова распрацавана ў працах геніяльнага правадыра працоўных усяго свету В. І. Леніна.

Ленін неаднакроць звярачаўся да гэтага пытання ў сувязі з канкрэтнымі войнамі гэтага перыяда, асабліва-ж у сувязі з руска-японскай вайной 1904—1905 г.г. і ў сувязі з балканскімі войнамі 1912 г. Зусім выключную ўвагу ўдзяляў ён гэтаму пытанню ў час сусветнай імперыялістычнай вайны 1914—1918 г.г., якая ахапіла ўвесь зямны шар і ўцягнула ў сваю мясарубку сотні мільёнаў працоўных усіх краін. Гэта ўвага Леніна пытанню аб вайне была прадыктавана тым фактам, што пытанне аб адносінах да гэтай вайны было ў той перыяд адным з асноўных пытанняў рабочага руху.

У вайне 1914—1918 г.г. ідэолагі імперыялістычнай буржуазіі і лідэры абанкроціўшагася II Інтэрнацыянала выступалі адзіным фронтам. Імперыялістычная буржуазія і яе лакеі не могуць адкрыта заявіць, што вайна вядзецца ў інтарэсах пануючых класаў: на такую вайну было-б цяжка мабілізаваць масы. Вось чаму ўсе, зацікаўленыя ў вайне, пачынаючы ад Вільгельма і Нікалая, заяўлялі, што гэта

*) Гл. „Ленінскі зборнік“ т. XXIX, стар. 288—304.

вайна з'яўляецца вызваленчай, законнай, справядлівай вайной. Паняцце справядлівай вайны, якое жыло ў свядомасці шырокіх мас, было таксама мабілізавана на вайну, як і ўсе іншыя сродкі, і было далёка не апошнім сродкам сакрушэння ваеннай магутнасці праціўніка.

Барацьба Леніна і Сталіна супроць імперыялістычнай вайны 1914—1918 г.г. сканцэнтравалася перш за ўсё на выкрыцці грабежніцкага, імперыялістычнага характару гэтай вайны, на растлумачэнні шырокім масам працоўных, што даная вайна ні для адной з ваюючых кааліцый дзяржаў не з'яўляецца ні абарончай, ні прагрэсіўнай, ні справядлівай вайной.

Для выканання гэтай задачы Ленін прыцягнуў увесь тэарэтычны вопыт, накоплены рэволюцыйным рабочым рухам па гэтаму пытанню. Выступаючы супроць вайны 1914—1918 г.г., Ленін перш за ўсё праводзіў грань паміж адносінамі да вайны пролетарскай рэволюцыйнай партыі і адносінамі да вайны ліберальна-буржуазных пацыфістаў і пацыфіствуючых соцыял-дэмакратаў, захаваўшыхся яшчэ галоўным чынам у так званых нейтральных краінах.

Ленін заяўляў, што большэвікі не супроць усякай вайны. Большэвікі адрозніваюцца ад пацыфістаў, ад анархістаў, талстоўцаў і іншых «прынцыповых» праціўнікаў вайны тым, што прызнаюць неабходнасць гістарычнага вывучэння кожнай канкрэтнай вайны. Большэвікі прызнаюць, што ва ўсе гістарычныя эпохі былі і прагрэсіўныя войны і рэакцыйныя войны, войны нацыянальна-вызваленчыя і войны захватніцкія. Значыць, патрэбна не пацыфісцкая дэкламацыя аб жахах вайны наогул, а навуковы аналіз данай канкрэтнай вайны, вайны, якая пачалася паміж дзяржавамі ў жніўні 1914 г. Трэба вырашыць спачатку, што гэта за вайна, у якіх мэтах яна вядзецца, кім і супроць каго, якія будуць яе вынікі для рабочага класа і працоўных усяго свету і, на аснове марксісцкага навуковага аналіза гэтых пытанняў, вызначыць свае адносіны да яе.

Ленін дае зусім канкрэтны адказ на пытанне аб тым, як-жа вырашаць пытанне, ці з'яўляецца тая ці іншая вайна справядлівай, законнай, прагрэсіўнай і т. д. Марксісцкае, г. зн. адзіна навуковае рашэнне гэтага пытання заключаецца ў вывучэнні папярэдняй вайне палітыкі дзяржаў, якая прывяла да вайны. Вайна—ёсць працяг палітыкі.

> «Калі палітыка была імперыялісцкая, г. зн. абараняючая інтарэсы фінансавага капітала, рабуючая і прыгнятаючая калоніі і чужыя краіны, то і вайна, выцякаючая з гэтай палітыкі, ёсць імперыялісцкая вайна. Калі палітыка была нацыянальна-вызваленчая, г. зн. выражаўшая масавы рух супроць нацыянальнага гнёту, то вайна, выцякаючая з такой палітыкі, ёсць нацыянальна-вызваленчая вайна» *).

Пры вывучэнні пытання аб характары той ці іншай канкрэтнай вайны неабходна браць галоўнае і асноўнае, адмятаць усё, што зацямняе яе сапраўдны сэнс.

Ленін указвае, што гэта за галоўнае і асноўнае:

> «Для абывацеля важна, **дзе** стаяць войскі, хто **зараз** перамагае. Для марксіста важна, **з-за чаго** вядзецца **даная** вайна, у часе якой могуць быць пераможцамі то адны, то другія» **)...

---

*) **В. І. Ленін**, т. XIX, стар. 199.
**) Там-жа.

Ленін указвае таксама, што марксіст павінен, у адрозненне ад абываценя, разбірацца ў тым, якімі класамі, дзеля якой палітычнай мэты вядзецца даная вайна.

Зыходзячы з гэтых тэарэтычных установак, Ленін падышоў канкрэтна і да вайны 1914—1918 гг., выкрыўшы яе імперыялісцкі, захватніцкі, грабежніцкі характар.

Найбольш шырока распаўсюджанай была «тэорыя» «абароны бацькаўшчыны». Пад лозунгам «абароны бацькаўшчыны» галасавалі за ваенныя крэдыты лідэры социял-шавіністаў, гэты-ж лозунг абвяшчаўся ў афіцыяльных царскіх і вільгельмаўскіх маніфестах і т. д. Ленін ускрыў усю ілжывасць гэтага лозунга, пры дапамозе якога пануючыя класы ашуквалі працоўных, імкнучыся прыкрыць грабежніцкі характар вайны 1914—1918 г.г. У артыкуле «Аб карыкатуры на марксізм» Ленін падрабязна выясняе палітычнае значэнне гэтага лозунга ў розных войнах. Рэзка высмейваючы здрадніка Пятакова, які аб'яўляе гэты лозунг «здрадніцкім», Ленін гаворыць, што ўсякі лозунг з'яўляецца і заўсёды будзе з'яўляцца здрадніцкім **для тых**, хто будзе механічна паўтараць яго, не разумеючы значэння, не ўдумваючыся ў справу, абмяжоўваючыся запамінаннем слоў без аналіза іх сэнсу. «У **сапраўдна**-нацыянальнай вайне словы «абарона бацькаўшчыны» **зусім** не абман і **мы зусім не супроць яе»** *)—падкрэслівае Ленін сваю думку. Але вайна 1914—1918 г.г.—не нацыянальная вайна. «Фразы аб абароне бацькаўшчыны ў данай вайне аблыжна выдаюць імперыялісцкую вайну... вайну з-за раздзелу калоній, з-за рабунку чужых зямель і т. д., за нацыянальную вайну» **).

Сапраўдная прычына вайны 1914—1918 г.г. не ў тым, што «адна старана звяргае нацыянальны гнёт, другая абараняе яго. Вайна ідзе паміж двума групамі прыгнятальнікаў, паміж двума разбойнікамі» з-за дзеляжу здабычы.

> «Каротка:—гаворыць Ленін,—вайна **паміж** імперыялісцкімі, (г. зн. прыгнятаючымі цэлы рад чужых народаў, апутваючымі іх сецямі залежнасці ад фінансавага капітала і інш.) вялікімі дзяржавамі або ў **саюзе** з імі ёсць імперыялісцкая вайна. Такава вайна 1914—6 г.г. (1918 г.—**А. С.**) «Абарона бацькаўшчыны» ёсць абман у **гэтай** вайне, ёсць апраўданне яе» ***).

У радзе сваіх выступленняў ужо ў самым пачатку вайны 1914—1918 гг. Ленін, зыходзячы з навуковага аналіза характару вайны, указаў на палітычныя задачы міжнароднага пролетарыята ў імперыялістычнай вайне.

У гэтай вайне, у адрозненне ад нацыянальна-вызваленчых войн, нельга вырашаць пытанне аб адносінах да яе пролетарыята з пункта погляду таго, «паражэнне якой з двух груп ваюючых нацый было-б найменшым злом для соцыялізма» ****). Задачай марксістаў павінна быць у першую чаргу барацьба супроць шавінізма сваёй краіны, выкрыццё імперыялістычных мэт свайго ўрада, паражэнне сваіх імперыялістаў, ператварэнне імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую.

> «Ператварэнне сучаснай імперыялісцкай вайны ў грамадзянскую вайну ёсць адзіна правільны пролетарскі лозунг, указ-

*) **В. І. Ленін**, т. XIX, стар. 197.
**) Там-жа.
***) Там-жа, стар. 200.
****) **В. І. Ленін**, т. XVIII, стар. 65.

ваемы вопытам Комуны, намечаны Базельскай (1912 г.) рэзалюцыяй і выцякаючы з усіх умоў імперыялісцкай вайны паміж высока развітымі буржуазнымі краінамі» *).

Ленін, развіваючы і рухаючы далей вучэнне Маркса, паказаў, што лозунг паражэння свайго ўрада ў імперыялістычнай вайне з'яўляецца ва ўмовах імперыялістычнай стадыі капіталізма адзіна магчымым адказам паслядоўнай рэволюцыйнай партыі на імперыялістычную вайну, калі гэта партыя не хоча прынесці інтарэсы міжнароднага пролетарыята ў афяру выгадам міжнароднага імперыялізма.

«Пры гэтым Ленін лічыў, што палітыку паражэння свайго імперыялістычнага ўрада павінны праводзіць не толькі рускія рэволюцыянеры, але і рэволюцыйныя партыі рабочага класа **ўсіх** ваюючых краін».

Выступаючы супроць цэнтрыстаў, высоўваўшых лозунг «ні перамог, ні паражэнняў», і супроць «звонкіх фраз» Троцкага, па сутнасці апраўдваўшых адкрыты социял-шавінізм, Ленін паказаў, што «рэволюцыйная барацьба супроць вайны» з'яўляецца надутай фразай, пустым і беззместоўным воклічам, **«калі** пад ёю не разумець рэволюцыйныя дзеянні супроць **свайго ўрада** і ў часе вайны»***). Рэволюцыйныя-ж дзеянні ў часе вайны—гэта, паслядоўна разважаючы, нішто іншае як паслядоўная класавая барацьба супроць сваёй буржуазіі і яе ўрада, якая немінуча перарастае ў рэволюцыю і грамадзянскую вайну. Адмаўленне ад задачы звяржэння ўлады буржуазіі шляхам рэволюцыі азначае, такім чынам, класавы мір на час вайны, адмаўленне ад асноўнай мэты пролетарскага рэволюцыйнага руху. Ленін указваў, што той, хто хацеў-бы абвергнуць лозунг паражэння свайго ўрада ў імперыялістычнай вайне, павінен быў-бы даказаць, што даная імперыялістычная вайна не ёсць імперыялістычная і рэакцыйная, што і яна прагрэсіўная і вызваленчая, справядлівая вайна, што перамога данага ўрада ў гэтай вайне (як гэта было ў нацыянальных войнах мінулай эпохі) аб'ектыўна ідзе на карысць соцыялізма, пашыраючы магчымасці арганізацыі рабочага класа і яго барацьбы за свае мэты.

Вучэнне Леніна аб вайне і задачах пролетарыята ў часе вайны не вычэрпваецца распрацоўкаю пытання аб імперыялістычных войнах. Распрацоўваючы гэта пытанне прыстасоўна да вайны 1914—1918 гг., Ленін ні на мінуту не ўпускае з-пад увагі і магчымасць іншых тыпаў войн пры імперыялізме і неабходнасць вызначыць задачы пролетарыята і ў гэтых войнах.

Побач з імперыялістычнымі войнамі, у якіх абодва бакі вядуць выцякаючую з усёй іх палітыкі грабежніцкую вайну, у эпоху імперыялізма маюць месца і войны імперыялістычных дзяржаў супроць слабых народаў, супроць каланіяльных і поўкаланіяльных краін, і войны паўстаўшых супроць чужаземнага гнёту народаў. У 1916 г. Ленін у палеміцы з Розай Люксембург (артыкул «Аб брашуры Юніуса» т. XIX) паказаў, выступаючы супроць тэзіса Р. Люксембург аб немагчымасці нацыянальных войн пры імперыялізме, немінучасць нацыянальных войн з боку калоній і поўкалоній.

«Гісторыя XX века,—пісаў Ленін у артыкуле «Ваенная пра-

*) В. І. Ленін, т. XVIII, стар. 66.
**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 160.
***) В. І. Ленін, т. XVIII, стар. 169.

грама пролетарскай рэволюцыі»—гэтага века «разбэшчанага імперыялізма», поўна каланіяльных войн. Але тое, што мы, еўрапейцы, імперыялісцкія прыгнятальнікі большасці народаў свету, з уласцівым нам гнусным еўрапейскім шавінізмам, называем «каланіяльнымі войнамі», гэта часта нацыянальныя войны або нацыянальныя паўстанні гэтых прыгнечаных народаў. Адна з самых асноўных уласцівасцей імперыялізма заключаецца якраз у тым, што ён паскарае развіццё капіталізма ў самых адсталых краінах і тым самым пашырае і абвастрае барацьбу супроць нацыянальнага прыгнечання» *).

Больш таго: у той-жа палеміцы Ленін з усёй акрэсленасцю адверг тэзіс Розы Люксембург, што ў эпоху імперыялізма войны, нават тыя, што пачаліся, як нацыянальныя войны, немінуча перарастаюць у імперыялістычныя войны. Такое перарастанне можа быць, але можа і не быць. Не толькі нацыянальная вайна можа ператварыцца ў імперыялістычную, але і наадварот: імперыялістычная вайна можа ператварыцца ў нацыянальную, указвае Ленін. Нацыянальная вайна не траціць, па-Леніну, свайго характару, калі да яе ў якасці прыўваходзячага, не маючага сур'ёзнага значэння элемента, прымешваецца імперыялістычнае спаборніцтва. Прыкладам такога роду з'яўляецца вайна Злучаных Штатаў за вызваленне ад Англіі, у якой на баку Злучаных Штатаў былі Францыя і Іспанія, што знаходзіліся ў варожых адносінах з Англіяй з-за калоній. Нацыянальныя войны магчымы ў эпоху імперыялізма, указвае Ленін, не толькі як войны каланіяльных і поўкаланіяльных народаў супроць імперыялізма, але і як войны некаторых еўрапейскіх нацый за вызваленне ад чужанацыянальнага гнёту. Ленін падкрэслівае, што эпоха імперыялізма

> «ніколькі не выключае нацыянальных войн, напр., з боку маленькіх (дапусцім, анектыраваных або нацыянальна-прыгнечаных) дзяржаў **супроць** імперыялісцкіх дзяржаў, як не выключае яна і нацыянальных рухаў у вялікім маштабе на усходзе Еўропы» **).

Пытанне аб адносінах пролетарыята да гэтых войн Ленін разглядае ў сувязі з пытаннем аб адносінах пролетарыята да нацыянальных і каланіяльных рухаў у эпоху імперыялізма.

Адстойваючы права кожнай прыгнечанай нацыі на самавызначэнне, аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай нацыянальнай дзяржавы, Ленін указвае, што гэта права прыгнечаныя нацыі могуць ажыццявіць у эпоху імперыялізма, як правіла, у выніку нацыянальна-вызваленчай вайны. У 1916 г., выкрываючы апартуністычныя ўстаноўкі ў нацыянальным пытанні здрадніка Пятакова, «адмаўляўшага» права нацый на самавызначэнне і на вызваленчую вайну супроць імперыялізма, Ленін у артыкуле «Аб карыкатуры на марксізм» указвае, што такая вайна з'яўляецца прагрэсіўнай, вызваленчай і справядлівай вайной, што кожны марксіст абавязан падтрымаць такую вайну і дапамагчы прыгнечанай нацыі вызваліцца ад імперыялістычнага панавання.

У канцы першай сусветнай імперыялістычнай вайны пытанне аб справядлівай і несправядлівай вайне паўстала ў новай плоскасці,—як пытанне аб адносінах да войн паміж соцыялістычнымі дзяржавамі і краінамі капіталістычнага акружэння. Першая імперыялістычная

*) В. І. Ленін, т. XIX, стар. 324.
**) Там-жа, стар. 183.

вайна ўзрушыла ўсю сістэму сусветнага капіталізма і паклала пачатак перыяду яго агульнага крызісу. Яна абвастрыла класавую барацьбу, разгортванне якой прывяло да прарыву імперыялістычнага фронта ў яго найбольш слабым звяне. Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя ў Расіі звергла панаванне буржуазіі, увасобіла ў жыццё новы тып дзяржавы—дыктатуру пролетарыята ў дзяржаўнай форме Совецкай улады, паклала пачатак міжнароднай рэвалюцыі пролетарыята.

Зыходзячы з закона нероўнамернага развіцця капіталізма і магчымасці перамогі соцыялізма першапачаткова ў адной або некалькіх краінах, Ленін, яшчэ да Кастрычніцкай рэвалюцыі, у артыкуле «Ваенная праграма пролетарскай рэвалюцыі» ўказваў, што такое адначасовае суіснаванне двух антаганістычных класавых сістэм немінуча павінна прывесці да спроб з боку капіталістычных краін задушыць соцыялістычныя краіны з дапамогаю вайны, «павінна выклікаць не толькі трэнні, але і прамое імкненне буржуазіі іншых краін да разгрому пераможнага пролетарыята соцыялістычнай дзяржавы» *). Пазней, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, Ленін неаднакроць зварачаўся да гэтага палажэння. З асаблівай сілай падкрэсліў яго таварыш Сталін, развіваючы вучэнне Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной краіне і, канкрэтна, у СССР, ва ўмовах капіталістычнага акружэння. Пытанне аб магчымасці вайны і інтэрвенцыі краін капіталістычнага акружэння супроць краіны соцыялізма было звязана таварышом Сталіным з пытаннем аб канчатковай перамозе соцыялізма.

Вайну пролетарыята, узяўшага ўладу ў свае рукі, супроць варожага імперыялістычнага акружэння Ленін называў неаднакроць законнай і справядлівай вайной. «Было-б проста глупа,—гаварыў ён,—адмаўляць «абарону бацькаўшчыны»... з боку перамогшага пролетарыята ў **яго** вайне супроць якога-небудзь Галіфе буржуазнай дзяржавы» *). У гэтым выпадку «вайна з нашага боку была-б законнай і справядлівай» **).

Леніну і Сталіну прышлося кіраваць нашай партыяй і краінай у першай такой вайне капіталістычнага свету супроць соцыялістычнай дзяржавы. Гэта вайна, як вядома, працягвалася з 1917 па 1922 год. Супроць народаў СССР выступалі і арміі германскага імперыялізма, і англа-франка-япона-італьянскія, і іншыя інтэрвенты, якія арганізавалі тры паходы Антанты. Толькі ў 1922 г. з узяццем Владзівастока чырвонымі часцямі быў пакладзен канец японскай інтэрвенцыі.

> «Большэвіцкая партыя падымае рабочых і сялян на **ацечэственную** вайну супроць іншакраінных захватчыкаў і буржуазна-памешчыцкай белагвардзейшчыны. Совецкая рэспубліка і яе Чырвоная армія разбіваюць аднаго за другім стаўленікаў Антанты—Калчака, Юдзеніча, Дзенікіна, Краснова, Врангеля, вышыбаюць з Украіны і Беларусі яшчэ аднаго стаўленіка Антанты—Пілсудскага і, такім чынам, адбіваюць замежную ваенную інтэрвенцыю, выганяюць вон яе войскі з межаў Совецкай краіны» ***).

Вайна рабочых і сялян за ўладу Советаў была не толькі вайной супроць чужанацыянальнага гнёту, вайной супроць спроб захвату і расчлянення зямель народаў СССР, яна была рэвалюцыйнай вайной

*) **В. І. Ленін**, т. XIX, стар. 325.

**) Там-жа.

***) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар.233—234.

пролетарыята за вызваленне народа ад рабства капіталізма, была вайной за соцыялізм.

«Кастрычніцкая рэволюцыя не ёсць толькі рэволюцыя «ў нацыянальных рамках». Яна ёсць, перш за ўсё, рэволюцыя інтэрнацыянальнага, сусветнага парадку, бо яна азначае карэнны паварот у сусветнай гісторыі чалавецтва ад старога, капіталістычнага, свету да новага, соцыялістычнага, свету» *).

Гэта вызначыла і асобы характар ацечэственнай вайны рабочых і сялян СССР супроць міжнароднага капітала.

II

Разгледзім цяпер, як ставіцца і вырашаецца пытанне аб справядлівай і несправядлівай вайне пасля першай сусветнай імперыялістычнай вайны і асабліва ў цяперашні час, калі другая імперыялістычная вайна пачалася ўжо і захваціла ў сваю арбіту сотні мільёнаў людзей.

Першыя паўтара дзесяткі год пасля скончэння вайны 1914—1918 гг. прайшлі пад знакам пацыфізма і абвяшчэння вайне публічнай анафемы. Не толькі правадыры апартуністычнага соцыял-рэфармісцкага інтэрнацыянала (Каўцкі, Отто Бауэр, Вандэрвельдэ і інш.), але і практычныя палітыкі імперыялістычных дзяржаў (Вільгельм, Брыан, Келаг і інш.) абвяшчаюць наступленне новай эры ў гісторыі чалавецтва: эры ўсеагульнага міру, безапаснасці, мірнага супрацоўніцтва народаў, плаўнага бяскрызіснага развіцця капіталізма, працвітання і т. д. Прыняты на Парыжскай мірнай канферэнцыі ў 1919 г. статут Лігі нацый не аб'яўляе, праўда, вайну як гэткую, па-за законам, але ўстанаўляе сістэму, пры якой не ўсякая вайна з'яўляецца «дазволенай», «законнай» вайной.

Далейшы крок у гэтым напрамку быў зроблен так званым пактам Келага—Брыана ў 1928 г., якім быў урачыста асуджан «зварот да вайны для вырашэння міжнародных спрэчак» і зафіксавана абавязацельства дзяржаў адмовіцца ад вайны, «як зброі нацыянальнай палітыкі ў іх адносінах паміж сабою» (арт. 1).

Адначасова з гэтым на працягу раду год Ліга нацый «працуе» над праблемай раззбраення і абмежавання ўзбраенняў, над праблемай безапаснасці, над пытаннем аб забароне некаторых сродкаў вайны (хімічнай і бактэрыялагічнай вайны). Гэта, як яе называе тав. Літвінаў, «эра пацыфізма» цягнецца да 1929—33 гг., да таго моманту, калі небывалы эканамічны крызіс, які развіўся ва ўмовах агульнага крызісу капіталістычнай сістэмы, настолькі абвастрыў усе супярэчнасці, што контуры новай вайны зусім выразна абрысаваліся на палітычным гарызонце.

Гэты шумны шырокавяшчальны пацыфізм спалучаецца з практыкай імперыялістычнага гвалту і разбою. Не кажучы ўжо аб вайне супроць савецкіх рэспублік (гл. вышэй), што з благаслаўлення «пацыфістаў» вялі з 1918 па 1922 год імперыялістычныя ўрады, якія і пасля паражэння ні на мінуту не пакідалі падрыхтоўкі новай вайны супроць СССР,—рабаўнічыя захватніцкія войны і інтэрвенцыі былі не менш частымі з'явамі міжнароднага жыцця, чым да 1918 года. Вайна контррэволюцыйнай буржуазіі супроць Венгерскай і Баварскай савецкіх рэспублік (1919 г.), інтэрвенцыя імперыялістычных дзяржаў у Кітаі ў часе рэволюцыі 1925—1927 гг., падаўленне нацыя-

*) І. В. Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 203.

нальных паўстанняў у Марокко, Сірыі, Інданезіі і т. д. і т. п. паказалі, што капіталістычны свет раздзіраецца такімі глыбокімі і вострымі супярэчнасцямі, якія вядуць яго да новай, другой сусветнай вайны і да новых разбурэнняў звенняў наспех змацаванага імперыялістычнага ланцуга.

Ужо ў 1930 г. таварыш Сталін у дакладзе XVI з'езду партыі ўказвае на тое, што важнейшым вынікам сусветнага эканамічнага крызіса 1929—1933 гг. з'яўляецца агаленне і абвастрэнне супярэчнасцей, уласцівых сусветнаму капіталізму. Агаляюцца і абвастраюцца супярэчнасці паміж важнейшымі імперыялістычнымі краінамі, барацьба за рынкі збыту, барацьба за сыравіну, за вываз капітала. Агаляюцца і абвастраюцца супярэчнасці паміж краінамі, перамогшымі ў вайне 1914—1918 гг., і краінамі пераможанымі. Агаляюцца і абвастраюцца супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі і каланіяльнымі і залежнымі краінамі. Нарэшце агаляюцца і абвастраюцца супярэчнасці паміж буржуазіяй і пралетарыятам у капіталістычных краінах. Абвастрэнне гэтых супярэчнасцей, як з геніяльнай празарлівасцю ўказаў таварыш Сталін, азначала, што буржуазія будзе шукаць выхаду з гэтага становішча ў фашызацыі ў галіне ўнутранай палітыкі і ў імперыялістычнай вайне і інтэрвенцыі ў галіне знешняй палітыкі, і што пралетарыят, змагаючыся з капіталістычнай эксплаатацыяй і ваеннай небяспекай, будзе шукаць выхаду ў рэвалюцыі *).

Таварыш Сталін паказаў, што рэакцыйная буржуазія будзе прабаваць вырашыць гэтыя супярэчнасці за кошт СССР—«гэтай Краіны советаў, цытадэлі рэвалюцыі, рэвалюцыянізуючай адным сваім існаваннем рабочы клас і калоніі, перашкаджаючай наладзіць новую вайну, перашкаджаючай перадзяліць свет па-новаму, перашкаджаючай гаспадарыць на сваім абшырным унутраным рынку, так неабходным капіталістам, асабліва цяпер, у сувязі з эканамічным крызісам» **).

У 1931—1932 г. імперыялістычная фашызаваная Японія пачала захватніцкую грабежніцкую вайну з Кітаем. На Далёкім Усходзе аформіўся першы ачаг другой імперыялістычнай вайны. У 1933 г. улада ў Германіі была захоплена агрэсіўным гітлераўскім фашызмам, агентурай найбольш рэакцыйных, найбольш імперыялістычных, найбольш шавіністычных элементаў фінансавага, манапалістычнага капітала. Германскі фашызм, яшчэ да захвату ўлады, адкрыта аб'явіў сваю праграму захватніцкіх войн супроць Аўстрыі, Чэхаславакіі, Балканскіх краін, Францыі, каланіяльных народаў, Англіі і СССР. Знешняя палітыка фашысцкай Германіі неўзабаве паказала, што ў цэнтры Еўропы склаўся другі ачаг імперыялістычнай вайны. Італа-абісінская вайна 1935 г., германа-італьянская вайна супроць іспанскага народа, якая пачалася ў 1936 г., пашырэнне японa-кітайскай вайны на ўвесь Кітай у 1937 г., захват Аўстрыі вясной 1938 г. і расчляненне Чэхаславакіі восенню 1938 г. адкрылі новую, другую імперыялістычную вайну.

> «Усе гэтыя факты паказваюць, што другая імперыялістычная вайна ўжо на справе пачалася... Пачалі вайну ў розных канцах свету тры агрэсіўныя дзяржавы,—фашысцкія правячыя кругі Германіі, Італіі, Японіі. Вайна ідзе на велізарнай прасторы ад Гібралтара да Шанхая. Вайна паспела ўжо ўцягнуць

*) Гл. „Пытанні ленінізма“, стар. 353—357.

**) „Пытанні ленінізма“, стар. 357.

у сваю арбіту больш поўміл̃ьярда насельніцтва. Яна ідзе ў канчатковым выніку супроць капіталістычных інтарэсаў Англіі, Францыі, ЗША, бо мае сваёй мэтай перадзел свету і сфер уплыву ў карысць агрэсіўных краін і за кошт гэтых так званых дэмакратычных дзяржаў» *).

Асобыя ўмовы, у якіх пачалася другая імперыялістычная вайна: адносная слабасць Германіі, Італіі і Японіі ў параўнанні з Англіяй, Францыяй і ЗША, факт існавання на адной шостай частцы сушы магутнай соцыялістычнай дзяржавы—СССР, рост рэволюцыйнай антыфашысцкай барацьбы рабочага класа і шырокіх працоўных мас пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі (народны фронт) і рост нацыянальна-вызваленчага руху ў поўкаланіяльных, залежных, краінах (нацыянальны антыімперыялістычны фронт у Кітаі)—абумовілі яе «давол̃і дзіўны і аднабокі характар» **). Вайну вядуць і разгортваюць фашысцкія агрэсары. Асноўныя дзяржавы, капіталістычным інтарэсам якіх вайна пагражае ў першую чаргу, апасаючыся рабочага руху ў Еўропе і нацыянальна-вызваленчага руху ў Азіі і лічачы фашызм добрым проціяддзем супроць гэтых рухаў, здаюць свае пазіцыі фашысцкім агрэсарам. Ваенныя дзеянні разыгрываюцца не паміж двума групамі імперыялістычных дзяржаў: фашысцкай і так званай дэмакратычнай. Гэта захватніцкая вайна разыгрываецца на спіне малаабароненых народаў Абісініі, Іспаніі, Кітая, яна пагражала разыграцца на спіне Аўстрыі і Чэхаславакіі (якія без бою былі зданы захватчыкам), яна пагражае Польшчы, Літве, Даніі, Бельгіі з тым, каб праз некаторы час пагражаць ужо і сільным дзяржавам.

Не выклікае сумнення, што гэта вайна з'яўляецца з боку Германіі, Італіі, Японіі захватніцкай, несправядлівай вайной з усімі выцякаючымі адсюль для рабочага класа гэтых краін вывадамі. Рабочы клас гэтых краін у сваіх уласных інтарэсах павінен весці і вядзе рашучую барацьбу супроць сваіх фашысцкіх урадаў, стаіць за паражэнне гэтых урадаў, за ператварэнне іх імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую.

Бясспрэчна таксама, што вайна кітайскага народа супроць Японіі, вайна абісінскага народа супроць Італіі, вайна іспанскага народа супроць Італіі і Германіі з'яўляюцца справядлівымі войнамі. Войны гэтых народаў супроць фашысцкіх агрэсараў справядлівы, па-першае, таму, што кожная з іх вядзецца «ў абарону народа ад знешняга нападу і спроб яго заняволення».

Кожная з гэтых войн мае свае асаблівасці.

Вайна абісінскага народа была нацыянальнай вайной супроць іншаземных захватчыкаў. Дарэмна італьянскія фашысты прабавалі замаскаваць рабаўнічы характар сваёй вайны спасылкамі на тое, што фашызм нясе «ў дзікую Абісінію культуру і асвету», што «негус—царок рабаўладальнікаў» і т. п. Увесь свет зразумеў, што ў гэтай вайне справядлівасць, права і сапраўдны прагрэс—на баку абісінскага народа, хоць-бы і з негусам на чале, а не на баку фашысцкага Рыма.

Вайна кітайскага народа ёсць таксама барацьба супроць іншаземнага захватчыка. Але яе значэнне перарастае гэта вызначэнне. Кітай з яго 400-мільённым насельніцтвам, велізарнымі багаццямі і становішчам у свеце—не бедная «захалусная» Абісінія. Ад ходу

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 314.
**) Там-жа, стар. 315.

вайны ў Кітаі залежыць не толькі нацыянальны лёс кітайскага народа, ад яе залежыць лёс імперыялістычнага панавання над Кітаем і тым самым лёс імперыялістычнага панавання ў Азіі наогул. Гэта вайна, пачаўшыся як вайна супроць японскага захватчыка, лёгка можа прывесці да краху ўсю сістэму панавання імперыялізма ў калоніях.

Вайна іспанскага народа супроць унутранага фашызма і чужаземных захватчыкаў ёсць таксама не толькі вайна супроць спробы заняволення Іспаніі германа-італьянскім фашызмам. Яна «не прыватная справа іспанцаў—а агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва» **(Сталін).**

Антыімперыялістычная палітыка кітайскай компартыі і палітыка антыфашысцкага народнага фронта іспанскай компартыі абумовілі барацьбу народаў абодвух гэтых краін супроць іншаземных захватчыкаў.

Нарэшце, усе гэтыя тры войны маюць тое агульнае, што народы Абісініі, Кітая і Іспаніі—афяры агрэсіўнай палітыкі адзінага фашысцкага блока падпальшчыкаў вайны. Вайна гэтых народаў ёсць звяно ў антыфашысцкай барацьбе не толькі рабочага класа, але і ўсяго перадавога, прагрэсіўнага чалавецтва. З найбольшаю сілай гэты антыфашысцкі характар вайны праявіўся ў Іспаніі, дзе на баку нацыянальнага, дэмакратычнага ўрада, які ўзначальвае Іспанскую рэспубліку, супроць іспанскіх, італьянскіх, германскіх і іншых фашыстаў змагаліся дабраахвотнікі—антыфашысты ўсіх краін.

Такой-жа справядлівай нацыянальнай, прагрэсіўнай, антыфашысцкай вайной была-б і вайна чэхаславацкага народа, калі-б здрадніцкая палітыка часткі яго буржуазных колаў і англа-французскіх «міратворцаў» не выбіла-б у яго зброю яшчэ да пачатку гэтай барацьбы.

Найбольшую цікавасць мае пытанне аб тым, які характар мела-б вайна, калі-б супроць фашысцкіх агрэсараў выступілі «вялікія дэмакратычныя» дзяржавы—Англія і Францыя. Пытанне гэта мае, як гэта кожнаму зразумела, не толькі тэарэтычную цікавасць. Рабочаму класу гэтых краін давялося ўжо вырашаць яго ў канцы верасня 1938 г., калі на сценах Парыжа былі расклеены загады аб частковай мабілізацыі.

Вайна фашысцкіх захватчыкаў вядзецца, як гэта паказана вышэй, супроць капіталістычных інтарэсаў Англіі, Францыі і ЗША. Фашысты збіраюцца адабраць у англійскай буржуазіі калоніі, ужо сёння ставяць адкрыта пытанне аб Тунісе і т. д. Вайна, такім чынам, вядзецца за перадзел свету паміж рознымі групамі буржуазіі.

Трацкісцкія агенты германскага фашызма заклікалі рабочы клас Францыі і Англіі не ўдзельнічаць у гэтай вайне. Такую-ж пазіцыю заняў і пан Фландэн, шчыры і мацёры рэакцыйны буржуа.

Гэта «чуллівае» адзінства поглядаў і лозунгаў фашысцкай агентуры лепш за ўсё ўскрывае той характар, які магла набыць вайна Францыі і Англіі супроць фашысцкага блока. Яно паказвае, што гэта вайна аб'ектыўна, не гледзячы на тое, што яе ўзначальвалі-б буржуазныя ўрады, была-б перш за ўсё антыфашысцкай вайной. Яна прывяла-б да немінучага падзення фашысцкага рэжыма ў Германіі і Італіі, да аслаблення фашысцкай рэакцыі ва ўсім свеце. Яна адкрыла-б для рабочага класа Германіі, Аўстрыі, Чэхаславакіі, Італіі і раду іншых краін шырокія магчымасці арганізацыі сваіх сіл, прывяла-б у рух найшырэйшыя народныя масы. Яна была-б прагрэсіўнай вайною. Яна самкнулася-б неадкладна з вайной іспанскага

народа, з вайной кітайскага народа, узмацніла-б супраціўленне народаў Абісініі, яна захавала-б зброю ў руках чэхаславацкага народа і звязалася-б з яго барацьбой супроць фашызма.

Гэта была-б справядлівая вайна.

Рабочы клас зразумеў гэта, бурна пратэстуючы супроць мюнхенскай капітуляцыі, вынікам якой было ўзмацненне фашысцкай рэакцыі ва ўсім свеце. Рабочы клас пайшоў на мабілізацыйныя пункты. Бясспрэчна, ён падтрымаў-бы гэту справядлівую вайну. Бясспрэчна таксама, што ў такой вайне ён не зліўся-б з ўласнай буржуазіяй, высоўваў-бы і падтрымліваў свае класавыя патрабаванні, захоўваў і развіваў свае класавыя арганізацыі і змагаўся-б супроць выраджэння гэтай антыфашысцкай вайны ў імперыялістычную, захватніцкую вайну.

Пазіцыя СССР у пытанні аб другой імперыялістычнай вайне зусім ясна. Яна вызначаецца неаднаразовымі заявамі кіраўнікоў нашай партыі і савецкага ўрада—тт. Сталіна, Молатава, Варашылава—аб тым, што наша знешняя палітыка ёсць палітыка міру. Гэту палітыку міру наша партыя, савецкі ўрад і ўвесь савецкі народ праводзяць з першых дзён Кастрычніка 1917 г. Савецкі народ заваяваў права на мір са зброяй у руках, у барацьбе супроць белагвардзейскай контррэвалюцыі і замежнай інтэрвенцыі. Гэты мір патрэбен нам для таго, каб працаваць, закасаўшы рукавы, над будаўніцтвам камуністычнага грамадства ва ўмовах варожага капіталістычнага акружэння.

Сваё нязменнае міралюб'е СССР неаднакроць даказваў па самых рознастайных повадах і ў самай рознастайнай міжнароднай абстаноўцы. Савецкі ўрад прыняў удзел у работах Лігі Нацый па раззбраенню, унёс праект поўнага раззбраення і, пасля правалу яго капіталістычнымі дзяржавамі, — праект частковага скарачэння ўзбраенняў (1927—1932 гг.); СССР падпісаў пакт Келага аб забароне вайны (1928 г.), увёў гэты пакт датэрмінова ў дзеянне ў сваіх адносінах з радам заходніх суседзяў, заключыў дагаворы аб ненападзенні і мірным вырашэнні спрэчак з усімі пагранічнымі дзяржавамі, акрамя Японіі, якая адмовілася заключыць такі дагавор; прапанаваў і заключыў з радам краін канвенцыю аб вызначэнні агрэсіі (1933 г.); уступіў (у 1934 г.) у Лігу Нацый; падтрымліваў у Лізе Нацый усе спробы проціпаставіць агрэсіўным падпальшчыкам вайны адзіны фронт дзяржаў, зацікаўленых у захаванні міру; прыняў удзел у арганізацыі калектыўнай безапаснасці, заключыўшы дагаворы аб узаемнай дапамозе з Францыяй, Чэхаславакіяй, Манголіяй.

Савецкі Саюз за ўвесь час свайго існавання ні разу ні на каго не нападаў, не захапіў ні адной пядзі чужой зямлі, не толькі не заняволіў ні аднаго народа, але адмовіўся добраахвотна і без усякіх «кампенсацый» ад усіх палітычных, юрыдычных, эканамічных і ўсякіх іншых прывілеяў, вырваных царскай Расіяй у слабых народаў Азіі. Мірная палітыка СССР вядома ўсяму свету і прыцягвае да СССР сімпатыі ўсіх працоўных, усяго перадавога, прагрэсіўнага чалавецтва.

Савецкі Саюз змагаўся супроць узнікнення другой імперыялістычнай вайны. Вуснамі таварыша Сталіна савецкі народ папярэджваў чалавецтва аб абвастрэнні ваеннай небяспекі, аб утварэнні ачагоў вайны ў Азіі і Еўропе. Савецкі Саюз выступаў пры кожным новым акце агрэсіі, пры ўзнікненні кожнай новай канкрэтнай вайны,

якая з'яўляецца звяном у ланцугу другой імперыялістычнай вайны, на баку народаў і краін, падвергшыхся агрэсіі. Совецкі Саюз указваў, што адзіным сродкам папярэджання новай, другой імперыялістычнай вайны з'яўляецца палітыка недзялімага міру і калектыўнай беззапаснасці, палітыка адпору любому акту агрэсіі, адкуль-бы ён ні зыходзіў.

Совецкі Саюз са спакойным сумленнем можа сказаць, што ім было зроблена ўсё ад яго залежачае, каб папярэдзіць развязванне фашысцкімі агрэсарамі новай сусветнай вайны. Не далей як у верасні—кастрычніку 1938 года СССР цвёрда і недвусэнсоўна заявіў, што ён гатоў выканаць усе свае абавязацельствы па франка-совецкаму і совецка-чэхаславацкаму пакту аб узаемнай дапамозе ў выпадку нападу Германіі на Чэхаславакію. Усяму свету ясна, што віна за расчляненне Чэхаславакіі, за новае абвастрэнне становішча, за рост фашысцкай пагрозы вайны ляжыць на мюнхенскіх «міратворцах», прадаўшых Чэхаславакію і справу міру.

СССР разумее, што другая імперыялістычная вайна «не можа не быць сур'ёзнейшай небяспекай для ўсіх народаў і, у першую чаргу, для СССР» *).

Народы СССР памятаюць неаднаразовыя папярэджанні геніяльных правадыроў працоўнага чалавецтва—Леніна і Сталіна—аб немінучасці вайны паміж краінай соцыялізма і краінамі капіталістычнага акружэння. «На самай справе было-б смешна і глупа закрываць вочы на факт капіталістычнага акружэння і думаць, што нашы знешнія ворагі, напрыклад, фашысты не папрабуюць пры выпадку зрабіць на СССР ваенны напад»—папярэджваў нас яшчэ зусім нядаўна таварыш Сталін у сваім адказе на пісьмо комсамольца Іванова. Другая імперыялістычная вайна можа даць такі «выпадак» фашыстам і можа разгарнуцца як вайна адной або некалькіх фашысцкіх краін супроць СССР. Змагаючыся за справу ўсеагульнага міру, народы СССР змагаюцца і за мір на сваіх граніцах, за мір для сябе, за мір, кожны дзень якога для нас асабліва каштоўны, бо ён павялічвае сілу і магутнасць нашай соцыялістычнай радзімы і набліжае к трыумфу комунізма.

Наша барацьба супроць вайны не выклікана страхам перад вынікамі такой вайны для СССР. Таварыш Сталін выразіў глыбокае пераконанне ўсіх совецкіх людзей, заявіўшы ў дакладзе на XVII з'ездзе партыі, што вайна супроць СССР «будзе самай небяспечнай для буржуазіі вайной. Яна будзе самай небяспечнай не толькі таму, што народы СССР будуць біцца на смерць за заваёвы рэволюцыі. Яна будзе самай небяспечнай для буржуазіі яшчэ таму, што вайна будзе праходзіць не толькі на фронтах, але і ў тылу ў праціўніка. Буржуазія можа не сумнявацца, што шматлікія прыяцелі рабочага класа СССР у Еўропе і Азіі пастараюцца ўдарыць у тыл сваім прыгнятальнікам, якія зацеялі злачынную вайну супроць бацькаўшчыны рабочага класа ўсіх краін» **).

Вайна СССР супроць фашысцкіх агрэсараў будзе самай справядлівай, самай законнай, самай прагрэсіўнай вайной у гісторыі чалавецтва.

Калі фашысцкія агрэсары навяжуць нам вайну, мы будзем біць іх на той тэрыторыі, адкуль яны прыдуць. Замежныя інтэрвенты ўжо

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 315—316.
**) „Пытанні ленінізма", стар. 547.

не раз маглі пераканацца ў гэтым. Даволі ўспомніць вайну з панскаю Польшчай, калі наша доблесная Чырвоная Армія, перашоўшы ў контрнаступленне, біла польскіх паноў на іх-жа тэрыторыі і прымусіла падпісаць Рыжскі мір. У 1929 годзе імперыялісты зноў рашылі папрабаваць нас штыком, але былі разбіты на той тэрыторыі, адкуль прышлі. Той-жа лёс напаткаў і японскіх самураяў ля возера Хасан.

Вайна супроць СССР закончыцца поўным знішчэннем арміі нашых ворагаў і ліквідацыяй фашысцкага ладу. У гэтым нам акажа дапамогу пралетарыят усіх капіталістычных краін.

---

П. Рубенчык

# Аб значэнні кнігі Плеханава „Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю" у прапагандзе ідэй марксізма ў Расіі*)

Таварышы, кніга Плеханава «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю» вышла ў 1895 годзе. Да выхаду ў свет гэтай работы Плеханаў выпусціў дзве кнігі: «Нашы рознагалоссі» (1885 г.) і «Соцыялізм і палітычная барацьба» (1883 г.).

Гэтыя тры кнігі адносяцца да першага перыяда дзейнасці Плеханава, пасля таго, як ён парваў з народнікамі, і ўсе гэтыя кнігі з'яўляюцца вялікім укладам у прапаганду ідэй марксізма ў Расіі.

Владзімір Ільіч Ленін, высока ацэньваючы літаратурныя творы, напісаныя Плеханавым у гэты перыяд, пісаў:

> «Яго асабістыя заслугі велізарны ў мінулым. За 20 год, 1883—1903, ён даў шмат выдатных твораў, асабліва супроць апартуністаў, махістаў, народнікаў» **).

Вядома, што Плеханаў пасля ІІ з'езда РСДРП (1903 г.), скаціўся ў балота апартунізма, у балота меншавізма. Зусім натуральна, што гэта меншавіцкая пазіцыя Плеханава аказала ўплыў на яго далейшую літаратурную творчасць.

Высока ацэньваючы творы Плеханава першага перыяда, Ленін разам з тым бязлітасна крытыкаваў яго за апартуністычныя памылкі, якія ён дапускаў у галіне тэорыі і, у прыватнасці, філасофіі.

Адсюль ясна, што да плеханаўскай літаратурнай спадчыны мы павінны падыходзіць крытычна, бо ў групы «Вызваленне працы», у дзейнасці і літаратурнай прадукцыі Плеханава былі і сур'ёзныя памылкі. У першым праекце праграмы групы «Вызваленне працы», які вышаў у 1884 годзе, «былі яшчэ астаткі народніцкіх поглядаў, дапускалася тактыка індывідуальнага тэрору. Плеханаў не ўлічваў, далей, што ў ходзе рэволюцыі пролетарыят можа і павінен павесці за сабой сялянства, што толькі ў саюзе з сялянствам пролетарыят зможа атрымаць перамогу над царызмам. Плеханаў разглядаў, далей, ліберальную буржуазію, як сілу, якая можа аказаць падтрыманне рэволюцыі, хоць і нетрывалае падтрыманне, сялянства-ж у некаторых сваіх работах ён зусім скідаў з рахунку» ***).

Гаворачы аб недахопах і памылковых палажэннях першых прац Плеханава, неабходна ўказаць, што, напрыклад, у брашуры «Соцыялізм і палітычная барацьба» Плеханаў няправільна расцэньваў пас-

*) Перапрацаваная лекцыя, прачытаная ў Вышэйшай школе прапагандыстаў пры ЦК КП(б)Б.

**) **В. І. Ленін,** том XVII, стар. 415—416.

***) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 16.

лядоўцаў заклятага народніка П. Лаўрова—аўтара «тэорыі» актыўных «герояў» і пасіўнага «натоўпу»,—як людзей, якія стаяць амаль на пункце погляду соцыял-дэмакратаў і вольны ад народніцкіх традыцый. У названай працы, як і ў праектах праграмы групы «Вызваленне працы», у Плеханава моцна адчуваецца ўплыў Гоцкай праграмы германскай соцыял-дэмакратыі—у пунктах аб «прадукцыйных асацыяцыях», «прамым народным заканадаўстве», якія з усёй бязлітаснасцю былі раскрытыкаваны Марксам у «Крытыцы Гоцкай праграмы».

«Гэтыя памылковыя погляды Плеханава былі зародкам яго будучых меншавіцкіх поглядаў» *).

Задача нашай лекцыі—азнаёміцца з працай Плеханава «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю». Перш за ўсё аб самай назве кнігі. Што такое маністычны погляд на гісторыю? Слова «маністычны» узята ад грэчаскага слова «монос», што значыць—адзіны. Такім чынам загаловак кнігі Плеханава можна было-б чытаць так: «Да пытання аб развіцці адзінага погляду на гісторыю». Але паўстае пытанне: што азначае выражэнне «адзіны погляд на гісторыю», які развівае Плеханаў у сваёй кнізе? Яно азначае, што Плеханаў развівае матэрыялістычны—маністычны погляд і вядзе барацьбу з ідэалізмам.

Чаму-ж, усё-такі, Плеханаў у назве сваёй кнігі ўжыў такое далёка непапулярнае, няяснае слова як «маністычны»? Ці не лепш было-б даць кнізе яснейшы загаловак: «Да пытання аб развіцці матэрыялістычнага погляду на гісторыю»? Тым больш, што ў ёй гаворыцца іменна аб матэрыялістычным поглядзе на гісторыю. Плеханаў даў сваёй кнізе такую туманную назву ў разліку, што царская цэнзура не здолее выявіць яе сапраўднага значэння і дазволіць друкаваць, выйсці ў свет легальна.

Ленін указваў, што гэта кніга Плеханава мела выключнае значэнне ў справе распаўсюджання ідэй Маркса, што яна выхавала цэлае пакаленне рускіх марксістаў. У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» гаворыцца, што Плеханаў першы даў марксісцкую крытыку памылковым поглядам народнікаў і разгарнуў бліскучую абарону матэрыялістычных поглядаў.

Супроць якіх ідэй, установак, прынцыпаў народніцтва выступае Плеханаў?

У гэтым творы Плеханаў паказвае, што народнікі, не ведаючы асноў сапраўды навуковага падыходу да вывучэння грамадства і яго гісторыі, не разумелі таго, што грамадства ні ў якім разе не прадстаўляе сабой хаосу, сумы выпадковых падзей і фактаў, што ў аснове гістарычнага працэса ляжаць аб'ектыўныя законы развіцця, што народнікі трымаюцца такога сугуба памылковага погляду, быццам не народ, не масы твораць гісторыю, а толькі паасобныя «героі», якіх яны называюць «крытычна мыслячымі асобамі», што народнікі ў сваім падыходзе да грамадства з'яўляюцца метафізікамі, гэта значыць—яны не разглядаюць грамадства ў безупынным працэсе яго развіцця на розных ступенях грамадскага руху, змены аднаго грамадскага ладу другім.

Уладзімір Ільіч у сваім выдатным творы «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» разгарнуў

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 17.

бязлітасную крытыку і канчаткова разбіў гэтыя сугуба ідэалістычныя погляды народнікаў. Ён паказаў, што для марксістаў не існуе разумення «грамадства наогул», таму што такога грамадства ніколі ў гісторыі не было і быць не можа. Ёсць розныя грамадскія эпохі. Ёсць эпоха першабытнага комунізма, рабаўладальніцкага ладу, феадальнага ладу, капіталістычнага ладу, соцыялістычнага ладу. Гэта ўсё розныя грамадствы, прычым кожнае з іх адметна сваімі асобымі законамі развіцця. Мы стаім на пункце погляду грамадска-эканамічнай фармацыі, грамадска-эканамічных эпох, а не «грамадства наогул», па-за часам і прасторай.

Плеханаў у кнізе «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю» таксама ўказваў, што народнікі ў сваіх, з дазволу кажучы, філасофскіх поглядах, з'яўляюцца антыдыялектыкамі. Яны не толькі не прызнаюць дыялектыку за адзіны навукова-правільны метад пазнання, але наогул ігнаруюць яе, выдумляючы ўсялякія пошласці, накшталт таго, што, нібыта, марксісцкая дыялектыка ёсць нішто іншае, як поўнае паўтарэнне ідэалістычнай дыялектыкі Гегеля. Гэтым адносінам народнікаў да дыялектыкі наогул, а таксама іх імкненню даказаць, што, быццам, марксізм проста ўспрыняў дыялектыку Гегеля, крытычна яе не перапрацаваўшы,—Плеханаў таксама наносіць сакрушальны ўдар. Ускрыўшы утапічнасць і шкоднасць палітычных поглядаў народнікаў, ён рэзка выступае супроць адмаўлення імі передавой ролі рабочага класа ў рэволюцыйным руху і прызнання сялянства галоўнай рэволюцыйнай сілай.

Плеханаў разбурае ўшчэнт утапічную, наскрозь ідэалістычную «тэорыю» народнікаў аб «героях і натоўпе», даказаўшы, што народнікі запазычылі яе ў млада-гегельянцаў, галоўным чынам у Бруно Бауэра, супроць **якіх** Маркс і Энгельс напісалі свой вядомы бліскучы твор «Святое сямейства».

Плеханаў паказвае, што героі могуць адыграць і адыгрываюць вялікую ролю ў гістарычным працэсе толькі пастолькі, пакалькі яны ўсведамляюць аб'ектыўную законамернасць самой гісторыі, самога гістарычнага працэса і накіроўваюць сваю дзейнасць адпаведна з ходам гістарычнага развіцця. Калі-ж «герой», «крытычна мыслячая асоба» будзе дзейнічаць не ў адпаведнасці з эканамічным развіццём грамадства, уразрэз з патрэбнасцямі передавога класа, тады дзейнасць гэтай асобы немінуча асуджана на паражэнне. Народнікі сталі ў позу «герояў», у позу «рыцараў», абвясціўшы, што яны не дапусцяць развіцця капіталізма ў Расіі, што яны яго адменяць. Высмейваючы народнікаў, Плеханаў адзначыў, што якую-б позу яны ні прынялі, з гэтага нічога не выйдзе, бо развіццё капіталізма ў Расіі з'яўляецца відавочным фактам, якога ніхто не можа адмяніць. Сапраўдны дзеяч, «крытычна мыслячая асоба» адыгрывае і будзе адыгрываць вялікую ролю ў гістарычным працэсе толькі пры ўмове, калі ён стане на пункт погляду неабходнасці ўскрыцця тых супярэчнасцей, якія ўласцівы капіталізму, разумее немінучасць развіцця капіталізма ў Расіі і неабходнасць арганізацыі пролетарыята для барацьбы з капіталізмам. І толькі гэтым шляхам магчыма дабіцца не адмены, а знішчэння капіталізма.

У барацьбе з народніцкімі поглядамі, з народніцкай «тэорыяй» «герояў і натоўпу» Плеханаў бліскуча адстояў той правільны марксісцкі погляд, што асоба адыгрывае ролю ў гісторыі, пакалькі дзейнасць яе не ідзе ўразрэз з эканамічным развіццём грамадства, ураз-

рэз з патрэбнасцямі передавога класа, гэта значыць не ідзе супроць мас, а выражае інтарэсы, імкненні гэтых мас. Інакш кажучы, не героі ствараюць народ, а народ стварае герояў і рухае наперад гісторыю. Гісторыя робіць герояў, а не наадварот.

У выніку Плеханаў, як аб гэтым сказана ў выдатнай навуковай працы—«Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)», многа зрабіў для прапаганды поглядаў марксізма ў Расіі. Ён не толькі паказаў, чаму капіталізм у Расіі развіваецца з гістарычнай неабходнасцю, але разам з гэтым даказаў немінучасць яго пагібелі. Плеханаў паказаў, што задача сапраўднага рэвалюцыянера не ў тым, каб разглядаць народ, як нейкую пасіўную масу, а ў тым, каб узяцца за справу арганізацыі пролетарыята, дапамагчы рабочаму класу ўсвядоміць свае сілы, свае класавыя інтарэсы, што толькі такі рэволюцыянер будзе сапраўдным рэвалюцыянерам. Плеханаў у разглядаемай намі кнізе таксама паказаў, што справу знішчэння капіталізма немагчыма ажыццявіць інакш, як толькі шляхам рэволюцыйнага насілля, шляхам падаўлення эксплаататарскіх класаў, што гэту задачу можа ажыццявіць толькі пролетарыят.

* * *

Плеханаў нанёс меткія ўдары народніцтву, але канчатковы разгром народніцтва ажыццявіў Владзімір Ільіч Ленін. У сваім выдатным творы «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць сацыял-дэмакратаў?» Владзімір Ільіч канчаткова разбіў народніцкія погляды, выкрыў народнікаў, як фальшывых прыяцеляў народа. Ён паказаў, што ў канчатковым выніку народнікі пайшлі на прымірэнне з самаўладствам, што ў 80—90-х годах яны па сутнасці сталі выразнікамі інтарэсаў кулацкіх слаёў, свядома закрываючы вочы на расслаенне ў вёсцы, не жадаючы бачыць класавай барацьбы ў вёсцы, жудаснага становішча вясковай беднаты, эксплаатацыі яе кулацтвам і ўсяляк усхваляючы развіццё кулацкіх гаспадарак. У барацьбе з народнікамі, як злейшымі ворагамі марксізма, Ленін геніяльна развіў ідэю рэволюцыйнага саюза рабочага класа з сялянствам пад кіраўніцтвам пролетарыята, як галоўнага сродку звяржэння царызма, памешчыкаў, буржуазіі. Толькі ленінская барацьба супроць народніцкіх поглядаў знамянуе сабой іх канчатковы разгром.

Пяройдзем цяпер да разгляду кнігі Плеханава па раздзелах, каб лепш уявіць сабе яе асноўны змест.

Вельмі характэрна, што першыя раздзелы сваёй кнігі Плеханаў прысвячае аналізу поглядаў на гісторыю, панаваўшых у XVIII і XIX стагоддзях да паяўлення марксізма. У першым раздзеле разглядаюцца погляды французскіх матэрыялістаў XVIII стагоддзя, у другім—буржуазных гісторыкаў часоў рэстаўрацыі, у трэцім—гістарычныя погляды утапістаў-соцыялістаў пачатку XIX стагоддзя, у чацвертым—погляды нямецкага класічнага ідэалізма, асабліва Гегеля, і ў пятым, завяршаючым і самым бліскучым раздзеле, разглядаюцца погляды марксізма на развіццё гісторыі.

Нельга не адзначыць, што такая пабудова кнігі з'яўляецца зусім правільнай, і вось чаму. Мы ведаем, што Ленін у сваім выдатным артыкуле «Тры крыніцы і тры састаўныя часткі марксізма» гаворыць аб тым, што марксізм узнік не ў баку ад сталбавой дарогі развіцця сусветнай цывілізацыі, а як непасрэдны працяг вучэння найвялікшых прадстаўнікоў філасофіі, палітычнай эканоміі і соцыялізма.

Плеханаў разглядае ўзнікшыя да Маркса гістарычныя тэорыі, каб выявіць іх абмежаванасць, недастатковасць, ненавуковасць і даказаць, што толькі марксізм, які крытычна перапрацаваў усю папярэднюю спадчыну, стварыў сапраўды навуковую, адзіна правільную тэорыю ў разуменні з'яў грамадскага развіцця.

**У першым раздзеле** Плеханаў гаворыць аб французскіх матэрыялістах XVIII стагоддзя: Ляметры, Гольбаху, Дзідро, Гельвецыю і інш. Усе яны былі безумоўна прагрэсіўнымі людзьмі таго часу. У сваіх вучэннях яны выразілі ідэалогію наспяваўшай у той час буржуазнай рэволюцыі. Плеханаў выяўляе, як дадатныя, так і адмоўныя бакі ў іх поглядах. Вядома, што французскія матэрыялісты XVIII стагоддзя, будучы механістычнымі матэрыялістамі ў галіне растлумачэння з'яў прыроды, былі разам з тым ідэалістамі ў галіне растлумачэння з'яў грамадскага жыцця. Яны сцвярджалі, што існуе нязменная чалавечая прырода, што, быццам, людзям усіх часоў і народаў уласціва спрадвеку аднолькавая прырода. Чалавек па сваёй прыродзе заўсёды добры, а калі і бывае злым, то вінават у гэтым не ён сам, а тое асяроддзе, тая абстаноўка, якая яго акружае. Мы з вамі, як матэрыялісты, ніколі не гаворым і не можам гаварыць аб чалавеку наогул, аб так званай агульна-чалавечай прыродзе. У гістарычным плане мы разглядаем паасобных людзей як прадстаўнікоў розных эпох, розных часоў, розных класаў, і прырода розных людзей уяўляецца намі як прырода іх класа, прырода іх эпохі.

Аб утапістах-соцыялістах Плеханаў гаворыць, што яны ставілі пытанне так: кім з'яўляецца чалавек па сваёй прыродзе—уласнікам ці калектывістам?—і адказвалі, што чалавек з'яўляецца калектывістам, а не індывідуалістам-уласнікам. Ясна, што такая пастаноўка пытання сугуба няправільная. Мы-б з вамі раней спыталі: аб якім чалавеку ідзе гутарка, якога ён класа? Калі гутарка ідзе аб рабочым, то ён па сваёй прыродзе з'яўляецца калектывістам, бо яго роля ў працэсе вытворчасці робіць яго калектывістам. Таксама няправільна будзе паставіць пытанне: якім з'яўляецца чалавек па сваёй прыродзе—добрым ці злым? Нельга адцягнена гаварыць аб дабры і зле. Тым часам французскія матэрыялісты, як і іх паслядоўцы, у сваім аналізе чалавечага грамадства выходзілі якраз з гэтай няправільнай пазіцыі аб чалавечай прыродзе наогул. Яны прызнавалі, што добры па сваёй прыродзе чалавек сапсован у сілу ўплыву на яго навакольнай абстаноўкі, уплыву асяроддзя. Тым самым яны дайшлі да разумення таго, што чалавек ёсць прадукт навакольнага грамадскага асяроддзя. Але перад французскімі матэрыялістамі, як гэта паказвае Плеханаў, услед за гэтым паўстала другое пытанне: калі добрага па сваёй прыродзе чалавека псуе навакольнае асяроддзе, то выходзіць, што гэта асяроддзе неабходна змяніць. Сапраўды, асяроддзе, у якім яны жылі, было феадальным, тады панавала абсалютная манархія, каралеўская ўлада. Безумоўна, гэта асяроддзе трэба было змяніць. Недарма французскія матэрыялісты былі вестунамі наспяваючай буржуазнай рэволюцыі. Але як змяніць гэта асяроддзе? І вось якраз тут, у адказе на гэта пытанне, французскія матэрыялісты, як паказвае Плеханаў, упадалі ў непрымірымыя супярэчнасці. Гольбах гаварыў, напрыклад: «Пасадзіце мудраца на трон, і грамадскае асяроддзе будзе добрым». Значыць, уся справа толькі ў тым, што не мудрэц сядзіць на троне. Калі-б на трон пасадзіць мудрага цара, мудрага караля, тады-б і ўся грамадская абстаноўка зрабілася іншай і сам чалавек стаў лепшым. Выходзіць так, што, з аднаго боку,—ча-

лавек ёсць прадукт навакольнага асяроддзя, а, з другога,—асяроддзе ёсць прадукт чалавека або, інакш кажучы,—яго розуму, яго поглядаў. Супярэчлівая формула: чалавек ёсць прадукт навакольнага грамадскага асяроддзя, а навакольнае грамадскае асяроддзе ёсць прадукт поглядаў людзей—стварае, як гаварыў Плеханаў, зачараваны круг, з якога выхаду няма.

Гэта супярэчнасць сведчыць аб тым, што французскія матэрыялісты не падняліся і не маглі падняцца да матэрыялістычнага разумення з'яў грамадскага жыцця. Так званая агульна-чалавечая прырода, з аднаго боку, розум чалавека, з другога,—вось той фундамент, на якім, па думцы французскіх матэрыялістаў, трымаецца жыццё грамадства. А гэта няправільна.

Маркс у сваіх вядомых тэзісах аб Фейербаху ўказвае, што стары матэрыялізм не дайшоў да разумення таго, што суадносіны навакольнага грамадскага асяроддзя з чалавечай дзейнасцю можна пасцігнуць і зразумець толькі ў працэсе рэвалюцыйнай практыкі.

Толькі вялікае адкрыццё Маркса, што фундаментам грамадства з'яўляюцца матэрыяльныя ўмовы жыцця людзей, іх эканамічныя ўмовы, што асновай грамадства з'яўляюцца прадукцыйныя сілы і вытворчыя адносіны, што сваёй практычнай рэвалюцыйнай дзейнасцю чалавек змяняе навакольную прыроду і грамадскае асяроддзе,—толькі гэта адкрыццё з'яўляецца сапраўды навуковым падыходам да разумення з'яў грамадскага жыцця. Прызнанне «розуму» асновай жыцця грамадства ёсць беспрасветны ідэалізм, суцэльная метафізіка, за межы якой французскія матэрыялісты не вышлі, а таму і не маглі даць правільнага тлумачэння гістарычным падзеям. Будучы матэрыялістамі ў вытлумачэнні з'яў прыроды, яны заставаліся ідэалістамі ў разуменні з'яў гісторыі.

Такім чынам, у першым раздзеле сваёй кнігі Плеханаў даказвае абмежаванасць поглядаў французскіх матэрыялістаў. Аднак адсюль ні ў якім разе нельга рабіць вываду, што мы павінны нядбайна адносіцца да спадчыны французскіх матэрыялістаў, адкінуць яе як нічога не вартую з'яву ў развіцці навукі, філасофіі, гісторыі.

Уладзімір Ільіч Ленін у сваім артыкуле «Аб значэнні ваяўнічага матэрыялізма» указвае, што мы павінны ўсяляк прапагандаваць, друкаваць у нашых журналах, кнігах вытрымкі з твораў французскіх матэрыялістаў, бо яны пакінулі нам лепшую антырэлігійную літаратуру, якую толькі ведала чалавецтва. Ніколі не трэба забываць, што яны былі матэрыялістамі і змагаліся супроць ідэалізма і рэлігіі.

Далей, у другім раздзеле кнігі, Плеханаў пераходзіць да аналізу поглядаў буржуазных гісторыкаў часоў рэстаўрацыі ва Францыі (пачатак XIX стагоддзя). Такімі гісторыкамі былі Мінье, Гізо і Т'еры. Яны апісалі эпоху французскай буржуазнай рэвалюцыі канца XVIII стагоддзя. У параўнанні з французскімі матэрыялістамі, яны ў сваіх грамадска-гістарычных поглядах зрабілі крок уперад. Калі французскія матэрыялісты апеліравалі да чалавечага розуму, як усевыратоўчага сродку ад грамадскага зла, то гісторыкі часоў рэстаўрацыі пачалі тлумачыць асновы дзяржаўнага ладу грамадства з «грамадзянскага быту» або, што ясней,—з адносін уласнасці. Гэта, вядома,—крок уперад. І сапраўды, што значыць сказаць: асновай дзяржаўнага ладу грамадства з'яўляюцца адносіны ўласнасці паміж людзьмі. Гэта значыць сказаць, што ў аснове палітычнага ладу грамадства ляжаць сацыяльныя адносіны паміж людзьмі, што тып і характар дзяржавы залежаць ад таго, якімі з'яўляюцца адносіны ўласнасці ў грамадстве.

Другую заслугу буржуазных гісторыкаў часоў рэстаўрацыі адзначае Маркс. Вось што ён гаворыць у пісьме да Вейдэмеера, напісаным у сакавіку 1852 года:

«Што датычыць мяне, то мне не належыць ні тая заслуга, што я адкрыў існаванне класаў у сучасным грамадстве, ні тая, што я адкрыў іх барацьбу паміж сабою. Буржуазныя гісторыкі задоўга да мяне выклалі гістарычнае развіццё гэтай барацьбы класаў, а буржуазныя эканамісты—эканамічную анатомію класаў. Тое, што я зрабіў новага, заключалася ў довадзе наступнага: 1) што **існаванне класаў** звязана толькі з **пэўнымі гістарычнымі фазамі развіцця вытворчасці;** 2) што класавая барацьба немінуча вядзе да **дыктатуры пролетарыята;** 3) што гэта дыктатура сама складае толькі пераход да **знішчэння ўсякіх класаў** і да **бяскласавага грамадства»** *).

Значыць, буржуазныя гісторыкі часоў рэстаўрацыі разумелі, што грамадства дзеліцца на класы. Тым не менш яны былі даволі абмежаванымі ў гэтым сваім разуменні, да сапраўднага разумення класаў і класавай барацьбы яны не дайшлі. У канчатковым выніку яны, як і французскія матэрыялісты, апеліравалі да так званай «чалавечай прыроды» і заставаліся на ідэалістычных пазіцыях у разуменні з'яў грамадскага жыцця. Можна сказаць, што яны зрабілі крок уперад ў параўнанні з французскімі матэрыялістамі, але да матэрыялістычнага разумення гісторыі не прышлі. Гэта вялікае адкрыццё зрабілі Маркс і Энгельс.

**У трэцім раздзеле** сваёй кнігі Плеханаў крытыкуе погляды утапістаў-соцыялістаў у пачатку XIX стагоддзя: Сен-Сімона, Шарля Фур'е і Роберта Оуэна. Адначасова ён бязлітасна крытыкуе погляды народнікаў (Міхайлоўскага, Карэева і іншых), паказваючы, што яны—суб'ектыўныя соцыёлагі ў разуменні з'яў грамадскага жыцця.

Плеханаў гаворыць, што і утапісты-соцыялісты не ўзняліся да разумення рэальных асноў грамадскага развіцця. Прыроду чалавека яны разглядалі метафізічна, сцвярджаючы, што, калі-б чалавек аказаўся па прыродзе сваёй індывідуалістам, а не калектывістам, то наогул нельга было-б гаварыць аб перабудове грамадства. Па думцы утапістаў-соцыялістаў пытанні грамадскай перабудовы цалкам залежаць ад прыроды чалавека, якая з'яўляецца вечна нязменнай.

«Соцыялісты-утапісты гэтай эпохі,—гаворыць Плеханаў,—цалкам трымаюцца антрапалагічных поглядаў французскіх матэрыялістаў. Акурат таксама, як матэрыялісты, яны лічаць чалавека плодам акружаючага яго грамадскага асяроддзя і акурат таксама, як матэрыялісты, яны трапляюць у зачараваны круг, тлумачачы зменчывыя ўласцівасці асяроддзя нязменнымі ўласцівасцямі **чалавечай прыроды.**

Усе шматлікія утопіі першай паловы нашага века прадстаўляюць сабою нішто іншае, як спробы прыдумаць дасканалае заканадаўства, прымаючы **чалавечую прыроду** за вярхоўнае мярыла. Так, Фур'е бярэ за пункт адпраўлення аналіз **чалавечых страсцей;** так Р. Оуэн... зыходзіць з **«асноўных прынцыпаў навукі аб чалавечай прыродзе»** і сцвярджае, што «рацыянальны ўрад» павінен перш за ўсё «вызначыць чалавечую прыроду»; так, **сенсіманісты** заяўляюць, што іх філасофія грунтуецца **на новым**

*) Маркс і Энгельс, збор. тв., т. XXV, стар. 145—146.

> разуменні аб чалавечай прыродзе; так фур'ерысты гавораць, што прыдуманая іх настаўнікам грамадская арганізацыя прадстаўляе сабою рад бясспрэчных вывадаў з нязменных законаў чалавечай прыроды» *).

Як бачым, Плеханаў, упамінаючы ўсіх прадстаўнікоў утапічнага соцыялізма: і Сен-Сімона, і Роберта Оуэна, і Фур'е,—гаворыць, што яны стаяць на пункце погляду нязменнасці чалавечай прыроды, якая абумоўлівае грамадскі лад, грамадскае жыццё чалавека. Іменна ў сілу гэтага утапісты-соцыялісты не маглі стварыць сапраўды навуковай ідэі грамадскай перабудовы. Іх праекты і планы ў галіне стварэння новага грамадства з'яўляюцца хімерычнымі, надуманымі, не маючымі рэальнай базы для рэалізацыі.

Па гэтаму поваду Плеханаў гаворыць:

> «Яны не былі ні лібераламі, ні кансерватарамі, ні манархістамі, ні рэспубліканцамі; яны аднолькава гатовы былі ісці і з лібераламі, і з кансерватарамі, і з манархістамі, і з рэспубліканцамі, абы толькі ажыццявіць свае **«практычныя»** і, як ім здавалася, надзвычай **практычныя планы.** Са старых утапістаў у гэтых адносінах асабліва выдатны Фур'е. Ён, як гогалеўскі Кастанжогло, стараўся ўсякую дрэнь скарыстаць для справы. То ён спакушаў ліхвяроў перспектывай велізарных процантаў, якія ім статуць прыносіць іх капіталы ў будучым грамадстве; то ён узываў да аматараў дынь і артышокаў, спакушаючы іх дасканалымі дынямі і артышокамі будучыні; то ён запэўніваў Луі-Філіпа, што ў прынцэс Орлеанскага дома, якімі цяпер пагарджаюць прынцы крыві, адбою не будзе ад жаніхоў пры новым грамадскім ладзе. Ён хапаўся за кожную саломінку» *).

Такім чынам утапісты-соцыялісты не ведалі сапраўдных шляхоў перабудовы грамадства. Яны не разумелі, што ўсякі план грамадскай перабудовы павінен, па-першае, грунтавацца на матэрыяльных умовах жыцця грамадства, з'явіцца адлюстраваннем сапраўдных законаў яго развіцця. Яны не разумелі і таго, што рэалізацыя ідэала грамадскай перабудовы магчыма толькі ў класавай барацьбе. Усе свае надзеі яны ўскладалі на маральнае перараджэнне капіталістаў, фабрыкантаў, банкіраў і ўсіх прадстаўнікоў пануючых класаў. Сен-Сімон, Фур'е, Роберт Оуэн думалі, што адзіны дзейсны сродак дабіцца пераўтварэння існуючага ладу і стварэння новага—гэта пераканаць капіталістаў у тым, што эксплаатацыя з'яўляецца справай антымаральнай, а паколькі гэта так, то трэба стварыць новае грамадства, дзе не было-б эксплаатацыі, дзе панавала-б роўнасць. У гэтым—сутнасць іх утапізма.

Уладзімір Ільіч Ленін гаворыць, што утапічны соцыялізм

> «крытыкаваў капіталістычнае грамадства, асуджаў, праклінаў яго, марыў аб знішчэнні яго, фантазіраваў аб лепшым ладзе, пераконваў багатых у амаральнасці эксплаатацыі.
>
> Але утапічны соцыялізм не мог указаць сапраўднага выхаду. Ён не ўмеў ні растлумачыць сутнасць наёмнага рабства пры ка-

*) Г. В. Плеханаў. „Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю", стар. 22—23. ОГІЗ. 1938.

**) Там-жа, стар. 33.

піталізме, ні адкрыць законы яго развіцця, ні знайсці тую **грамадскую сілу**, якая здольна стаць тварцом новага грамадства» *).

Аналізуючы погляды утапістаў-соцыялістаў, Ленін абвясціў наступную выдатную ісціну марксізма:

> «Людзі заўсёды былі і заўсёды будуць глупенькімі афярамі абману і самаабману ў палітыцы, пакуль яны не навучацца за любымі маральнымі, рэлігійнымі, палітычнымі, соцыяльнымі фразамі, заявамі, абяцаннямі вышукваць інтарэсы тых ці іншых класаў» **).

Зусім відавочна, што асноўны парок у поглядах утапістаў-соцыялістаў заключаецца ў тым, што яны не ведалі сапраўдных асноў і законаў грамадскага развіцця. Прарочачы аб пераўтварэнні грамадства, яны не бачылі ісцінных шляхоў, якія павінны прывесці да знішчэння старога і стварэння новага грамадства.

Тым не менш, утапістам-соцыялістам належыць тая заслуга, што яны былі бліскучымі крытыкамі капіталізма ў годы, калі ён яшчэ развіваўся, што яны смела ўскрывалі язвы капіталістычнага ладу. Аднак крытыка гэта аказалася бездапаможнай, бо яны не ведалі сапраўдных законаў развіцця капіталізма, не бачылі рабочага класа, не разумелі яго гістарычнай місіі як магільшчыка буржуазіі, не прызнавалі гістарычнага шляху ў развіцці грамадства, наогул адмаўляючы рэволюцыю, мыслілі звяршыць пераход да соцыялізма шляхам угаварвання, пераконвання капіталістаў у амаральнасці эксплаатацыі.

**У чацвертым раздзеле** сваёй кнігі Плеханаў аналізуе і крытыкуе погляды нямецкага класічнага ідэалізма. Найбольш падрабязна спыняецца ён на поглядах Гегеля, які, як вядома, з'яўляўся вяршынай нямецкага класічнага ідэалізма. Аб Гегелю Плеханаў гаворыць, як аб мысліцелю, які метафізічнаму пункту погляду нязменнасці жыцця проціпаставіў дыялектычны пункт погляду, г. зн. ідэю аб тым, што з'явы жыцця трэба разглядаць у працэсе іх безупыннага руху, што яны не з'яўляюцца застыўшымі, а змяняюцца ў працэсе самога гістарычнага развіцця. У гэтай ідэі—асноўнае, самае галоўнае дасягненне, якога дабілася навуковая мысль у асобе нямецкага класічнага ідэалізма. Гегель гаварыў, што «дыялектыка ёсць душа ўсякага навуковага пазнання», што «кожная з'ява дзеяннем тых самых сіл, якія абумоўліваюць яе існаванне, рана ці позна, але немінуча ператвараецца ў сваю ўласную процілегласць».

Плеханаў гаворыць, што Гегель паказаў, што развіццё трэба разглядаць не толькі як суцэльную эвалюцыю, дзе адна з'ява абумоўлівае і штурхае другую з'яву, а як прадукт, як вынік барацьбы супярэчнасцей, барацьбы процілегласцей унутры адной і той самай з'явы, унутры адзінства. Плеханаў падкрэслівае ўслед за Энгельсам, што гэта палажэнне было вялікім набыткам чалавечай мыслі, вялікім дасягненнем навукі.

Для гегелеўскай дыялектыкі, гаворыць Плеханаў, не менш характэрна і разуменне пераходу адной якасці ў другую, пераходу колькасці ў якасць. Калі працэс развіцця жыцця ёсць працэс барацьбы супярэчнасцей, барацьбы процілегласцей унутры адной і той самай з'явы, то гэта барацьба выражаецца ў пераходзе колькасці ў якасць

---

*) В. І. Ленін, Зб. твораў, том XVI, стар. 352.
**) Там-жа, стар. 353.

і назад—якасці ў колькасць. Плеханаў рэкамендуе ўсім прадстаўнікам навукі, у прыватнасці тым, якія стаяць на пункце погляду эвалюцыі, г. зн. паступовага развіцця, азнаёміцца з гегелеўскім вучэннем, з гегелеўскай логікай. Бо толькі тады яны пазнаюць, што развіццё эвалюцыйнае, паступовае, ведае таксама і скачкі або, выражаючыся гегелеўскай мовай, «перарыў неперарыўнага», г. зн. што развіццё не ёсць нейкая суцэльная непарыўная лінія, а што яно ведае пераходы ў іншы, новы якасны стан, пераходы, якія адбываюцца з дапамогай перарыву агульнай лініі развіцця, з дапамогаю скачкоў.

Аналізуючы падрабязна погляды класічнага ідэалізма ў цэлым і ў прыватнасці погляды Гегеля, Плеханаў выкрывае ідэолагаў народніцтва (Міхайлоўскага і іншых), якія прабавалі апошліць, звесці на нішто дыялектыку Гегеля. Плеханаў абараняе ўсё тое рацыянальнае, што мы знаходзім у гегелеўскай дыялектыцы. Ідэолагі народніцтва «даказвалі», што ва ўсіх творах Гегеля—адны толькі пустыя, абстрактныя схемы, якія не маюць падставы ў жыцці, што Гегель стварыў усялякія лагічныя хітрасплячэнні, якія не маюць пад сабою ніякай навуковай базы. Ідэолагі народніцтва асабліва апалчыліся супроць так званай «трыяды» Гегеля. Пры гэтым яны імкнуліся даказаць, што вучэнне Маркса і Энгельса фактычна зводзіцца да гегелеўскай трыяды, што Маркс і Энгельс нібыта запазычылі гегелеўскую трыяду і на ёй абгрунтавалі сваё вучэнне.

Пытанне аб гегелеўскай трыядзе, аб адносінах марксізма да яе з'яўляецца надзвычай важным. Вельмі падрабязна спыняецца на ім Уладзімір Ільіч Ленін у сваёй кнізе «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» Гэта пытанне падрабязна аналізуе Плеханаў у разглядаемай намі кнізе.

Сутнасць усёй гегелеўскай дыялектыкі, як сцвярджае Міхайлоўскі, зводзіцца да таго, што развіццё свету і ўсяго навакольнага жыцця як-бы ўціскаецца ў лагічную схему трыяды: тэзіс, антытэзіс і сінтэз, што значыць: палажэнне, супроцьпалажэнне і злучэнне або прымірэнне тэзіса з антытэзісам. Ясней кажучы, па думцы Міхайлоўскага, уся гегелеўская дыялектыка зводзіцца да таго, што ён разглядае кожную з'яву, кожную рэч, кожны прадмет з пункту погляду суадносін гэтых трох членаў, што, моў, Гегель падыходзіць прадузята, праднамерана да кожнай з'явы, разглядаючы яе не ў канкрэтным, рэальным існаванні, а толькі з пункту погляду гэтай сваёй лагічнай схемы.

Міхайлоўскі «даказваў», што нібыта закон дыялектыкі, закон аб адмаўленні адмаўлення запазычан з гегелеўскай трыяды. Разважанні Энгельса аб адмаўленні ў яго кнізе «Анты-Дзюрынг» Міхайлоўскі аб'яўляе літаральным паўтарэннем гегелеўскай трыяды.

Плеханаў дае сакрушальны адпор спробам Міхайлоўскага. Ён гаворыць, што не толькі ў Маркса і Энгельса, але і ў Гегеля трыяда не мае таго сэнсу, які стараецца надаць ёй Міхайлоўскі. Маркс і Энгельс, гаворыць Плеханаў, ва ўсіх сваіх творах тлумачылі з'явы не трыядай, а перш за ўсё вывучалі ва ўсіх падрабязнасцях канкрэтную сутнасць таго ці іншага гістарычнага факта, той ці іншай з'явы і толькі тады давалі ёй абагульненне,—ускрываючы яе законамернасць. Маркс і Энгельс ніколі не прыбягалі да схем. Яны вывучалі канкрэтныя факты грамадскіх эпох і на іх падставе ўстанаўлялі законы развіцця. Што датычыць Гегеля, заяўляе Плеханаў, то ў яго творах няма

такога раздзела, у якім-бы гутарка ішла спецыяльна аб гэтай славутай трыядзе. Трыяда Гегеля выступае ва ўсіх яго творах, г. зн. у агульным ходзе развіцця ідэй. Гегель ніколі не адмаўляўся ад аналізу гістарычнай рэчаіснасці, яму зусім не чужда было разуменне таго, што значыць вопыт у галіне прыродазнаўства, у любой галіне навукі. Усе пошласці Міхайлоўскага ў адносінах да славутай трыяды выкрыты Леніным у яго вялікім творы: «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў?» Плеханаў адзначае, што Міхайлоўскі таксама няправільна тлумачыць прыклад з зярном, які прыводзіць Энгельс для растлумачэння, што такое адмаўленне адмаўлення. Калі Энгельс гаворыць, што расліна ў сваім развіцці праходзіць тры ступені: зярно, сцябло, зярно, то ён мае на ўвазе не толькі гэтыя тры ступені развіцця, а тое, што яна праяўляе свае жыццёвыя сілы: расце, цвіце, апладняецца. Інакш кажучы, Энгельс зусім не будуе схему трох момантаў жыцця расліны, ні ў якім разе не ўціскае яе жыццё ў схему гегелеўскай трыяды, як гэта хочацца «даказаць» Міхайлоўскаму, а разглядае яе ва ўсіх момантах канкрэтнага, рэальнага жыцця.

Гаворачы аб філасофіі Гегеля, Плеханаў адзначае, што Гегель, будучы дыялектыкам, разам з тым быў і ідэалістам, а таму не мог правільна вырашыць пытанне аб развіцці грамадства.

Калі, гаворыць Плеханаў, французскія матэрыялісты блыталіся ў праблеме залежнасці нораваў людзей ад канстытуцыі або канстытуцыі ад нораваў людзей, то з гэтай блытанінай Гегель пакончыў. Ён заявіў, што як норавы людзей, так і канстытуцыя залежаць ад трэцяй сілы, якая ляжыць за межамі і нораваў і канстытуцыі. Гэта трэцяя сіла, па Гегелю, з'яўляецца сілай духа, сілай «абсалютнай ідэі». Адсюль мы бачым, што Гегель быў ідэалістам. Гегель сцвярджаў, што дэміургам, тварцом рэчаіснасці, з'яўляецца дух, абсалютная ідэя. У гэтым—корань памылковасці, ілжывасці ўсёй канцэпцыі Гегеля. Па Гегелю, гаворыць Плеханаў, гісторыя народаў ёсць нішто іншае, як рэзультат некаторай асобай сілы, якая стварае і норавы, што ўплываюць на канстытуцыю, і канстытуцыю, што ўплывае на норавы. Гэта сіла ёсць «паняцце», або, інакш кажучы, «ідэя», ажыццяўленнем якой з'яўляецца ўся гісторыя данага народа. Значыць, гэта «ідэя» ёсць нішто іншае, як часціца абсалютнай ідэі, абсалютнага духа. У гэтым—ілжывасць, нявернасць гегелеўскага пункта погляду.

Аналізуючы гегелеўскі ідэалізм, Плеханаў выяўляе яго корані, паказвае, на якой глебе або ў сувязі з чым ён узнікае. Першапачаткова, як гэта паказвае Энгельс, ідэалізм узнік як прадукт невуцкіх уяўленняў першабытнага дзікуна. У далейшым, у сілу раздзялення грамадства на класы, буржуазія замацавала дзеля сваіх інтарэсаў вучэнні і тэорыі ідэалізма. Класавая зацікаўленасць буржуазіі ў прапаведзі рэлігійнага мракабесся і ідэалістычных уяўленняў складае соцыяльны корань ідэалізма. Разам з тым ідэалізм ёсць вынік адрыву чалавечага мышлення, разуменняў чалавека ад матэрыяльнай рэчаіснасці. Плеханаў паказвае гэта ў сваёй кнізе і для падмацавання сваёй думкі прыводзіць выдатнае выказванне Маркса наконт таго, як магчыма з'яўленне ідэалізма наогул:

«Калі я, на падставе знаёмства з сапраўднымі яблыкамі, грушамі, земляніцай, міндалём, выпрацоўваю ў сабе ўяўленне:

**плод;** калі я затым іду далей і ваабражаю, што маё... адцягненае ўяўленне: «плод» існуе па-за мною і нават складае сапраўдную сутнасць груш, яблык і т. д., то я,—выражаючыся мовай умазрыцельнай філасофіі,—аб'яўляю «плод» «субстанцыяй» груш, яблык, міндалю і т. д. Я гавару: для грушы неістотна тая акалічнасць, што яна з'яўляецца ў выглядзе грушы, для яблыка неістотна быць яблыкам. Істотна ў іх... мною ад іх-жа адцягненае ўяўленне: «плод». І я аб'яўляю яблыкі, грушы, міндаль і т. д. простымі відамі існавання—*modi* «плода». Мой канечны рассудак, які апіраецца на знешнія пачуцці, адрознівае, вядома, яблыка ад грушы, а грушу ад міндаля, але мой спекуляцыйны розум аб'яўляе гэтыя адрозненні няважнымі, неістотнымі, ён бачыць у яблыку тое-ж, што і ў грушы, у грушы тое-ж, што і ў міндалі: **«плод».** Розныя сапраўдныя «пляды» разглядаюцца ім толькі як плады-**здані,** сапраўднай сутнасцю, «субстанцыяй» якіх з'яўляецца плод» *).

Гэту выдатную вытрымку з твораў Маркса Плеханаў прыводзіць для таго, каб паказаць сапраўдныя крыніцы ідэалізма. Ідэалізм мог зарадзіцца і зарадзіўся дзякуючы таму, што чалавек мае здольнасць адцягвацца ад канкрэтных, рэальных рэчаў, уяўляць іх па-за іх матэрыяльнай сутнасцю. Ведаючы грушу, яблыка, міндаль, земляніку і т. д. як канкрэтныя фрукты, якія даюць нам пэўныя смакавыя і іншыя адчуванні, мы можам аднак уявіць іх у агульным разуменні «плода» наогул, і калі мы гэта разуменне адарвем ад саміх гэтых фруктаў, то значыць, што мы яго адрываем ад рэчаіснасці, ад тых прычын, якія парадзілі гэта разуменне. А што азначае адрыў разумення ад яго рэальных прычын, ад яго рэчаіснасці? Гэта значыць адрыў свядомасці ад матэрыі, гэта значыць сцвярджэнне незалежнасці свядомасці ад матэрыі, а гэта і ёсць ідэалізм. У гэтым адрыве свядомасці ад матэрыі і карэніцца гегелеўскі ідэалізм. Пры гэтым разуменне, адарванае ад рэчаіснасці, Гегель аб'яўляе самастойным суб'ектам. Больш таго, ён аб'яўляе разуменне, ідэю—дэміургам, тварцом рэчаіснасці.

**У пятым раздзеле** сваёй кнігі, Плеханаў спыняецца галоўным чынам на разборы матэрыялістычнага разумення гісторыі.

Аналізуючы гістарычную тэорыю Маркса, Плеханаў гаворыць, што Маркс зыходзіў з таго простага факта, што людзі для падтрымання свайго жыцця павінны задавольваць элементарныя патрэбы: есці, піць, адзявацца. Для гэтага яны павінны, уздзейнічаючы на навакольную прыроду, узяць ад яе адпаведныя матэрыяльныя здабыткі. А ўздзейнічаць на прыроду чалавек можа толькі ў працэсе працы. Працуе чалавек з дапамогаю сваіх прыродных органаў—рук, далучаючы да іх штучныя органы—прылады вытворчасці. Жыццё грамадства пачынаецца іменна з таго моманту, калі людзі для ўздзеяння на навакольную прыроду пачынаюць ужываць сродкі або прылады **працы.**

Плеханаў не раз упамінае выражэнне Франкліна, якое прыводзіць Маркс, што чалавек ёсць жывёла, якая робіць прылады працы і карыстаецца імі. Ва ўжыванні чалавекам прылад працы, прылад вытворчасці і ляжыць, як геніяльна паказаў Маркс, аснова жыцця грамад-

*) **Г. В. Плеханаў.** „Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю" стар. 64—65.

ства, аснова чалавечай гісторыі. Карыстаючыся прыладамі вытворчасці, людзі ўступаюць або паміж людзьмі складаюцца пэўныя адносіны да гэтых прылад вытворчасці, і гэтыя адносіны да прылад вытворчасці абумоўліваюць адносіны паміж самімі людзьмі. Іменна ў адносінах людзей да сродкаў вытворчасці, а, значыць, у адносінах паміж людзьмі, і ляжыць аснова грамадскага жыцця людзей. Значыць, рэальны базіс, фундамент грамадства складаюць прадукцыйныя сілы і вытворчыя адносіны данага грамадства.

Гэта адзіна навуковая тэорыя грамадскага развіцця з'яўляецца велізарнейшым сусветным адкрыццём, якое зрабілі Маркс і Энгельс. Яны паклалі канец панаваўшым да іх ідэалістычным тэорыям у поглядах на грамадскае жыццё. Смяротны ўдар быў нанесен так званым «тэорыям» аб тым, што лёс гісторыі, лёс грамадства залежыць ад розуму, што ў аснове гісторыі, у аснове грамадства ляжыць нязменная «чалавечая прырода». Быў створан адзіна навуковы, адзіна правільны пагляд на грамадства Маркс і Энгельс устанавілі, што пружыну развіцця грамадства трэба шукаць у матэрыяльных умовах жыцця гэтага грамадства, у эканамічных яго ўмовах. Гэтым самым Маркс і Энгельс упершыню ў гісторыі чалавецтва пашыралі матэрыялізм на з'явы грамадскага жыцця. Да Маркса і Энгельса ў разуменні гістарычнага працэса панавалі ідэалізм, беспрасветная метафізіка, і ніхто з мысліцеляў не ўзвысіўся да разумення матэрыяльных асноў грамадскага развіцця. Толькі Маркс і Энгельс упершыню вывучылі грамадства на аснове дыялектычна-матэрыялістычнага светапогляду. Яны, як выражаецца Ленін, пашырылі матэрыялізм на галіну вывучэння з'яў гісторыі, з'яў грамадскага жыцця. Вядома, што матэрыялісты, да Маркса і Энгельса, былі матэрыялістамі знізу, але ідэалістамі зверху. Яны былі матэрыялістамі ў разуменні з'яў прыроды, але яны не маглі матэрыялістычна падыходзіць да з'яў грамадскага жыцця. Гэта вялікае зрабілі толькі Маркс і Энгельс. Толькі ў святле іх вялікага адкрыцця, як паказаў Ленін, гісторыя стала навукай. Толькі з гэтай пары гістарычная навука стала сапраўднай навукай, толькі ў святле марксізма ўсе гістарычныя з'явы сталі яснымі.

Бліскуча раз'ясняючы тэорыю марксізма ў разуменні з'яў грамадскага жыцця, Плеханаў указвае на адзін вельмі важны момант. Калі развіццё грамадства абумоўліваецца развіццём прадукцыйных сіл, калі адносіны паміж людзьмі ў працэсе вытворчасці складаюцца на падставе прадукцыйных сіл, «незалежна ад волі саміх людзей»— як гаворыць Маркс, то выходзіць, што гістарычны працэс з'яўляецца аб'ектыўным працэсам, гэта значыць мае свае ўласныя законы развіцця. Інакш кажучы, развіццё гісторыі адбываецца на падставе законаў развіцця прадукцыйных сіл, не з'яўляецца плодам той ці іншай ідэі або тэорыі, выдуманай «крытычна мыслячай асобай». Значыць, не асоба творыць гісторыю, а, наадварот, сама асоба з'яўляецца прадуктам гісторыі.

Плеханаў прыводзіць мноства прыкладаў, якія сведчаць аб тым, што іменна матэрыялістычнае разуменне гісторыі з'яўляецца адзіна правільным, адзіна навуковым разуменнем.

Асаблівасцю плеханаўскіх твораў з'яўляецца вельмі яркая, сакавітая мова, мноства прыкладаў з гісторыі і літаратуры. Спынімся, у прыватнасці, на такім прыкладзе. Адкрыццё Марксам матэрыялістычнага разумення гісторыі Плеханаў параўноўвае з адкрыццём Каперніка. Да Каперніка, гаворыць Плеханаў, астраномія вучыла, што цэн-

цэнтрам свету з'яўляецца зямля, якая стаіць нерухома, а вакол яе паварачваюцца сонца і ўсе астатнія нябесныя свяцілы. Нікалай Капернік падышоў да справы з процілеглага канца: ён даказаў, што не зямля і нябесныя свяцілы з'яўляюцца цэнтрам сусвету, а сонца, вакол якога паварачваецца зямля. Такім чынам быў знойдзен правільны пункт погляду, і стала ясным многае з таго, што было няясна да Каперніка. Гэта адкрыццё было громам сярод яснага дня, бо ўшчэнт разбіла лічыўшуюся непахіснай тэорыю аб тым, што зямля—цэнтр сусвету.

Маркс, як і Капернік, падышоў да справы з другога канца. У процівагу ўсім панаваўшым да яго ідэалістычным тэорыям, якія сцвярджалі, што розум творыць гісторыю, Маркс даказаў, што ўзнікненне і развіццё самаго розуму трэба бачыць у матэрыяльных умовах жыцця людзей. Маркс даказаў, што не грамадская свядомасць абумоўлівае грамадскае быццё, а наадварот, грамадскае быццё вызначае грамадскую свядомасць. У гэтым—веліч перавароту, зробленага Марксам у грамадскай навуцы.

Вялікае вучэнне Маркса, натуральна, не магло падабацца прадстаўнікам буржуазнай ідэалогіі, і яны сустрэлі яго ў штыкі. Пачалося шалёнае выццё супроць магутнай тэорыі марксізма. Марксізм пачалі абвінавачваць у тым, што ён усё зводзіць да грубых матэрыяльных фактараў, кладзе ў аснову ўсяго духоўнага (з вялікай літары), у аснову свядомасці чалавека, грубую матэрыю—быццё.

Плеханаў едка высмейвае ўсіх мяшчан і абывацеляў з буржуазнага асяроддзя, якіх тэорыя марксізма зачапіла за жывое.

«Звычайнаму рускаму чытачу гістарычная тэорыя Маркса здаецца нейкім гнусным пасквілем на чалавечы род. У Г. І. Успенскага,—калі не памыляемся, у «Разарэнні»,—ёсць старуха-чыноўніца, якая нават у перадсмяротным брэдзе ўпарта паўтарае гнуснае правіла ўсяго свайго жыцця: «у кішэню старайся, у кішэню!». Руская інтэлігенцыя наіўна думае, быццам Маркс прыпісвае гэта гнуснае правіла ўсяму чалавецтву; быццам ён сцвярджае, што чым-бы ні займаліся сыны чалавечыя, яны заўсёды, выключна і свядома, «стараліся ў кішэню». Бескарыснаму рускаму «інтэлігенту» падобны погляд натуральна настолькі-ж «несімпатычны», як «несімпатычна» тэорыя Дарвіна якой-небудзь тытулярнай саветніцы, якая думае, што ўвесь сэнс гэтай тэорыі зводзіцца да таго абураючага палажэння, што вось, моў, яна, паважная чыноўніца, прадстаўляе сабою не больш як прыбраную ў чэпчык малпу» *).

На працягу многіх старонак сваёй кнігі Плеханаў паказвае, што такое ўяўленне аб марксізме з боку буржуазных ідэолагаў ёсць свядомае апашленне яго. Плеханаў гаворыць, што марксізм, гістарычны матэрыялізм, зусім не зводзіцца да так званага эканамічнага матэрыялізма, што сама назва «эканамічны матэрыялізм» прыдумана буржуазнымі ідэолагамі, што пошласцю з'яўляецца такое ўпадабленне гістарычнага матэрыялізма эканамічнаму матэрыялізму, калі зводзяць тэорыю марксізма аб грамадстве выключна толькі да прызнання дзейнічання эканамічнага фактара, калі даказваюць, што быццам марксізм не прызнае велізарнейшую сілу і значэнне ідэй, тэорый, поглядаў, палітычных устаноў у развіцці грамадскага жыцця.

*) Г. В. Плеханаў, „Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю", стар. 72.

Гэта пытанне дасканала асветлена ў чацвертым раздзеле «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)», дзе сказана:

> «Што датычыць **значэння** грамадскіх ідэй, тэорый, поглядаў, палітычных устаноў, што датычыць іх **ролі** ў гісторыі, то гістарычны матэрыялізм не толькі не адмаўляе, а, наадварот, падкрэслівае іх сур'ёзную ролю і значэнне ў жыцці грамадства, у гісторыі грамадства» *).

У сваім пісьме Іосіфу Блоху ад 21 лістапада 1890 года Энгельс пісаў:

> «Згодна матэрыялістычнаму разуменню гісторыі ў гістарычным працэсе вызначаючым момантам у канчатковым выніку з'яўляецца вытворчасць і ўзнаўленне сапраўднага жыцця. Ні я, ні Маркс большага не сцвярджалі. Калі хто-небудзь гэта палажэнне сказіць у тым сэнсе, што быццам эканамічны момант з'яўляецца **адзіным** вызначаючым момантам, тады сцвярджэнне гэта ператвараецца ў нічога не гаворачую, абстрактную бяссэнсную фразу. Эканамічнае становішча—гэта аснова, але на ход гістарычнай барацьбы аказваюць уплыў і ва многіх выпадках вызначаюць пераважна **форму** яе розныя моманты надбудовы» **).

Плеханаў выступае супроць буржуазных пашлякоў, якія імкнуліся даказаць, быццам марксізм не прызнае значэння ідэй, тэорый для развіцця грамадскага жыцця. У прыведзенай вышэй вытрымцы Энгельс ясна гаворыць, што марксізм зусім не стаіць на тым пункце погляду, быццам «эканамічны момант з'яўляецца адзіным вызначаючым момантам» у гістарычным працэсе. Такое сцвярджэнне, гаворыць Энгельс, «ператвараецца ў нічога не гаворачую абстрактна-бяссэнсную фразу». Марксізм сцвярджае, што эканамічныя ўмовы ў сістэме ўсіх астатніх момантаў толькі **ў канчатковым выніку з'яўляюцца абумоўліваючым момантам.** Мы стаім на пункце погляду прызнання ўзаемадзеяння розных момантаў грамадскага жыцця. Але, сцвярджаючы, што ідэі маюць велізарны ўплыў на развіццё грамадства, мы тым не менш сцвярджаем, што базісам ідэалогіі з'яўляецца эканоміка, што дамініруюць эканамічныя ўмовы жыцця. Гэтым самым марксізм знішчае славутую буржуазную тэорыю «узаемадзеяння фактараў», паводле якой усе «фактары» грамадскага жыцця адыгрываюць аднолькавую ролю ў гістарычным працэсе. Гэта «тэорыя» не вытрымлівае ніякай крытыкі. Плеханаў рашуча выступае супроць гэтай пошлай буржуазнай тэорыі.

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» гэта пытанне асветлена з усёй навуковай глыбінёю. У чацвертым раздзеле гэтай выдатнай працы гаворыцца:

> «Новыя грамадскія ідэі і тэорыі ўзнікаюць толькі пасля таго, як развіццё матэрыяльнага жыцця грамадства паставіла перад грамадствам новыя задачы. Але пасля таго, як яны ўзніклі, яны становяцца сур'ёзнейшай сілай, якая аблягчае вырашэнне новых задач, пастаўленых развіццём матэрыяльнага жыцця грамадства,

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 110.
**) **Маркс і Энгельс, „Пісьмы"**, стар. 374—375, выд. 1931 г.

якая аблягчае прасоўванне грамадства наперад. Тут іменна і сказваецца найвялікшае арганізуючае, мабілізуючае і пераўтвараючае значэнне новых ідэй, новых тэорый, новых палітычных поглядаў, новых палітычных устаноў» *).

Некалькі слоў аб ролі асобы ў гісторыі. Плеханаў паказвае, што марксізм зусім не адмаўляе ролі і значэння асобы ў гісторыі. З усёй паўнатою пытанне аб ролі асобы ў гісторыі вырашаецца Плеханавым у другім яго творы—«Да пытання аб ролі асобы ў гісторыі». Але і ў разглядаемай працы Плеханаў адзначае, што толькі марксізм адкрыў сапраўдную аснову, якая дае магчымасць асобе праявіць сябе ў гістарычным працэсе. Марксізм сцвярджае, што дзейнасць асобы ў гісторыі мае сваю матэрыяльную эканамічную аснову. Толькі ў святле разумення таго, што ў аснове развіцця грамадства ляжаць матэрыяльныя прадукцыйныя сілы, мы можам гаварыць аб значэнні і ролі асобы ў гістарычным працэсе. Толькі ў святле матэрыялістычнага разумення гісторыі становіцца зразумелым, на якой базе асоба развівае сваю дзейнасць. Асоба адыгрывае вялікую ролю ў гісторыі тады, калі дзейнасць асобы выражае аб'ектыўны ход гістарычнага развіцця, калі дзейнасць асобы не ідзе ўразрэз з аб'ектыўным, законамерным ходам развіцця гісторыі, калі дзейнасць асобы выражае інтарэсы, імкненні шырокіх народных мас. Плеханаў бліскуча разбівае ўсю пошласць народніцкіх уяўленняў, што нібыта крытычна мыслячая асоба адыгрывае рашаючую ролю ў гістарычным працэсе, што толькі яна вызначае лёс гісторыі.

У «Заключэнні» сваёй кнігі Плеханаў крытыкуе «практычны розум» ворагаў марксізма—народнікаў. З'яўляючыся да мазга касцей утапістамі, народнікі абвінавачвалі марксізм у тым, што ён не мае «ідэалаў», раз ён апіраецца на эканамічную рэчаіснасць, а не на ідэалы. Плеханаў выкрывае гэты паклёп народнікаў. Ён указвае, што ў Маркса і Энгельса быў ідэал, і вельмі акрэслены: «падпарадкаванне неабходнасці—свабодзе, сляпых эканамічных сіл—сіле чалавечага розуму», што ідэалам Маркса і Энгельса быў ідэал вызвалення пралетарыята і знішчэння буржуазнага ладу. У барацьбе за гэты свой ідэал Маркс і Энгельс апіраліся на эканамічную рэчаіснасць, а не на маральныя пачуцці і ўздыханні, як гэта рабілі народнікі.

У сувязі з гэтым Плеханаў падрабязна разглядае пытанне аб развіцці капіталізма ў Расіі. Супроць развіцця капіталізма ў Расіі выступілі на словах народнікі, але на справе яны былі «пасобнікамі капіталізма ў самым грубым, у самым пошлым і ў самым шкодным яго выглядзе». Плеханаў вельмі метка выкрывае паклёп народнікаў на Маркса, якія, імкнучыся прыпісаць яму нейкі фаталістычны погляд, заяўлялі, быццам Маркс вучыў, што капіталізм «безумоўна абавязковы» для ўсіх краін. Плеханаў прыводзіць вытрымку з пісьма Маркса да рэдактара «Отечественных записок», дзе сам Маркс выкрывае гэты бессаромны паклёп народнікаў.

«Майму крытыку,—гаворыць Маркс,—угодна было мой нарыс гісторыі паходжання заходне-еўрапейскага капіталізмаператварыць у цэлую гісторыка-філасофскую тэорыю гістарыч-

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 110.

нага шляху народаў, фатальным чынам прадвызначанага для кожнага з іх, якімі-б ні былі ўмовы яго гістарычнага быцця. Але я прашу прабачыць мяне: такое талкаванне для мяне адначасова і надта ганарова, і надта ганебна» *).

Плеханаў указвае, што Маркс ніякіх краін ні да чаго не прыгаварваў і ў аналізе любога пытання, у тым ліку і аб развіцці капіталізма ў Расіі, заўсёды выходзіў з канкрэтнага ўліку эканамічнай рэчаіснасці і суадносін класавых сіл. Што датычыць Расіі, то Маркс ясна і чотка ўказаў:

«Калі Расія будзе працягваць ісці па таму шляху, на які яна ўступіла з часу вызвалення сялян, то яна зробіцца зусім капіталістычнаю краінай, а пасля гэтага, раз трапіўшы пад ярмо капіталістычнага рэжыму, ёй прыдзецца падпарадкавацца няўмольным законам капіталізма нароўні з іншымі народамі» (цыціравана па Плеханаву, стар. 142).

Плеханаў далей выкрывае ўсю недарэчнасць таго, як ставяць народнікі пытанне аб развіцці капіталізма ў Расіі. Фактам, гаворыць Плеханаў, з'яўляецца тое, што Расія ўступіла ўжо на шлях капіталістычнага развіцця, і народнікі ставяць сябе ў смешнае становішча фантазёраў і ідэалістаў, адмаўляючы гэты факт.

«Задача рэвалюцыянераў,—гаворыцца ў «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)»,—была не ў тым, каб **затрымаць** развіццё капіталізма ў Расіі,—гэтага яны ўсёроўна не маглі-б зрабіць. Задача рэвалюцыянераў заключалася ў тым, каб аперціся на тую магутную рэвалюцыйную сілу, якая параджаецца развіццём капіталізма,—на рабочы клас, развіваць яго класавую свядомасць, арганізаваць яго, дапамагчы яму стварыць сваю рабочую партыю».

Зробім кароткія вывады з усяго сказанага намі аб кнізе Плеханава «Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю».

Гэта праца Плеханава мела выключнае значэнне ў папулярызацыі, прапагандзе ідэй марксізма ў Расіі.

1. Плеханаў бліскуча паказаў гістарычную і тэарэтычную сувязь марксізма з усім папярэднім навуковым развіццём, адначасова выявіўшы ўсю абмежаванасць дамарксавых вучэнняў аб грамадстве і разам з тым адзначыўшы ўсё тое, што было ў іх дадатнага.

2. Як і ў радзе іншых сваіх прац, Плеханаў выкрыў народнікаў, як жалкіх эпігонаў, утапістаў, якія прабавалі павярнуць назад кола гісторыі, як ворагаў марксізма, якія фактычна з'яўляліся пасобнікамі капіталізма.

3. Грунтуючыся на багацейшым гістарычным матэрыяле, Плеханаў паказаў усю веліч гістарычнай тэорыі марксізма, бліскуча крытыкуючы пры гэтым усіх і ўсякіх яго ворагаў. Побач з тлумачэннем сутнасці вучэння марксізма аб прадукцыйных сілах і вытворчых адносінах Плеханаў удзяліў вялікую ўвагу пытанню аб ролі масы, класаў і асоб у гісторыі, пытанню суадносін свабоды і неабходнасці. Гаворачы аб

*) Г. В. Плеханаў, „Да пытання аб развіцці маністычнага погляду на гісторыю", стар. 141.

узаемадзеянні розных бакоў грамадскага жыцця, Плеханаў выпяціў пытанне аб суадносінах палітыкі і эканомікі ў грамадскім жыцці, аб уплыве палітыкі на эканоміку. Гэта пытанне мае выключнае значэнне.

Таварышы, аб радзе работ Плеханава Ленін гаварыў, што яны павінны ўвайсці ў «серыю абавязковых падручнікаў комунізма». Разгледжаная намі кніга Плеханава адносіцца да гэтай серыі.

# Народнае паўстанне ў Кітаі ў 1900 годзе

*Комсамольскі прапагандыст з горада Жлобіна тав. Злыноў Г. В. просіць растлумачыць пытанне аб народным паўстанні ў Кітаі ў 1900 годзе. Адказваем на гэта пытанне.*

Працоўныя масы Кітая ўпісалі многа бліскучых старонак у гісторыю рэволюцыйнай барацьбы. У сярэдзіне XIX стагоддзя Кітай перажыў самы шырокі народны рух, накіраваны на пераўтварэнне краіны. Гэты рух, вядомы ў гісторыі пад назвай «тайпінскага паўстання», пачаўся ў паўднёва-ўсходнім Кітаі і неўзабаве ахапіў велізарную тэрыторыю ад Кантона да Пекіна. Паўстанцы атрымлівалі адну перамогу за другой. Іх армія хутка вырасла да 350 тысяч. Прагніўшая манархія стаяла перад грознай небяспекай: рэволюцыйны рух гатоў быў сцерці яе з твару кітайскай зямлі. Аднак гэтага не здарылася. Супроць кітайскага народа выступілі замежныя капіталістычныя дзяржавы, якія сілаю сваіх войск у 1864 годзе ўзялі горад Нанкін і ўчынілі зверскую расправу з насельніцтвам горада. Да 20 мільёнаў кітайцаў загінула тады па ўсяму Кітаю ад рукі замежных драпежнікаў.

У выніку гэтай ваеннай авантуры была разбурана баваўняная прамысловасць Кітая. Англійскія тавары запаланілі яго рынкі. У 1885 годзе Францыя прымусіла Кітай прызнаць французскае права на Індa-Кітай.

Расія таксама ўсё бліжэй прасоўвалася да Кітая. У 1865 г. руская армія ўзяла Ташкент, у 1868—Самарканд, у 1873—Хіву, у 1868—Каканд, а ў 1891 годзе прыступіла да пабудовы Сібірскай чыгункі. Можна сказаць, што к 80-м годам сухаземнае імперыялістычнае акружэнне Кітая было ўжо завершана. А з мора працягнула да Кітая сваю лапу Японія.

З 80-х год пачынаюцца захваты кітайскай тэрыторыі. Францыя ў 1885 годзе авалодала Анамам, Англія ў 1886 годзе—Бірмай. На арэну барацьбы за падзел Кітая выступілі новыя імперыялістычныя сілы ў асобе Японіі і Германіі. Захватніцкія апетыты Японіі былі надта вялікі. Спяшаючы развязаць вайну, яна ў 1894 годзе нечакана напала на Кітай, які не змог даць адпору імперыялістычнаму драпежніку. Пацярпеўшы жорсткае паражэнне, ён вымушан быў прыняць цяжкія ўмовы міру, навязаныя японскімі рабаўнікамі.

Японія захапіла тады Ляодунскі поўвостраў з крэпасцю Порт-Артурам, востраў Фармозу і Песпадорскія астравы. Але захваты Японіі ў Кітаі закраналі інтарэсы іншых капіталістычных дзяржаў. Царская Расія, Францыя і Германія прымусілі Японію адмовіцца ад Ляодунскага поўвострава. Аднак Кітаю ад гэтага лягчэй не стала. Кітайскі народ выплачваў Японіі кантрыбуцыю ў суме 450 млн. руб.

У хуткім часе Кітай зноў страціў Ляодунскі поўвостраў, які, пад выглядам арэнды, удалося захапіць Расіі. Ляодунскі поўвостраў прыцягваў да сябе ўвагу царскага ўрада сваёй незамярзаючай гаванню з крэпасцю Порт-Артурам. У 1898 г. Расія шляхам узятак на вельмі выгадных умовах атрымала канцэсію на пабудову чыгункі ў Манчжурыі і, пад выглядам аховы чыгуначнага будаўніцтва, увяла туды свае войскі.

Не адставалі ў рабунку Кітая і іншыя імперыялістычныя акулы. У 1898 г. Германія захапіла ў Шандуне раён Цзяо-Чжоу з портам Цындао. Францыя набыла канцэсіі на Юнь-Сяньскую чыгунку і атрымала ў сваё распараджэнне заліў Гуань-Чжоу-Вань. Англія захапіла Вэй-Хай-Вэй. У 1899 г. з прэтэнзіямі на тэрытарыяльныя набыткі ў Кітаі выступіла Італія.

Так пачаўся рабунак кітайскіх зямель.

Працоўныя масы Кітая на замежную эксплаатацыю і рабункі адказалі народным паўстаннем. Адна з удзельніц рэвалюцыйнага руху Кітая кітаянка Сумэ-Чэнг так расказвае аб гэтым у сваёй кнізе:

> «Год за 10 да гэтых падзей каму-ні-каму з кітайскай моладзі пашчаслівілася паехаць вучыцца за граніцу. Звярнуўшыся на радзіму, яны сталі задумвацца, чаму так бедны наш народ, калі краіна ўладае незлічонымі багаццямі? Чаму столькі паміраючых ад голаду, калі пры правільным земляробстве можна было-б збіраць велізарнае жніво? Чаму кожны год цэлыя вобласці залівае вада, чаму гінуць мільёны людзей, і ніхто не навучыць, як змагацца з паводкамі? Хіба сярод такога велізарнага народа не знойдзецца здольных да вучэння? Чаму-ж не адкрыюць школ, дзе-б растлумачылі, як перамагаць прыроду? Хто-ж у гэтым вінават? Адказ быў ясны: вінаваты тыя, хто кіруе народам, вярней, хто яго прыгнятае».

Вось чаму глеба ў Кітаі для развіцця рэвалюцыйнага руху была моцна ўзрыхлена. Народ накапляў сілы для барацьбы, ствараў свае рэвалюцыйныя арганізацыі. Так узнікла таварыства «І-хэ-туань», якое ставіла перад сабой задачу: прагнаць усіх чужаземцаў, знішчыць іх магазіны і чыгункі. Але дзейнасць членаў таварыства не абмяжоўвалася толькі гэтым. Яны вялі барацьбу таксама і супроць пануючых класаў унутры краіны.

У гістарычнай літаратуры ўпамінаецца «Таварыства вялікага нажа». Гэта тое-ж таварыства, толькі пад другою назвай. Дзеячоў таварыства «І-хэ-туань» англічане называлі «баксёрамі».

Члены таварыства працавалі скрыта. Шырока ўцягваючы ў свае рады моладзь, яны рыхтаваліся да паўстання.

Летам 1898 г. адбылося вялікае навадненне. Рака Жоўтая заліла многія населеныя пункты. 165 тысяч жыхароў пазбавіліся прытулку. У тым-жа годзе з-за неўраджаю ў правінцыях па ніжняму цячэнню ракі Янцзы, натоўпы галадаючых сялян ішлі шукаць хлеба і работы на новыя месцы, дзе сутыкнуліся з замежнымі прыгнятальнікамі. Галодныя і абяздоленыя масы былі магутнаю сілай у барацьбе супроць чужаземцаў. Рух набыў велізарныя памеры. Дзейны ўдзел прымалі ў ім баксёры.

На барацьбу з паўстаўшым народам Кітая імперыялісты пасылаюць узброеныя сілы. У сакавіку і красавіку 1899 г. нямецкі атрад заняў горад І-Чжоу ў Шаньдунскай правінцыі. Настроі насельніцтва

супроць захватчыкаў яшчэ больш абвастрыліся. Восенню рух перакінуўся ў суседнюю правінцыю Чжылі, а потым і ў правінцыю Шаньсі. Найбольшай сілы паўстанне дасягнула ў раёне Жоўтай ракі, у правінцыі Шаньсі і ў Манчжурыі.

Кітайскі ўрад, вымушаны лічыцца з барацьбой народных мас, аб'явіў аб пачатку ваенных дзеянняў супроць замежных дзяржаў. 21 чэрвеня 1900 года атрады баксёраў былі прызнаны часткаю ўрадавых войск. Галоўнакамандуючымі ўсімі сіламі «баксёраў» былі прызначаны прынц Чжуань і герцаг Цзай-Лань.

Ваенныя дзеянні фактычна пачаліся 10 чэрвеня, калі з Цяньцзіна выступіла першая экспедыцыя замежных аб'яднаных войск для падмацавання пасольскай аховы горада Пекіна. Па дарозе экспедыцыя сустрэлася з баксёрскімі атрадамі. Адбылася бойка, і 16 чэрвеня замежная экспедыцыя вымушана была адступіць назад к Цяньцзіну. 17 чэрвеня чужаземцы ўзялі форт Таку, які абараняў дарогу, што ішла на Цяньцзін і ў сталіцу Пекін.

У падаўленні народнага паўстання ў Кітаі прымала ўдзел восем дзяржаў: Японія, Германія, Англія, Францыя, Аўстрыя, ЗША, Італія і Расія. Галоўную ролю адыгралі Японія і Германія.

14 ліпеня замежнае войска ўзяла горад Цяньцзін, што адкрыла дарогу на Пекін.

4 жніўня на кітайскую армію пачаўся націск атрада злучаных войск, уключаючы рускія, амерыканскія і японскія, пад агульным камандаваннем рускага генерала Ліневіча. У гэтым атрадзе, які складаўся з 18 тысяч чалавек, пераважалі японцы.

Па дарозе ад Цяньцзіна к Пекіну кітайскія рэгулярныя войскі і «баксёры» былі разбіты.

У два дні, 14 і 15 жніўня, Пекін быў заняты замежнымі войскамі. Над кітайскім народам адбылася жудасная расправа.

Владзімір Ільіч Ленін у сваім артыкуле «Кітайская вайна», надрукаваным у першым нумары газеты «Искра», які вышаў у момант вайны, у 1900 годзе, пісаў:

> «І калі называць рэчы іх сапраўдным іменем, то трэба сказаць, што еўрапейскія ўрады (і рускі амаль ці не першы з іх) пачалі ўжо раздзел Кітая. Але яны пачалі раздзел не адкрыта, а спадцішка, як зладзеі. Яны прыняліся абкрадваць Кітай, як крадуць з нябожчыка, а калі гэты мнімы нябожчык папрабаваў аказаць супраціўленне, яны кінуліся на яго, як дзікія звяры, выпальваючы цэлыя вёскі, топячы ў Амуры, расстрэльваючы і паднімаючы на штыкі бяззбройных жыхароў, іх жон і дзяцей» *).

Усе вялікія дзяржавы атрымалі па ўчастку зямлі ў горадзе Цяньцзіне. Умацаваныя форты ў гэтым горадзе былі зрыты. У прыморскіх гарадах Кітая і ў Пекіне чужаземцы атрымалі права трымаць свае войскі.

Імператарскі ўрад Кітая таксама пачаў расправу з паўстанцкім рухам і дапамог імперыялістам хутчэй разграміць рэволюцыйныя сілы Кітая.

У гэты час царская Расія, пад выглядам барацьбы з «мяцежні-

*) В. І. Ленін, т. IV, стар. 61.

камі», адпраўляе рускую армію на захват Манчжурыі. Урад царскай Расіі імкнуўся выкарыстаць спрыяючы момант для новых заваёў.

Ленін так характарызуе разбойніцкую палітыку імперыялістаў у адносінах да кітайскага народа.

> «Гэту палітыку рабунку даўно вядуць у адносінах да Кітая буржуазныя ўрады Еўропы, а цяпер да яе далучыўся і рускі самадзяржаўны ўрад» *).

Ленін тады-ж паказаў, што вайна з Кітаем вядзецца не ў інтарэсах рускага народа, а дзеля нажывы кучкі капіталістаў. Царскі ўрад захапіў у Кітаі Порт-Артур, акупаваў Манчжурыю, панасаджваў у кітайскіх пагранічных абласцях зграі падрадчыкаў, інжынераў і афіцэраў. На пабудове чыгункі, якую праводзіў царскі ўрад, рабочым-кітайцам плацілі па 10 капеек у дзень.

Ленін паказаў, каму была выгадна такая шалёная палітыка ў Кітаі:

> «Яна выгадна кучцы капіталістаў-тузоў, якія вядуць гандлёвыя справы з Кітаем, кучцы фабрыкантаў, якія вырабляюць тавары на азіяцкі рынак, кучцы падрадчыкаў, якія нажываюць цяпер шалёныя грошы на тэрміновых ваенных заказах. Такая палітыка выгадна кучцы дваран, якія займаюць высокія месцы на грамадзянскай і ваеннай службе. Ім патрэбна палітыка прыгод, таму што ў ёй можна выслужыцца, зрабіць кар'еру, праславіць сябе «подвігамі». Інтарэсам гэтай кучкі капіталістаў і чыноўных прайдох наш урад, без хістання, прыносіць у афяру інтарэсы ўсяго народа. Самадзяржаўны царскі ўрад і ў гэтым выпадку, як і заўсёды, аказваецца ўрадам безадказных чыноўнікаў, якія рабалепнічаюць перад тузамі-капіталістамі і дваранамі» **).

Народ Расіі ад вайны цярпеў многа бядот. Дзесяткі тысяч рускіх салдат адпраўляліся ў Кітай. Іх сем'і разараліся. На вайну выдаткоўваліся сотні мільёнаў рублёў. Велізарны рост дзяржаўных даўгоў і выдаткаў выклікаў павелічэнне налогаў. Становішча рабочых і сялян пагаршалася. Улада капіталістаў узмацнялася. Расла смяротнасць сялянства. У Сібіры панаваў голад. Такія плады прыносіла вайна для народа.

Царскі ўрад не толькі трымаў у рабстве свой народ, ён пасылаў яго на «уціхаміранне» іншых народаў, што ўзнімаліся супроць свайго рабства.

Народнае паўстанне ў Кітаі, накіраванае супроць чужаземцаў-імперыялістаў, аказалася разгромленым пры самым актыўным удзеле царскай арміі. Гераічная спроба паўстанцаў прагнаць імперыялістаў абышлася надта дорага кітайскаму народу. Кітаю былі навязаны вельмі цяжкія ўмовы міру. Па дагавору, які быў падпісан 7 верасня 1901 года, Кітай абавязваўся ўнесці звыш мільярда рублёў кантрыбуцыі замежным дзяржавам.

Па гэтаму-ж дагавору ўводзілася пастаянная ваенная акупацыя паласы ўздоўж чыгункі ад Пекіна да Цяньцзіна. Пекінскі дыпламатычны квартал ператварыўся ў крэпасць чужаземцаў, занятую пастаянным гарнізонам і прыстасаваную для вайны з Кітаем. Былі ра-

*) В. І. Ленін, т. IV, стар. 61.
**) Там-жа, т. IV, стар. 62.

засланы экспедыцыі для канчатковага падаўлення паўстанцкага руху. Многія кіраўнікі і ўдзельнікі народнага паўстання былі пакараны смерцю. Але народныя масы Кітая і ў далейшым не раз узнімаліся на барацьбу за сваё вызваленне. Мы з'яўляемся зараз сведкамі таго, як увесь Кітай узняўся на барацьбу з японскімі захватчыкамі.

Спроба рускага царызма замацавацца ў Манчжурыі не ўдалася. Царскай Расіі аказалі моцнае супраціўленне іншыя дзяржавы. Адмірал Алексееў пачаў перагаворы з кітайскім урадам аб тым, каб адклікаць кітайскія войскі з Мукдэнскай правінцыі, а на іх месца ўвесці рускую армію. Англія і Японія выступілі супроць гэтага. Барацьба за кітайскія землі разгарэлася з новаю сілай. Англія і Японія заключылі саюз супроць Расіі. Пацвердзіліся словы Леніна аб тым, што на Усход насоўваецца новая вайна.

«Царскаму ўраду пагражае банкроцтва, а ён кідаецца ў палітыку заваёў,—палітыку, якая не толькі патрабуе велізарных грашовых сродкаў, але і пагражае ўцягнуць у яшчэ больш небяспечныя войны» *).

Набліжалася руска-японская вайна.

Разразілася яна ў студзені 1904 года, калі Японія нечакана напала на рускую крэпасць Порт-Артур і потым заняла яе.

«Царскі ўрад аказаўся вымушаным заключыць ганебны мір з Японіяй. Японія захваціла Карэю, забрала ў Расіі Порт-Артур і палавіну Сахаліна» **).

**Т. Гладзікаў.**

*) **В. І. Ленін**, т. IV, стар. 63.
**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)“, стар. 53.



Уп. Галоўліта БССР № Ш 147.
Тыраж 6.945 экз.
380.160 друк. зн. (7 арк.)
Здана ў набор 12/II—39 г.
Падпісана да друку 4/III—39 г.

*РЭДКАЛЕГІЯ.*

Друкарня імя Сталіна, Менск, Дом Друку. Зак. № 307.

ЦАНА 40 кап.

